# З М Е С Т

# ПАРУШЭННІ СВАБОДЫ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ Ў БЕЛАРУСІ Ў 2004 г. (аглядны матэрыял)

2004 г. для Беларусі быў годам правядзення парламенцкіх выбараў і рэферэндума. Як звычайна падчас значных палітычных кампаніяў, ціск на СМІ ў 2004 г. узрос. Прычым пагаршэнне сітуацыі ўяўляла сабой не часовае адхіленне, пасля якога ўсё вяртаецца да нормы, але ўзмацненне планамернага і сістэматычнага ціску на СМІ, якое працягнулася і пасля выбарчай кампаніі.

Маніторынг, які праводзіўся ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, дазваляе зрабіць выснову, што парушэнні свабоды масавай інфармацыі ў 2004 г.:

- дапускаліся ў першую чаргу дзяржаўнымі органамі Рэспублікі Беларусь і іх адказнымі асобамі;
- ставілі за мэту звесці да мінімума цыркуляванне ў беларускім грамадстве інфармацыі, альтэрнатыўный той, якую распаўсюджваюць уладныя органы;
- мелі сістэмны характар.

Аб сістэмнасці дзеянняў беларускіх уладаў у дадзенай сферы сведчыць “зачыстка” інфармацыйнай прасторы напярэдадні выбараў і рэферэндуму. Калі на 1 лістапада 2003 года ў Беларусі налічвалася 1492 зарэгістраваных перыядычных друкаваных выданні, то да 1 ліпеня 2004 года (указ аб правядзенні выбараў быў падпісаны 14 ліпеня) іх колькасць зменшылася да 1324. Аб’ём вяшчання расійскіх тэле- радыёканалаў у Беларусі за два гады скараціўся на 70 %.

Ні з пачаткам, ні пасля заканчэння выбараў і рэферэндуму гэтыя працэсы не замарудзіліся. Пры канцы 2004 г. у прымежных раёнах Беларусі была абмежавана трансляцыя некаторых польскіх і ўкраінскіх тэлеканалаў. Колькасць зарэгістраваных друкаваных выданняў за другое паўгоддзе 2004 г. скарацілася яшчэ на 103.

Такое змяншэнне колькасці “легальных” выданняў сталася наступствам прававой і эканамічнай дыскрымінацыі недзяржаўных мас-медыя, з аднаго боку, і перашкодаў з боку ўладаў стварэнню новых СМІ, з другога (ў 2004 годзе было зарэгістравана ў 4,5 раза меньш выданняў, чым у 2003 г.: 51 супраць 230).

Найбольш істотнымі парушэннямі правоў СМІ і журналістаў у 2004 г. былі:

- прыпыненне дзейнасці СМІ загадамі Міністэрства інфармацыі (за год прыпынены выхад 25 выданняў)
- крымінальны праслед і іншыя факты ціску за публікацыі ў СМІ (у тым ліку шляхам выстаўлення разбуральных зыскаў і выклікаў у праваахоўныя органы)
- замахі на жыццё і здароўе журналістаў
- перашкоды вытворчасці і распаўсюду прадукцыі СМІ (як шляхам выдання нарматыўных прадпісанняў, гэтак і шляхам аказання ўціску праз друкарні, затрыманняў накладаў, арыштаў распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў і г. д.).

# СТАТЫСТЫЧНАЯ ДАВЕДКА

Па стане на 01.01.2005 г. у Рэспубліцы Беларусь налічвалася **1221** зарэгістраванае друкаванае перыядычнае выданне. (Сёння ў Беларусі выдаюцца 784 газеты, 395 часопісаў, 38 бюлетэняў, 2 каталогі і 2 альманахі). (**http://mininform.gov.by/data/main/massmedia/digital/stat).** Між тым, яшчэ 1-га снежня 2004 г. іх было **1255**: усяго за 1 месяц у Беларусі стала менш на 22 газеты, 11 часопісаў і 1 бюлетэнь. А ў параўнанні з 1 лістапада 2003 г., калі ў Беларусі налічвалася **1492** перыядычныя выданні (разам з інфармацыйнымі агенцтвамі), колькасць друкаваных СМІ скарацілася яшчэ больш істотна: газет стала менш на 118, часопісаў – на 125, бюлетэняў – на 19.

Упершыню за апошнія гады колькасць зарэгістраваных у Беларусі друкаваных СМІ пачала скарачацца (дагэтуль дынаміка мела адваротны накірунак: да прыкладу, у 1995 г. у краіне налічвалася 721 перыядычнае выданне, а ў чэрвені 2003 г. --1472). Варта зазначыць, што на працягу 2004 г. Міністэрства інфармацыі ўжыло рэкордную колькасць санкцый у дачыненні да газет: яно вынесла 160 пісьмовых папярэджанняў 81-у перыядычнаму выданню і прыпыняла дзейнасць 25 сродкаў масавай інфармацыі. На 1 студзеня 2005 г. у нашай краіне было 200 зарэгістраваных радыё- і тэлепраграм: у тым ліку 149 – радыёвяшчання і 51- тэлевяшчання. (Колькасць электронных СМІ, у адрозненні ад друкаваных, у параўнанні з 1 лістапада 2003 г. павялічылася на 18 за кошт праграм радыёвяшчання).

Са 149 праграм радыёвяшчання дзяржаўную форму ўласнасці маюць 130, а недзяржаўную – 19. (У Мінску зарэгістраваныя 19 з іх, у Мінскай вобласці – 23, у Віцебскай – 22, у Брэсцкай – 20, у Гродзенскай – 19, у Магілёўскай – 21, у Гомельскай – 25). З 51 праграмы тэлевяшчання 26 маюць дзяржаўную форму ўласнасці, а 25 – недзяржаўную. (У Мінску зарэгістраваныя 12 з іх, у Мінскай вобласці – 3, у Віцебскай – 12, у Брэсцкай – 9, у Гомельскай - 6, у Магілёўскай – 5, у Гродзенскай – 4). (**http://mininform.gov.by/data/main/massmedia/digital/condition**).

На 01.01.2005г. у РБ налічвалася 108 суб'ектаў гаспадарання, якія аказваюць паслугі ў сферы кабельнага тэлебачання на тэрыторыі краіны і маюць адпаведныя ліцэнзіі Міністэрства сувязі і інфарматызацыі. (У Мінску іх 11, у Мінскай вобласці – 14, у Брэсцкай -- 21, у Віцебскай – 13, у Гомельскай вобласці – 12, у Гродзенскай – 24, у Магілёўскай – 14). (**http://mininform.gov.by/data/main/massmedia/digital/condition).** Акрамя гэтага, у краіне працуе 9 інфармацыйных агенцтваў. У параўнанні з лістападам 2003 г. іх стала на 1 больш.

Па звестках Міністэрства інфармацыі, больш за 2/3 зарэгістраваных выданняў з'яўляюцца недзяржаўнымі. Між тым, статыстычныя звесткі самога Міністэрства сведчаць пра тэндэнцыю да скарачэння гэтага сектару і пашырэння сектару дзяржаўных СМІ. Да прыкладу, калі на 1-га лістапада 2003 г. у Беларусі налічвалася 116 перыядычных выданняў, заснавальнікамі якіх выступалі міністэрствы і ведамствы, то на 1-га студзеня 2005 г. іх было ўжо 122. За гэты ж перыяд колькасць СМІ, заснаваных грамадскімі аб'яднаннямі, скарацілася са 130 да 115, а грамадзянамі – з 462 да 396.

У галіне электронных СМІ відавочная колькасная перавага дзяржаўных СМІ перад недзяржаўнымі: па звестках Мініфармацыі, сёння дзяржаўных радыё- і тэлепраграм у Беларусі налічваецца 160, а недзяржаўных – 40. (Для параўнання: у лістападзе 2003 г. дзяржаўных электронных СМІ ў Беларусі было 120, а недзяржаўных – 62).

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ

Чаканага прыняцця новай рэдакцыі закона “Аб сродках масавай інфармацыі” у 2004 г. не адбылося. Са студзеня 2001 г. гэты законапраект пазначаны ў штогадовых планах падрыхтоўкі законапраектаў, якія зацвярджае прэзідэнт, аднак да канца 2004 г. ён так і не быў унесены ў Палату прадстаўнікоў.

Закон “Аб паштовай сувязі” і новая рэдакцыя Закона “Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь”, якія ўступілі ў сілу ў 2004 г., непасрэдна не рэгулююць стасункі ў галіне СМІ, аднак пагоршылі сітуацыю са свабодай слова і інфармацыі ў краіне. Закон “Аб паштовай сувязі” разам з некаторымі нарматыўнымі актамі ўрада і прэзідэнта стаў прававым падмуркам для аб’яўлення падпіскі на сродкі масавай інфармацыі ліцэнзаваным відам дзейнасці, а Закон “Аб культуры” дазволіў цэнзуру на стадыі стварэння мастацкіх твораў.

Выданне Міністэрствам інфармацыі ў сакавіку інструкцыі аб распаўсюдзе на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь перыядычных друкаваных выданняў, зарэгістраваных у замежных дзяржавах, і зацвярджэнне ў красавіку прэзідэнтам пераліку звестак, якія складаюць дзяржаўную таямніцу Рэспублікі Беларусь, замацавалі тэндэнцыю далейшага абмежавання распаўсюду ў грамадстве інфармацыі і доступу грамадзян да нецэнзураванай інфармацыі. Аднак галоўная мэта інструкцыі Міністэрства інфармацыі – узяцце пад кантроль распаўсюду ў краіне расійскіх друкаваных выданняў – так і не была дасягнутая ў выніку існуючых міждзяржаўных пагадненняў паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй, якія маюць большую юрыдычную сілу, чым акт міністэрства.

Сярод іншых нарматыўных прававых актаў, прынятых у 2004 г., вызначаюцца акты, накіраваныя на ўзмацненне прапагандысцкай і ідэалагічнай працы (ад умацавання “ідэалагічнай вертыкалі” да правядзення розных конкурсаў сярод лаяльных уладам журналістаў і рэдакцый), а таксама на наўпроставую падтрымку дзяржаўных СМІ. У прынятым у лістападзе 2004 г. бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2005 год на фінансаванне сродкаў масавай інфармацыі толькі з рэспубліканскага бюджэту выдаткавана больш за 40 мільёнаў долараў.

***6 студзеня ўступіў у сілу закон “Аб паштовай сувязі”*** (праз 10 дзён пасля яго афіцыйнага апублікавання).

Артыкул 11 гэтага закона далучыў да паслуг паштовай сувязі прыём падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі і дастаўку друкаваных сродкаў масавай інфармацыі. У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў № 1387 ад 20 кастрычніка 2003 г. паслугі паштовай сувязі з’яўляюцца ліцэнзаваным відам дзейнасці. З 1 траўня 2004 г. для распаўсюду газет па падпісцы неабходна атрыманне ліцэнзіі ў Міністэрстве сувязі (з красавіка 2004 г. перайменавана ў Міністэрства сувязі і інфарматызацыі).

***26 студзеня Міністэрства інфармацыі выдала пастанову № 1 “Аб прызнанні страціўшымі сілу некаторых нарматыўных прававых актаў па пытаннях ліцэнзавання”.***

Страціўшымі сілу прызнаныя Палажэнне аб парадку выдачы і выкарыстання ліцэнзіі на

ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці і Палажэнне аб ліцэнзаванні друкарскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь і выдачы дазволаў на набыццё паліграфічнага абсталявання, зацверджаных Старшынём Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку 21 траўня 1997 г. Звязана гэта з тым, што з 1 лістапада 2003 г. дзейнічаюць Палажэнне аб ліцэнзаванні выдавецкай дзейнасці і Палажэнне аб ліцэнзаванні паліграфічнай дзейнасці, зацверджаныя Пастановай Савета Міністраў №1376 ад 20 кастрычніка 2003 г.

***20 лютага*** Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў Указ № 111 "Аб удасканаленні кадравага забеспячэння ідэалагічнай працы ў Рэспубліцы Беларусь".

У адпаведнасці з гэтым указам усе абласныя ўпраўленні інфармацыі пры абласных, гарадскіх, раённых выканаўчых камітэтах, а таксама ў мясцовых раённых адміністрацыях горада Мінска і іншых гарадоў з раённым дзяленнем перайменаваныя ва ўпраўленні (аддзелы) ідэалагічнай працы.

Указам № 111 прадпісана ўсім абласным і раённым выканкамам да 1 красавіка зацвердзіць структуру і штаты супрацоўнікаў упраўленняў (аддзелаў) ідэалагічнай працы ў межах штатнай колькасці, вызначанай указам. Кандыдатуры кіраўнікоў упраўленняў ідэалагічнай працы аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама павінны быць з 1 траўня ўзгоднены з Адміністрацыяй Прэзідэнта. Гэткае ж узгадненне павінны атрымаць кандыдатуры галоўных рэдактараў рэспубліканскіх дзяржаўных СМІ, за выключэннем тых, хто што прызначаны на пасаду Прэзідэнтам, а таксама мясцовых СМІ, заснавальнікамі якіх з'яўляюцца аблвыканкамы і Мінгарвыканкам.

Кандыдатуры кіраўнікоў "ідэалагічных" аддзелаў органаў выканаўчай улады больш нізкага ўзроўню і галоўных рэдактараў заснаваных імі сродкаў масавай інфармацыі ўзгадняюцца з аблвыканкамамі (Мінгарвыканкамам).

Дзеля выканання ўказа № 111 ***аблвыканкамы зацвердзілі Палажэнне аб упраўленні ідэалагічнай работы*** аблвыканкамаў. Адпаведныя Палажэнні былі зацверджаны Гродзенскім аблвыканкамам 25 траўня (рашэнне № 258), Брэсцкім аблвыканкамам 31 траўня (рашэнне №338), Гомельскім аблвыканкамам 14 чэрвеня (рашэнне № 424), Магілёўскім аблвыканкамам 29 ліпеня (рашэнне № 18-27), Віцебскім аблвыканкамам 19 жніўня (рашэнне № 503).

У Палажэннях указваецца, што ўпраўленне ідэалагічнай работы з'яўляецца структурным падраздзяленнем аблвыканкама і падпарадкоўваецца ў сваёй дзейнасці аблвыканкаму, галоўнаму ідэалагічнаму ўпраўленню Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Асноўнымі задачамі ўпраўлення ў палажэннях названыя тлумачэнне насельніцтву дзяржаўнай ідэалогіі, рэалізацыя дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі, інфармацыйна-ідэалагічнае забеспячэнне палітычных кампаній, акцый, святаў, канферэнцый і іншых мерапрыемстваў. Сярод функцый упраўленняў ідэалагічнай работы – кантроль за недапушчэннем парушэнняў дзейнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь сродкамі масавай інфармацыі і прадпрыемствамі паліграфіі.

***25 лютага*** Савет Міністраў зацвердзіў Дзяржаўную праграму інфармацыйнага забеспячэння знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці на 2004 г. (пастанова № 206).

Сярод мерапрыемстваў Дзяржаўнай праграмы інфармацыйнага забеспячэння знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці – выданне і распаўсюд друкаванай прадукцыі за мяжой (напрыклад, штогадовіка "Беларусь. Факты" на рускай, ангельскай і нямецкай мовах), размяшчэнне інфармацыі аб Рэспубліцы Беларусь у сетцы Інтэрнэт, распаўсюд інфармацыйных матэрыялаў аб Беларусі па дыпламатычных каналах, інфармацыйнае забеспячэнне афіцыйных візітаў і мерапрыемстваў.

***2 сакавіка Міністэрства інфармацыі зацвердзіла Інструкцыю аб распаўсюдзе на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь перыядычных друкаваных выданняў, зарэгістраваных у замежных дзяржавах*** (пастанова № 6). У адпаведнасці з інструкцыяй, распаўсюд на тэрыторыі Беларусі перыядычных друкаваных выданняў, зарэгістраваных у замежных дзяржавах, ажыццяўляецца на падставе пісьмовага дазволу Міністэрства інфармацыі.

***10 сакавіка Савет Міністраў Саюзнай дзяржавы зацвердзіў Статут Тэлерадыёвяшчальнай арганізацыі Саюзнай дзяржавы,*** склад калегіі Тэлерадыёвяшчальнай арганізацыі Саюзнай дзяржавы і максімальную штатную колькасць супрацоўнікаў Тэлерадыёвяшчальнай арганізацыі Саюзнай дзяржавы ў 30 адзінак (пастанова № 6).

У склад Калегіі Тэлерадыёвяшчальнай арганізацыі Саюзнай дзяржавы ад Рэспублікі Беларусь увайшлі 7 чалавек, сярод якіх -- намеснік міністра інфармацыі Сяргей Булацкі, генеральны дырэктар ЗАТ "Другі Нацыянальны тэлеканал" (АНТ) Юры Казіятка, намеснік Старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Мартыненка, дырэктар дырэкцыі інфармацыйнага вяшчання ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне" Валеры Радуцкі.

***17 сакавіка Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіў Палажэнне аб Міністэрстве сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь*** (пастанова № 302).

***12 красавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь зацвердзіў Пералік звестак, якія складаюць дзяржаўную таямніцу Рэспублікі Беларусь*** (пастанова № 186).

Ва ўказе пералічаныя катэгорыі звестак, якія могуць быць абвешчаны дзяржаўнай таямніцай. Канкрэтны пералік звестак, якія належаць да засакрэчвання, павінен быць у трохмесячны тэрмін зацверджаны дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі, надзеленымі паўнамоцтвамі па далучэнні звестак да дзяржаўных сакрэтаў і іх абароне.

Пералік такіх органаў зацверджаны ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 9 ліпеня 2003 г. № 300. ***8 верасня 2004 г. Пералік дзяржаўных органаў і арганізацый, надзеленых паўнамоцтвамі адносна далучэння звестак да дзяржаўных сакрэтаў і іх абароны, зменены і дапоўнены ўказам № 435.*** У яго ўключаны Дзяржаўны ваенна-прамысловы камітэт, некалькі органаў і арганізацый перайменаваныя. У выніку паўнамоцтвамі далучаць звесткі да дзяржаўных сакрэтаў і рабіць захады па іх абароне надзеленыя 63 дзяржаўныя органы і арганізацыі, у тым ліку 6 аблвыканкамаў і Мінгарвыканкам, Міністэрства інфармацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Міністэрства спорту і турызму, Беларускі рэспубліканскі саюз спажывецкіх

таварыстваў, Камітэт па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце Міністраў, Беларускі дзяржаўны канцэрн па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці, Беларускі дзяржаўны канцэрн па вытворчасці і рэалізацыі тавараў народнага спажывання і г. д.

***16 красавіка*** Ўрады дзяржаў -- удзельніц СНД падпісалі Канвенцыю аб статусе карэспандэнта, які прадстаўляе сродак масавай інфармацыі краіны – удзельніцы Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Пад карэспандэнтам у гэтай канвенцыі маецца на ўвазе асоба (незалежна ад грамадзянства), акрэдытаваная ў іншай дзяржаве – удзельніцы Садружнасці Незалежных Дзяржаў, якая прадстаўляе сродак масавай інфармацыі аднаго з Бакоў, зарэгістраваны ў адпаведнасці з яго нацыянальным заканадаўствам.

Дзяржавы – удзельніцы канвенцыі абавязаліся аказваць карэспандэнтам пры ажыццяўленні іх прафесійных абавязкаў садзеянне ў доступе да афіцыйных крыніц інфармацыі, да ўдзелу ў прэс-канферэнцыях і іншых падобных мерапрыемствах на тых жа падставах, што прадастаўляюцца прадстаўнікам сродкаў масавай інфармацыі дзяржавы акрэдытацыі, прызнаваць права карэспандэнтаў на захаванне канфідэнцыйнасці крыніцы інфармацыі, выконваць права карэспандэнтаў на свабодную перадачу сродкам масавай інфармацыі, якія яны прадстаўляюць, сваіх матэрыялаў спосабам, не забароненым заканадаўствам дзяржавы акрэдытацыі.

Карэспандэнтам прадастаўлена права свабоднага перасоўвання па тэрыторыі дзяржавы акрэдытацыі, за выключэннем раёнаў і аб'ектаў, для наведвання якіх усталяваны спецыяльны парадак. У выпадку, калі дзейнічае візавы рэжым, Бакі ў адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам прадастаўляюць пастаянна акрэдытаваным карэспандэнтам і членам іх сем'яў шматразовыя ўязныя-выязныя візы альбо іншы дакумент, які дае права на свабодны ўезд на тэрыторыю і выезд з тэрыторыі дзяржавы акрэдытацыі.

У адпаведнасці з артыкулам 12 Канвенцыі дзяржавы – удзельніцы абавязаліся ўстрымлівацца ад прыняцця абмежавальных захадаў, у тым ліку такіх, як пазбаўленне карэспандэнта акрэдытацыі альбо выдаленне яго з дзяржавы акрэдытацыі з прычыны зместу інфармацыі, перададзенай ім і распаўсюджанай сродкам масавай інфармацыі, які прадстаўляе карэспандэнт, за выключэннем выпадкаў парушэння ім заканадаўства дзяржавы акрэдытацыі.

***22 красавіка*** Мінскі абласны выканаўчы камітэт прыняў рашэнне № 362 "Аб парадку аплаты карыстання арганізацыямі і ўстановамі адукацыі Мінскай абласной сеткай Інтэрнэт".

Гэтым рашэннем зацверджаны пералік арганізацый і ўстаноў адукацыі, якія фінансуюцца з бюджэту Мінскай вобласці і якія карыстаюцца паслугамі інфармацыйнай сеткі Інтэрнэт за кошт сродкаў, прадугледжаных у абласным бюджэце на адукацыю, і інструкцыя аб парадку аплаты карыстання паслугамі інфармацыйнай сеткі Інтэрнэт арганізацыямі і ўстановамі адукацыі, якія фінансуюцца з бюджэту Мінскай вобласці.

За кошт бюджэтных сродкаў, выдаткаваных на адукацыю, аплачваецца не больш чым 20 гадзін працы ў Інтэрнэце за месяц.

***12 траўня Савет Міністраў выдаў пастанову № 552 "Аб некаторых пытаннях***

***Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь”.*** Саўмін павялічыў колькасць членаў калегіі да 9 чалавек (першапачаткова ў калегіі было 7 чалавек, потым – 8) і вызначыў яе новы персанальны склад.

Калегія з'яўляецца дарадчым органам, які разглядае асноўныя пытанні дзейнасці Міністэрства інфармацыі. У яе склад апроч міністра інфармацыі (старшыні калегіі), яго намеснікаў і кіраўніка кантрольна-рэвізійнага аддзела могуць уваходзіць кіраўнічыя работнікі сродкаў масавай інфармацыі, арганізацый і тэлерадыёкампаній.

***14 траўня Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт стварыў абласную экспертную камісію па ацэнцы друкаваных выданняў, кінааўдыёвізуальных твораў і іншай прадукцыі на наяўнасць у іх прыкмет парнаграфіі, культу гвалту і жорсткасці,*** зацвердзіў Палажэнне аб гэтай камісіі і яе персанальны склад (рашэнне № 237).

Камісія функцыянуе пры Гродзенскім аблвыканкаме і па прадстаўленні Упраўлення культуры аблвыканкама ажыццяўляе ацэнку канцэртна-глядацкіх праграм, кінааўдыёвізуальнай, друкаванай і іншай прадукцыі на прадмет наяўнасці ў ёй прыкмет парнаграфіі, культу гвалту і жорсткасці.

***16 снежня аналагічнае рашэнне № 2560 прынята Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам.*** Камісія функцыянуе пры Мінгарвыканкаме. Ініцыяваць ацэнку канцэртна-глядацкіх праграм, кінааўдыёвізуальнай, друкаванай і іншай прадукцыі на прадмет наяўнасці ў ёй прыкмет парнаграфіі, культу гвалту і жорсткасці могуць дзяржаўныя органы, арганізацыі незалежна ад формы ўласнасці і фізічныя асобы, а таксама вытворцы ўказанай вышэй прадукцыі, яе прадаўцы (выканаўцы, распаўсюджвальнікі), якія звярнуліся з заявай у камісію.

***18 траўня прынята новая рэдакцыя закона “Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь”.***

Артыкул 6 гэтага закона (“Свабода творчай дзейнасці”) фактычна дазволіў цэнзуру: умяшальніцтва дзяржаўных органаў (арганізацый), іх службовых асоб, юрыдычных і фізічных асоб у працэс стварэння і (альбо) выканання твораў мастацкай літаратуры й мастацтва, уздзеянне на выніку творчага працэсу ў выпадках, калі яго вынікі:

- могуць быць накіраваны супраць суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, заклікаюць да гвалтоўнага звяржэння дзяржаўнай улады альбо змянення канстытуцыйнага ладу;
- утрымліваюць звесткі, якія зневажаюць гонар і годнасць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, кіраўнікоў дзяржаўных органаў, статус якіх устаноўлены Канстытуцыяй;
- прапагандуюць вайну, гвалт і жорсткасць, сацыяльную, нацыянальную, рэлігійную, расавую выключнасць, нецярпімасць альбо варожасць, парнаграфію, падбухторваюць да здзяйснення злачынстваў;
- утрымліваюць інфармацыю аб спосабах забойства чалавека, вырабе прыстасаванняў і сродкаў забойства;
- могуць нанесці ўрон здароўю і маральнасці чалавека;
- у іншых выпадках, прадугледжаных беларускім заканадаўствам.

Распаўсюд і папулярызацыя такіх твораў законам забаронены.

***28 траўня Міністэрства інфармацыі зацвердзіла Палажэнне аб Нацыянальным тэлевізійным конкурсе*** (пастанова № 14).

Заснавальнікамі конкурсу з’яўляюцца: Міністэрства інфармацыі, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь, Закрытае акцыянернае таварыства “Другі нацыянальны тэлеканал” і Закрытае акцыянернае таварыства “Сталічнае тэлебачанне”. Персанальны склад аргкамітэта конкурсу зацвярджаецца загадам міністра інфармацыі. Падсумаванне вынікаў конкурсу праводзіцца па 21 намінацыі ў дзвюх катэгорыях: “Лепшы тэлевізійны праект года” і “За асабісты ўнёсак у развіццё тэлебачання Рэспублікі Беларусь”.

У 2004 г. яшчэ некалькі конкурсаў сярод журналістаў і рэдакцый былі абвешчаны мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі.

***2 красавіка Мінскі абласны выканаўчы камітэт прыняў рашэнне № 281 аб правядзенні абласнога творчага конкурсу сярод клубаў маладога журналіста ў 2004 г.*** і зацвярджэнні Інструкцыі аб парадку правядзення абласнога творчага конкурсу сярод клубаў маладога журналіста ў 2004 г.

Склад арганізацыйнага камітэта зацвярджаецца распараджэннем старшыні Мінскага абласнога выканаўчага камітэта.

***1 студзеня Мінскі абласны выканаўчы камітэт прыняў рашэнне аб арганізацыі абласнога спаборніцтва сярод рэдакцый абласных, раённых і гарадскіх газет, прафесійных журналістаў.*** Гэтым жа рашэннем № 1115 зацверджана інструкцыя аб парадку правядзення штогадовага абласнога спаборніцтва сярод рэдакцый абласной, раённых і гарадскіх газет, прафесійных журналістаў.

Права зацвярджэння персанальнага складу камісіі па падсумаванні вынікаў штогадовага спаборніцтва прадастаўлена старшыні Мінскага абласнога выканаўчага камітэта.

Памер заахвочвання пераможцаў спаборніцтва вызначаецца пунктам 6 Інструкцыі. Пункты 6.2 – 6.4 вызначаюць памер заахвочвання для пераможцаў сярод рэдакцый раённых і гарадскіх газет (максімальная матэрыяльная ўзнагарода – аўтамабіль), журналістаў раённых і гарадскіх газет (максімальная ўзнагарода – 25 базавых велічынь, альбо каля 275 долараў) і журналістаў рэспубліканскіх газет (50 базавых велічынь за першае месца). Пункт 6.1 асабліва вызначае сярод пераможцаў яшчэ не праведзенага спаборніцтва мінскае абласное ўнітарнае прадпрыемства “Рэдакцыя газеты “Мінская праўда”, загадзя ўзнагароджваючы яго прэміяй у памеры 500 базавых велічынь і Ганаровай граматай Мінскага абласнога выканаўчага камітэта.

Раней, ***20 жніўня, рашэнне аб арганізацыі штогадовага абласнога спаборніцтва сярод рэдакцый абласных, аб’яднаных, раённых і гарадскіх газет, тэлебачання і радыё, прафесійных журналістаў прыняў Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт.*** Яго рашэннем № 556 зацверджана адпаведная інструкцыя.

Права зацвярджэння персанальнага складу камісіі па падсумаванні вынікаў штогадовага спаборніцтва прадастаўлена старшыні Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта.

Максімальны памер матэрыяльнага ўзнагароджання,

устаноўленага для пераможцаў спаборніцтва ў Брэсцкай вобласці, складае 400 базавых велічынь для рэдакцый СМІ і 25 базавых велічынь - для журналістаў. Сродкі, выдзеленыя арганізацыям-пераможцам, павінны быць накіраваны на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы рэдакцый (да 10 % сродкаў дазволена выкарыстаць для прэміявання супрацоўнікаў рэдакцыі-пераможцы).

***22 ліпеня Савет Міністраў выдаў пастанову "Аб фінансаванні перыядычных выданняў у 2004 годзе".***

Пастановай вызначаны пералік перыядычных выданняў, рэдакцыям якіх у 2004 г. выдаткоўваюцца субсідыі. Сярод іх такія грамадска-палітычныя выданні як "Белорусская нива» (заснавальнік – Савет Міністраў), "Звязда" (сузаснавальнікі – Савет Рэспублікі і Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, Савет Міністраў), "Знамя юности" (заснавальнікі БРСМ і Дэпартамент па справах моладзі Міністэрства адукацыі), "Народная газета" і іншыя – усяго 33 выданні.

***20 жніўня Міністэрства інфармацыі зацвердзіла Інструкцыю аб парадку выдзялення субсідый рэдакцыям перыядычных выданняў з рэспубліканскага бюджэту.*** Субсідыі выдаткоўваюцца на пакрыццё страт ад "сацыяльна значных перыядычных выданняў, якія адыгрываюць важную ролю ў рэалізацыі дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі і ідэалогіі, фармаванні грамадскай думкі, кансалідацыі грамадства на прынцыпах пабудовы моцнай і квітнеючай беларускай дзяржавы".

***7 верасня Савет Міністраў зацвердзіў Правілы аказання паслуг паштовай сувязі*** (пастанова № 1111).

У адпаведнасці з главой 10 правіл забаронены да перасылкі ў міжнародных паштовых адпраўленнях друкаваныя і аўдыёвізуальныя матэрыялы, іншыя носьбіты інфармацыі, якія ўтрымліваюць звесткі, што могуць нанесці ўрон палітычным і эканамічным інтарэсам рэспублікі, яе дзяржаўнай бяспецы, ахове здароўя і маральнасці грамадзян. Глава 21 правіл прадастаўляе аперататару паштовай сувязі права затрымліваць і ўскрываць паштовыя адпраўленні пры наяўнасці забароненага да перасылкі ўкладання.

***10 верасня Савет Міністраў унёс папраўкі ў Палажэнне аб Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь,*** зацверджанае пастановай Саўміна ад 26 кастрычніка 2001 года № 1545.

Палажэнне, у прыватнасці, дапоўнена ўказаннем, што Міністэрства інфармацыі "узаемадзейнічае ў пытаннях рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне масавай інфармацыі, кнігавыдання, паліграфіі і кнігараспаўсюду з упраўленнямі ідэалагічнай працы абласных (Мінскага гарадскога) выканаўчых камітэтаў Рэспублікі Беларусь.

***14 кастрычніка Савет Міністраў выклаў у новай рэдакцыі пералік катэгорый работнікаў сістэмы Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, якім могуць быць прадастаўлены службовыя жыллёвыя памяшканні,*** зацверджаны пастановай Савета Міністраў ад 30 чэрвеня 1999 года № 1004.

У пералік асоб, якія маюць права разлічваць на атрыманне службовага жытла, уключаны генеральны прадусар НДТРК і яго намеснік, карэспандэнты (усіх найменняў), каментатар і іншыя супрацоўнікі (усяго 30 пазіцый).

***21 кастрычніка Савет Міністраў выдаў пастанову № 1316 “Аб накіраванні часткі сродкаў інавацыйнага фонду Міністэрства інфармацыі на фінансаванне выдаткаў арганізацый паліграфічнай прамысловасці па набыцці газетнай друкавальнай машыны, тэхналагічнага абсталявання і рэканструкцыі будынка”.*** Пастановай дазволена накіраваць суму, эквівалентную 289 тыс. долараў ЗША, на набыццё газетнай друкавальнай машыны для Брэсцкай друкарні, а таксама выдзяленне грашовых сродкаў Нясвіжскай узбуйненай друкарні імя С. Буднага і Ваўкавыскай друкарні.

***26 кастрычніка Міністэрства інфармацыі выклала ў новай рэдакцыі Пералік адказных кіруючых работнікаў арганізацый рэспубліканскай формы ўласнасці, падпарадкаваных Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь,*** асобных арганізацый, уключаных у кадравы рээстр Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, і Парадак прызначэння (вызвалення) і ўзгаднення прызначэння (вызвалення) на пасады, уключаныя ў кадравы рээстр Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь (прылажэнні 1 і 2 да новага загаду Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь ад 27 траўня 2003 г. № 94 “Аб кадравым рээстры Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь”).

У кадравы рээстр Міністэрства інфармацыі, у прыватнасці, уключаны кіруючыя супрацоўнікі шэрагу буйнейшых прадпрыемстваў паліграфіі і выдавецтваў, прадпрыемстваў “Саюздрук”, РУП “Дом прэсы”, РУП “Міжнародны цэнтр інтэграцыйнай інфармацыі. Грамадскі прэс-цэнтр Дома прэсы”; Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі, рэдакцыйна-выдавецкай установы “Літаратура і мастацтва”, РУП “Выдавецтва “Беларускім дом друку”, галоўныя рэдактары і намеснікі галоўных рэдактараў часопісаў “Алеся”, “Вожык”, “Вясёлка”, газет “Народная газета”, “Белорусская нива”, “Наша доля”, галоўныя рэдактары сродкаў масавай інфармацыі, выдаўцамі якіх з’яўляюцца РВУ “Літаратура і мастацтва” і РУП “Дом прэсы”.

Міністр непасрэдна прызначае галоўных рэдактараў СМІ, заснавальнікам якіх з’яўляецца Міністэрства інфармацыі, а таксама газет “Белорусская нива”, “Наша доля”, і ўзгадняе прызначэнні на пасаду іншых галоўных рэдактараў указаных вышэй сродкаў масавай інфармацыі і іх намеснікаў.

***18 лістапада прыняты закон “Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2005 г”.***

У адпаведнасці з Дадаткам 3 да закона, у 2005 годзе на фінансаванне сродкаў масавай інфармацыі толькі з рэспубліканскага бюджэту будзе выдаткавана 88 564 584 000 руб. (больш за 40 мільёнаў долараў), з якіх 73 355 388 000 рублёў (больш за 33 мільёны долараў) прадугледжана на фінансаванне тэлебачання і радыёвяшчання, 12 722 561 000 руб. (каля 6 мільёнаў долараў) – на перыядычны друк і выдавецтвы. На іншыя выдаткі сродкаў масавай інфармацыі ў рэспубліканскім бюджэце запланавана 2 486 635 000 руб.

***30 лістапада Міністэрства ўнутраных спраў пастановай № 273 зацвердзіла Інструкцыю аб парадку ўзгаднення інфармацыйных (рэкламных) аб’яў аб працаўладкаванні грамадзян Рэспублікі Беларусь за мяжой.***

Указаныя інфармацыйныя (рэкламныя) аб’явы падлягаюць узгадненню ў Дэпартаменце па грамадзянстве і міграцыі Міністэрства

ўнутраных спраў. Размешчаная рэклама аб працаўладкаванні грамадзян Рэспублікі Беларусь за мяжой павінна поўнасцю адпавядаць узгодненай рэкламе. Адказнасць за парушэнне інструкцыі нясуць як заяўнікі, гэтак і рэкламараспаўсюднікі.

# СПЫНЕННЕ АЛЬБО ПРЫПЫНЕННЕ ДЗЕЙНАСЦІ СМІ ЎЛАДАМІ

У 2004 г. Міністэрства інфармацыі прыпыніла дзейнасць 25 сродкаў масавай інфармацыі. Гэтую лічбу агучыў 28 студзеня 2005 г. на калегіі міністэрства яго кіраўнік Уладзімір Русакевіч. У мінулым годзе міністэрства вынесла таксама 160 пісьмовых папярэджанняў 81 перыядычнаму выданню. На думку міністра, пісьмовыя папярэджанні *"фактычна не ўплываюць на дзейнасць СМІ"*, паколькі не падмацаваны матэрыяльнымі санкцыямі. Прыпыненне дзейнасці СМІ міністр назваў больш дзейсным спосабам пакарання. Уладзімір Русакевіч падкрэсліў, што такія спосабы пакарання будуць *"рашуча і бескампрамісна"* ставіцца ў будучыні *"на шляху любых спробаў абысці закон альбо выпрабаваць наша цярпенне".*

Пазасудовае прыпыненне дзейнасці СМІ па рашэнню рэгіструючага органа (Міністэрства інфармацыі) дапускаецца артыкулам 16 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" у выпадку парушэння рэдакцыяй СМІ патрабаванняў гэтага закона. Гэтая норма была ўключана ў Закон аб друку ў 1998 г. і не выкарыстоўвалася ажно да 2003 г. Упершыню Міністэрства інфармацыі звярнулася да гэтай санкцыі ў лютым 2003 г., прыпыніўшы дзейнасць рэгіянальнай газеты "Вечерний Столин". З траўня да ліпеня 2003 г. міністэрства прыпыніла з розных нагодаў выпуск газет "Навінкі", "Белорусская деловая газета", "БДГ. Для служебного пользованя", "Эхо", "Предпринимательская газета".

Наступныя масавыя прыпыненні дзейнасці СМІ Міністэрствам інфармацыі супалі з кампаніяй па выбарах у Палату прадстаўнікоў і папярэднічалі абвяшчэнню рэферэндума. Адначасова з выданнем загадаў аб прыпыненні выхаду газет міністэрства выносіла ў іх адрас пісьмовыя папярэджанні. А выдавец "Новой газеты Сморгони" Рамуальд Улан быў "папярэджаны" на наступны дзень пасля прыпынення выхаду яго газеты.

Між тым, у адпаведнасці з артыкулам 17 Закона аб друку, рэдакцыі маюць права на судовае абскарджанне вынесеных на іх адрас папярэджанняў на працягу аднаго месяца. Прыпыняючы дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі за парушэнні, факт якіх не быў устаноўлены судом, да заканчэння тэрміну на абскарджанне папярэджанняў, Міністэрства інфармацыі ўзяло на сябе функцыі органа правасуддзя, чым парушыла замацаваны артыкулам 6 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прынцып ажыццяўлення правасуддзя толькі судом.

Прыпыненне выпуску газет парушае і міжнародна-прававыя абавязацельствы Рэспублікі Беларусь у галіне свабоды слова. Так, арт. 19 Міжнароднага пакта аб грамдзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Рэспублікай Беларусь у 1973 г., устанаўлівае, што абмежаванні свабоды слова (а прыпыненне дзейнасці СМІ такім, безумоўна, з'яўляецца) не толькі павінны быць устаноўлены законам, але і з'яўляцца неабходнымі:

а) для павагі правоў і рэпутацыі іншых асобаў;

б) для аховы парадку, здароўя і маральнасці насельніцтва.

Аналагічныя правілы замацаваны ў Канвенцыі Садружнасці Незалежных Дзяржаваў аб правах і асноўных

свабодах чалавека, прынятай 26 траўня 1995 г.

Такім чынам, у адпаведнасці з міжнароднымі абавязацельствамі Рэспублікі Беларусь любыя абмежаванні дзейнасці СМІ з боку дзяржаўных органаў павінны быць неабходнымі ў дэмакратычным грамадстве, пераследаваць дакладна вызначаную правамерную мэту і быць прапарцыйнымі гэтай мэце. Прыпыненне Міністэрствам інфармацыі выхаду газет не адпавядала крытэрыям неабходнасці і прапарцыйнасці і не мела мэты, якая дазволіла б прызнаць допушчальным умяшальніцтва органа выканаўчай улады ў дзейнасць СМІ.

Загады Міністэрства інфармацыі аб прыпыненні дзейнасці газет выглядаюць дастаткова сумніўнымі і з пункту гледжання беларускага заканадаўства аб друку.

Разгледзім, напрыклад, загад № 146 аб прыпыненні дзейнасці газеты “Время”, датаваны 24 жніўня. Рэдакцыі пастаўлена за віну тое, што яна (Унітарнае прадпрыемства (УП) “Выдавецкі дом “Время”), “*не маючы юрыдычнага адрасу, выпусціла 12 і 19 жніўня два нумары газеты з указаннем папярэдняга, неіснуючага адраса, што з’яўляецца парушэннем артыкулаў 10 і 26 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі”.*

Між тым арт. 10 Закона аб друку, на які спасылалася міністэрства, толькі ўстанаўлівае пералік звестак, якія павінны быць указаныя ў заяве аб рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі, а таксама дакументы, якія дадаюцца да заявы для рэгістрацыі СМІ. Ніякага дачынення да дзейнасці ўжо зарэгістраванага СМІ артыкул 10 не мае.

Іншы артыкул, на парушэнне якога рэдакцыі ўказала міністэрства, арт. 26 Закона аб друку, устанаўлівае пералік выхадных дадзеных, якія павінен утрымліваць кожны выпуск перыядычнага выдання. Абавязкі па публікацыі выхадных дадзеных рэдакцыя газеты “Время” выканала.

Што тычыцца змены юрыдычнага адрасу УП “Выдавецкі дом “Время”, то рэдакцыя мае поўнае права змніць яго ў любы момант, пасля чаго ўнесці адпаведныя змяненні ў устаноўчыя дакументы. На гэта суб’ектам гаспадарання прадастаўлены месячны тэрмін (п. 9 Палажэння аб дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спыненні дзейнасці) суб’ектаў гаспадарання, зацверджанага Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 11 ад 16.01.1999 г. у рэдакцыі Дэкрэта № 29 ад 17.12.2002 г.). Арт. 48 Грамадзянскага кодэкса ўстанаўлівае, што змяненні ўстаноўчых дакументаў (у дадзеным выпадку – змяненне юрыдычнага адраса УП “Выдавецкі дом “Время”) набываюць сілу для трэціх асобаў (у тым ліку Міністэрства інфармацыі, іншых дзяржаўных органаў, чытачоў газеты) з моманту іх дзяржаўнай рэгістрацыі. Гэта значыць, высновы Міністэрства інфармацыі аб неадпаведнасці юрыдычнага адраса рэдакцыі газеты “Время” фактычнаму яўна заўчасныя.

Прыпыніўшы дзейнасць газеты “Время”, Міністэрства інфармацыі груба праігнаравала і Закон “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі”. Арт. 11 гэтага закона прадугледжвае, што пры змене месцазнаходжання рэдакцыі заснавальнік абавязаны ў месячны тэрмін паведаміць аб гэтым у дзяржаўны орган, які зарэгістраваў гэты сродак масавай інфармацыі, для ўнясення змяненняў у пасведчанне аб рэгістрацыі 24 жніўня тэрмін, адведзены заснавальніку для выканнне гэтага абавязку, не скончыўся. Адпаведна, на момант выдання загаду аб прыпыненні дзейнасці газеты “Время” ні заснавальнік, ні рэдакцыя газеты ніякіх парушэнняў заканадаўства аб СМІ не дапусцілі. 30 жніўня (г.зн. да

заканчэння прадугледжанага законам месячнага тэрміну) заснавальнік газеты "Время" ва ўстаноўленым законам парадку паведаміў аб змяненнях месцазнаходжання рэдакцыі ў Міністэрства інфармацыі.

12 лістапада загад Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь аб прыпыненні дзейнасці газеты "Время" быў адменены Вышэйшым гаспадарчым судом Рэспублікі Беларусь. Варта адзначыць, што з пачатку 2003 года гэта першы выпадак, калі пры разглядзе спрэчкі незалежнага выдання і рэспубліканскага органа дзяржаўнага кіравання Вышэйшы гаспадарчы суд стаў на бок недзяржаўнага грамадска-палітычнага СМІ.

Не больш абгрунтаванымі выглядаюць і іншыя загады Міністэрства інфармацыі аб прыпыненні дзейнасці газет. Загад аб прыпыненні выпуску "Новой газеты Сморгони" быў падпісаны У. Русакевічам 16 жніўня (як ужо казалася, папярэджанне рэдакцыі аб парушэнні закона было выдадзена наўздагон – ужо пасля прыпынення выхаду газеты). У віну заснавальніку і выдаўцу газеты Р. Улану было выстаўлена парушэнне арт. арт. 10 і 20 Закона аб друку, а менавіта – выданне газеты індывідуальным прадпрымальнікам, а не юрыдычнай асобай. У загадзе запісана, што *"газета "Новая газета Сморгони", якая ад пачатку свайго існавання выпускалася юрыдычнай асобай, пасля ўнясення ў артыкул 10 Закона РБ "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" дапаўнення выдаецца індывідуальным прадпрымальнікам, што з'яўляецца парушэннем артыкулаў 10 і 20 Закона РБ "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі".*

Сцвярджэнне, быццам бы "Новая газета Сморгони" ад пачатку свайго заснавання выпускалася юрыдычнай асобай, не адпавядае рэчаіснасці: практычна ўвесь час яна выдавалася індывідуальным прадпрымальнікам. Абгрунтаванне прыпынення выдання прадэманстравала альбо ўзровень падрыхтоўкі загадаў у Міністэрстве інфармацыі, альбо спробу міністэрства хоць неяк патлумачыць запозненую рэакцыю на быццам бы дапушчанае парушэнне ("Новая газета Сморгони" выходзіць з 1996 г., а арт. 10 Закона аб друку быў зменены ў 1998 г.).

У праваой частцы абгрунтаванне прыпынення выхаду "Новой газеты Сморгони" выглядае не лепш. Міністэрства абвінаваціла рэдакцыю ў парушэнні арт.арт. 10 і 20 Закона аб друку. Артыкул 10, як і ў выпадку з газетай "Время", не мае ніякага дачынення да сутнасці парушэння, бо рэгламентуе парадак прад'яўлення дакументаў на рэгістрацыю СМІ і не ўстанаўлівае ніякіх патрабаванняў у адносінах да ўжо існуючых сродкаў масавай інфармацыі. Што тычыцца арт. 20 Закона аб друку, то ў ім сапраўды ўказваецца, што рэдакцыя сродку масавай інфармацыі з'яўляецца юрыдычнай асобай. Аднак у арт. 19 гэтага ж закона запісана, што заснавальнік (у дадзеным выпадку – індывідуальны прадпрымальнік) можа выступаць у якасці рэдакцыі, а ў арт. 2 – што пад рэдакцыяй маюцца на ўвазе не толькі арганізацыя, установа і прадпрыемства, але і асобныя грамадзяне, якія ажыццяўляюць вытворчасць і выпуск масавай інфармацыі.

Па сутнасці, Міністэрства інфармацыі без належных на тое паўнамоцтваў занялося тлумачэннем закона (на гэта мае права рабіць толькі нарматворчы орган, які яго прыняў, у дадзеным выпадку, - Палата прадстаўнікоў). Прычым тлумачэннем вельмі адвольным. Раней гэтую ж норму Міністэрства інфармацыі трактавала зусім інакш. *"Індывідуальны прадпрымальнік можа выступаць у якасці рэдакцыі СМІ ў выглядзе выключэння. Гэтую выключную магчымасць прадастаўляе яму*

*частка 7 артыкула 19 памянёнага Закона, якая дазваляе ў якасці рэдакцыі выступаць заснавальніку. Гэта значыць, заснавальнік – грамадзянін, які мае статус індывідуальнага прадпрымальніка, мае права выконваць функцыі рэдакцыі толькі ў адносінах ім самім заснаванага сродка масавай інфармацыі",* - гэта цытата з загада міністра інфармацыі ад 02.10.2003 г. № 159… "Аб прыпыненні выпуска газеты "Новая газета Сморгони" (на той момант Р. Улан, пазбаўлены пасведчання на права займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю, перадаў функцыі рэдакцыі іншаму індывідуальнаму прадпрымальніку, В. Куняўскай).

Яшчэ раней, ажно да выдання Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 11 ад 16.03.1999 г. "Аб упарадкаванні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спынення дзейнасці) суб'ектаў гаспадарання" частка 1 артыкула 20 Закона выступала ў якасці прававога абгрунтавання рэгістрацыі Дзяржкамітэтам па друку (правапераемнікам якога з'яўляецца Міністэрства інфармацыі) рэдакцый СМІ ў якасці юрыдычных асобаў. Гэта значыць, у 2004 г. Міністэрства інфармацыі прадэманстравала ўжо трэцюю трактоўку артыкула 20 Закона аб друку, прычым скрайне небяспечную, бо ў Беларусі значная колькасць сродкаў масавай інфармацыі выдаецца індывідуальнымі прадпрымальнікамі.

Р. Улан таксама спрабаваў абскардзіць загад Міністэрства інармацыі аб прыпыненні дзейнасці "Новой газеты Сморгони", аднак Вышэйшы гаспадарчы суд па фармальных прычынах адмовіўся разглядаць зыскавую заяву. Спробы абскардзіць загад міністэрства ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь таксама не мелі поспеха.

Заснавальнікі і галоўныя рэдактары грамадска-палітычных газет, дзейнасць якіх была прыпынена ў 2004 г., адназначна звязваюць дзеянні Міністэрства інфармацыі з выбарчай кампаніяй і рэферэндумам. Аналіз загадаў міністра У. Русакевіча аб прыпыненні дзейнасці гэтых газет не дазваляе знайсці якія-небудзь іншыя тлумачэнні дзеянням міністэрства.

***5 лютага*** на месячны тэрмін Міністэрства інфармацыі прыпыніла выхад недзяржаўнай газеты **"Згода"**, матывуючы свае дзеянні, апроч іншага, парушэннем рэдакцыяй дзяржаўнага стандарту афармлення выдавецкіх дадзеных.

***6 лютага*** міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч падпісаў загад аб трохмесячным прыпыненні дзейнасці газеты **"Вечерний Столин".** На думку міністэрства, выданне груба парушыла заканадаўства: у прыватнасці, артыкулы 30 (перавышэнне дазволенага аб'ёму рэкламы) і 11 (змена тэматыкі і мовы выдання) Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі".

Газету абвінавацілі ў тым, што ў нумарах 42 і 44 за 2003 г. *"рэкламныя матэрыялы перавышаюць 30 % аб'ёму нумароў",* хаця *"газета не зарэгістравана ў якасці спецыялізаванага сродку масавай інфармацыі для паведамленняў і матэр'ялаў рэкламнага характара".* Другая прэтэнзія да газеты тычыцца змянення яе тэматыкі *"з вытворча-практычнай і вольнага часу на масава-палітычную"* і мовы (замест рускай і беларускай моваў цалкам перайшла на рускую) без інфармавання Міністэрства інфармацыі.

У ліпені 2003 г. выпуск газеты "Вечерний Столин" ужо прыпыняўся Міністэрствам інфармацыі на тры месяцы. У адпаведнасці з беларускім заканадаўствам, два прыпыненні дзейнасці газеты на працягу года

з'яўляюцца падставай для яе перарэгістрацыі.

***26 лютага*** загадам міністра інфармацыі на тры месяцы прыпынена выданне газеты **"Криминальное обозрение",** якая спецыялізавалася на "забаўляльных" матэрыялах аб злачынствах і г.д. Міністэрства абвінаваціла газету ў парушэнні патрабаванняў арт. 5 Закона аб друку, а менавіта – у *"замаху на маральнасць, гонар і годнасць грамадзян".* Міністэрства палічыла, што выданне дапусціла занадта натуралістычнае і дэталізаванае апісанне сцэн гвалту і жорсткасці.

***29 сакавіка*** выхад газеты "Криминальное обозрение" аднавіўся, Міністэрства інфармацыі адмяніла свой загад аб прыпыненні дзейнасці выдання. Паводле інфармацыі з крыніц у міністэрстве, рашэнне было перагледжана ў выніку настойлівых просьбаў з боку рэдакцыі "Криминального обозрения" і чытачоў газеты.

***15 сакавіка*** Міністэрства інфармацыі з тых жа падставаў прыпыніла на тры месяцы выданні **"Версия"** і **"Детективная газета".** Тэматычны накірунак гэтых выданняў супадае з кірункам газеты "Криминальное обозрение".

***23 сакавіка*** Міністэрства інфармацыі адмовілася аднавіць рэгістрацыйнае пасведчанне газеты "**Голас Пружаны".** Пасведчанне аб рэгістрацыі выдання было адклікана 7 кастрычніка 2003 г. міністрам інфармацыі У. Русакевічам на падставе таго, што газета не выходзіла на працягу аднаго года. Рэдактар выдання Іосіф Малашка звярнуўся ў міністэрства з лістом, у якім не пагадзіўся з рашэннем аб анупяванні рэгістрацыі выдання, аргументаваўшы сваё меркаванне тым, што з моманту выхаду апошняга нумара газеты прайшло менш за год. Адмову ў аднаўленні рэгістрацыі выдання міністэрства абгрунтавала тым, што заснавальнік газеты быццам бы своечасова не падаў у міністэрства рашэнне аб стварэнні рэдакцыі газеты і яе статут.

***3 чэрвеня*** Міністэрства інфармацыі прыпыніла на тры месяцы дзейнасць газеты **"Рабочая солидарность"** і ў той жа дзень вынесла на адрас рэдакцыі папярэджанне.

Міністэрства палічыла, што рэдакцыя парушыла Закон аб друку, калі не ўнесла змяненняў у статут аб рэгістрацыі пасля таго, як у сакавіку адзін з заснавальнікаў газеты – Беларускі прафсаюз працаўнікоў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання – адмовіўся ад сваіх правоў. Рэдакцыя сцвярджала, што ўнясенне змяненняў у пасведчанне аб рэгістрацыі газеты было затрымана

па віне Мінгарвыканкама, які на працягу трох месяцаў не разгледзеў пытанне аб дазволе змянення юрыдычнага адраса рэдакцыі.

***2 жніўня*** Вярхоўны Суд Беларусі прыняў рашэнне аб ліквідацыі Беларускай партыі працы (БПП). Спасылаючыся на гэтае рашэнне, Міністэрства інфармацыі анулявала пасведчанне аб рэгістрацыі газеты **"Рабочая солидарность",** функцыю рэдакцыі якой выконвала БПП.

***16 жніўня*** міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч падпісаў загад аб прыпыненні дзейнасці **"Новой газеты Сморгони".** Заснавальніку і выдаўцу газеты Рамуальду Улану было пастаўлена ў віну парушэнне

артыкулаў 10 і 20 Закона аб друку, а менавіта – выданне газеты індывідуальным прадпрымальнікам, а не юрыдычнай асобай (*юрыдычны аналіз загада аб прыпыненні дзейнасці выдання гл. вышэй)*. Папярэджанне за гэтыя парушэнні было вынесенае выдаўцу на дзень пазней – 17 жніўня.

***20 жніўня*** Міністэрства інфармацыі выдала загад аб прыпыненні на тры месяцы дзейнасці **"Предпринимательской газеты",** якая пасля працяглага перапынку ўвесну 2004 г. аднавіла свой выхад. Рэдакцыю газеты абвінавацілі ў парушэнні арт. 11 Закона аб друку: змяненні тэматыкі газеты з "вытворча-прававой" на "масава-палітычную", а таксама перыядычнасці выхаду.

***24 ліпеня*** міністр інфармацыі У. Русакевіч падпісаў загад аб прыпыненні на тры месяцы дзейнасці газеты **"Время".** Адначасова міністэрства вынесла папярэджанне на адрас рэдакцыі газеты "Время". У віну рэдакцыі пастаўлена ўказанне ў двух апошніх нумарах газеты быццам бы несапраўднага адраса *(юрыдычны аналіз загада аб прыпыненні дзейнасці выдання гл. вышэй).*

12 жніўня Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь па зыску УП "Выдавецкі дом "Время" прызнаў прыпыненне газеты "Время" незаконным, а адпаведны загад Міністэрства інфармацыі – несапраўдным з моманту вынясення.

***27 жніўня*** Міністэрства інфармацыі вынесла рэдакцыі газеты **"Навінкі"** папярэджанне аб парушэнні Закона Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" і адначасова прыпыніла выхад газеты на тры месяцы. У папярэджанні адзначана, што газета не зрабіла рассылкі абавязковых бясплатных асобнікаў № 1 і № 2 за травень і чэрвень, што з'яўляецца парушэннем арт. 27 Закона аб друку. Апроч таго, у папярэджанні адзначана, што ў парушэнне арт. 26 гэтага ж закона ў выхадных дадзеных гэтых нумароў газеты не пазначана дата іх выхаду і надрукаваны несапраўдны адрас рэдакцыі.

У загадзе аб прыпыненні дзейнасці газеты "Навінкі" адзначана, што рэдакцыя не паведаміла міністэрству аб змяненні свайго юрыдычнага адраса і перыядычнасці выхаду газеты, а таксама адзначаны парушэнні, якія былі названыя падставай для вынясення папярэджання.

***31 жніўня*** Міністэрства інфармацыі прыпыніла на 1 месяц выхад баранавіцкай газеты **"Алло! Куплю, продам, меняю".** Газету абвінавацілі ў парушэнні некалькіх артыкулаў Закона аб друку. У прыватнасці, у тым, што рэдакцыя выпусціла незарэгістраваны дадатак "Теленеделя", змяніла тэматыку выдання з "рэкламна-інфармацыйнай" на "масава-палітычную", а таксама перыядычнасць выхаду, не паведаміўшы аб гэтым Міністэрству інфармацыі.

Таксама было прыпынена выданне яшчэ адной рэкламнай газеты – **"Любой каприз".** Рэдакцыя гэтага СМІ размяшчалася ў Мінску, аднак газета выдавалася ў Магілёве. Прэтэнзіі да газеты тычыліся змянення тэматыкі, мовы і перыядычнасці выхаду.

***20 верасня*** выхад недзяржаўнай газеты **"Молодёжный проспект"** быў прыпынены на 3 месяцы загадам міністра інфармацыі Уладзіміра Русакевіча. Рэдакцыя выдання даведалася аб гэтым 5 кастрычніка**,** атрымаўшы па факсе тэкст загаду і папярэджання, якое падпісала намеснік міністра Лілія Ананіч. Абодва

дакументы датаваныя адным днём. Міністэрства палічыла, што газета дапусціла грубыя парушэнні арт. 10 Закона аб друку. Такімі міністэрства палічыла змену мовы выдання, перыядычнасць выхаду і бясплатны распаўсюд двух спецнумароў газеты ў ліпені б. г. у мікраараёне "Серабранка".

***24 верасня*** Міністэрства інфармацыі прыпыніла на тэрмін 3 месяцы недзяржаўную газету **"Региональные ведомости"** (г. Горкі). Выданне было папярэджана за парушэнне артыкулаў 10, 11 і 26 Закона аб друку і ў той жа дзень было прыпынена.

На думку міністэрства, тэматыка газеты не адпавядае заяўленай пры рэгістрацыі (выданне зарэгістравана як "газета для адпачынку", а выходзіла як грамадска-палітычнае); замест заяўленых дзвюх моваў (рускай і беларускай) газета выкарыстоўвала толькі рускую; замест трох разоў за тыдзень "Региональные ведомости" выходзілі адзін раз; да таго ж, у выходных дадзеных быў няправільна ўказаны юрыдычны адрас газеты.

У той жа дзень, ***24 верасня*** Міністэрства інфармацыі прыпыніла на 3 месяцы недзяржаўную газету **"Народный предприниматель".** Галоўны рэдактар выдання Валеры Шаўчэнка даведаўся аб гэтым 1 кастрычніка, атрымаўшы па пошце папярэджанне аб парушэнні Закона аб друку і загад аб прыпыненні дзейнасці выдання.

Міністэрства абвінаваціла рэдакцыю ў парушэнні некалькіх артыкулаў Закона аб друку, а менавіта, што рэдакцыя не рабіла абавязковай рассылкі выдання па бібліятэках і афіцыйных установах, не паведаміла рэгіструючаму органу аб змяненні перыядычнасці выхаду і мовы выдання, у выхадных дадзеных не ўказвала, дзе надрукавана газета, калі падпісана ў друк і г. д. (арт. арт. 11, 26, 27 Закона аб друку).

***24 верасня*** на тры месяцы прыпынены выхад недзяржаўнай беларускамоўнай **"Рэгіянальнай газеты"** (г. Маладзечна). Адпаведны загад падпісаў міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч. Тым жа днём датаваныя і два папярэджанні, вынесеныя Міністэрствам інфармацыі заснавальніку і рэдакцыі выдання. На думку міністра, рэдакцыя парушыла арт. 9 Закона аб друку, выпусціўшы накладам 9100 асобнікаў незарэгістраваны дадатак – газету "Тэлетыдзень" – і распаўсюдзіўшы разам з "Рэгіянальнай газетай" (№ 32 ад 6 жніўня 2004 г.). Рэдакцыю абвінавацілі таксама ў парушэнні арт. 10 Закона аб друку: зарэгістраваная як "масава-палітычнае выданне", у выхадных дадзеных яна называе сябе "інфармацыйна-рэкламным" і, замест 7 разоў за тыдзень, выходзіць толькі адзін раз. Апроч таго, як указана ў актах міністэрства, газета па ўмовах рэгістрацыі павінна была распаўсюджвацца "ў Рэспубліцы Беларусь і іншых краінах свету", а распаўсюджвалася толькі "у рэгіёне" (Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзель, Астравец, Мінск). Сузаснавальніка газеты Аляксандра Манцэвіча абвінавацілі ў тым, што ён на працягу месяца не паведаміў аб змяненні перыядычнасці выпуску і тэрыторыі распаўсюду газеты "для ўнясення адпаведных змяненняў у пасведчанне аб рэгістрацыі".

12 кастрычніка Міністэрства інфармацыі адмяніла свой загад аб прыпыненні дзейнасці "Рэгіянальнай газеты". У загадзе міністра У. Русакевіча аб адмене папярэдняга загаду апошняе рашэнне ніяк не аргументуецца. Сузаснавальнік і галоўны рэдактар выдання Аляксандр Манцэвіч не выключае, што гэта звязана з вялікай колькасцю чытацкіх

скаргаў, якія паступілі на адрас Міністэрства інфармацыі пасля прыпынення выхаду газеты.

***5 кастрычніка*** Міністэрства інфармацыі прыпыніла на 3 месяцы выхад недзяржаўнай газеты **“Неделя”.** Да моманту прыпынення выйшаў толькі адзін нумар гэтага штотыднёвіка, ад **23 верасня.** Газета, за выключэннем назвы, уяўляла сабой копію прыпыненай месяц таму газеты “Время”.

У загадзе, падпісаным міністрам інфармацыі У. Русакевічам, сцвярджаецца, што *“першы нумар газеты “Неделя” выпушчаны з парушэннямі ўмоваў рэгістрацыі, прадугледжаных артыкулам 10 Закона РБ “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі”,* але не ўдакладняецца, якія менавіта парушэнні дапушчаныя.

У той жа дзень, 5 кастрычніка, Смаленскі паліграфічны камбінат, у якім друкавалася газета, адмовіўся прымаць у друк чарговы нумар выдання, спаслаўшыся на тое, што “ў *адпаведнасці з атрыманым 5 кастрычніка загадам Міністэрства інфармацыі Беларусі”* друкарня *“не можа выканаць апошні заказ на газету “Неделя” у адпаведнасці з папярэднімі дамоўленасцямі”.*

***14 кастрычніка*** Міністэрства інфармацыі прыпыніла на месяц выхад недзяржаўнай выўкавыскай **“Местной газеты”.** Міністэрства абвінаваціла выданне ў парушэнні некалькіх артыкулаў Закона “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі”. У прыватнасці, у распаўсюдзе несапраўдных звестак у артыкуле “Что-то с памятью Министерства информации стало”, у якім крытыкавалася рашэнне міністэрства прыпыніць дзейнасць “Новой газеты Сморгони”. “Несапраўднымі звесткамі” названа фраза “*Никто не давал права Министерству информации… выносить незаконные решения*”. На думку міністра У. Русакевіча, гэта парушыла арт. 32 Закона аб друку.

Міністэрства таксама абвінаваціла “Местную газету” у парушэнні арт. 30 Закона аб друку: публікацыі рэкламных абвестак аб дзейнасці, якая патрабуе ліцэнзіі, *“без пацвярджэння рэкламадаўцам права на ажыццяўленне такой дзейнасці”.* Яшчэ адным парушэннем, на думку Міністэрства інфармацыі, з’яўляецца тое, што *“у выхадных дадзеных газеты… не ўказваецца поўны адрас друкарні”* (парушэнне арт. 26 Закона аб друку).

20 кастрычніка пасля беспаспяховых спробаў патрапіць на прыём да міністра інфармацыі У. Русакевіча заснавальнік і галоўны рэдактар “Местной газеты” Андрэй Шантаровіч абвесціў галадоўку. Ён заявіў, што будзе галадаваць, пакуль не адменяць загад аб прыпыненні яго выдання і пакуль Ваўкавыскі райвыканкам не дасць узгаднення на размяшчэнне рэдакцыі газеты. Апроч таго, А. Шантаровіч запатрабаваў, каб кампетэнтныя органы прынялі да разгляду матэрыялы з фактамі парушэнняў выбарчага заканадаўства пад час выбараў і рэферэндума, што апынуліся ў яго распараджэнні.

1 лістапада ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” накіравала адкрыты ліст міністру інфармацыі У. Русакевічу з просьбай адмяніць загад аб прыпыненні выхаду “Местной газеты”. Арганізацыя заклікала міністра ў бліжэйшы час сустрэцца з кіраўніцтвам БАЖ і рэдактарамі недзяржаўных выданняў, каб абмеркаваць сітуацыю ў галіне СМІ. *“Мы ўвогуле супраць пазасудовага прыпынення выхаду газет. Лічым, што падобныя рашэнні… парушаюць міжнародна-прававыя абавязацельствы Рэспублікі Беларусь у галіне свабоды слова і*

*перашкаджаюць ажыццяўленню дэклараваных Канстытуцыяй правоў на свабоднае атрыманне і распаўсюд інфармацыі”, -* гаворыцца ў лісце БАЖ,

9 лістапада на 21-ы дзень галадоўкі рэдактар “Местной газеты” Андрэй Шантаровіч спыніў яе. А. Шантаровіч выказаў вялікую ўдзячнасць чытачам, якія сабралі тысячы подпісаў на абарону газеты, а таксама калегам.

***24 лістапада*** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне і прыпыніла на тры месяцы выхад недзяржаўнай гродзенскай газеты **“Биржа информации”.** Міністэрства палічыла, што ў артыкуле “Предательство именем народа” (№ 36 ад 9 верасня 2004 г.) парушаны артыкулы 5, 32 і 40 Закона аб друку. У загадзе аб прыпыненні і ў папярэджанні, падпісаным У. Русакевічам, сцвярджаецца, што ў публікацыі

*“ўтрымліваюцца несапраўдныя звесткі, якія не адлюстроўваюць законнай падставы прызначанага… рэферэндуму, якія абражаюць гонар і годнасць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь”.*

25 лістапада Ваўкавыскі раённы суд палічыў галадоўку, якую рэдактар праводзіў у памяшканні рэдакцыі, несанкцыянаваным пікетам і аштрафаваў яго на 1 млн. 200 тыс. рублёў, альбо 600 долараў *(гл. таксама “Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ і журналістаў”).*

Раней за гэтую ж публікацыю да адміністратыўнай адказнасці па ч. 10 арт. 172-1 КоАП была прыцягнута рэдактар газеты А. Раўбецкая *(гл. таксама “Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ і журналістаў”).*

24 студзеня рэдакцыя газеты “Биржа информации” атрымала ліст з Міністэрства інфармацыі на просьбу скараціць тэрмін прыпынення дзейнасці газеты. Намеснік міністра Лілія Ананіч паведаміла, што ў міністэрства адсутнічаюць падставы для адмены загаду аб прыпыненні выпуску выдання.

# КРЫМІНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ ПА ПУБЛІКАЦЫЯХ У СМІ

Крымінальная адказнасць за паклёп і абразу ў СМІ ўстаноўлена шасцю артыкуламі Крымінальнага кодэксу: 188 (“Паклёп”), 189 (“Абраза”), 367 (“Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь”), 368 (“Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь”), 369 (“Абраза прадстаўніка ўлады”), 391 (“Абраза суддзі альбо засядальніка”).

Максімальная санкцыя, прадугледжаная артыкуламі 188 і 189 КК, - пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў. Магчыма і ўжыванне альтэрнатыўных санкцый (штраф, папраўчыя работы, арышт і абмежаванне волі). Артыкулы 367 -- 368 прадугледжваюць павышаную адказнасць за паклёп і абразу ў дачыненні да прадстаўнікоў улады. Максімальная санкцыя па арт. 367 – да 5 гадоў, па арт. 368 – да 3 гадоў пазбаўлення волі, па арт. 369 – абмежаванне волі на тэрмін да 3 гадоў.

Арт. арт. 367, 368 Крымінальнага кодэкса прымяняюцца ў Беларусі даволі часта. Шырока вядомы факт крымінальнага пераследу па гэтых артыкулах журналістаў газеты “Пагоня” Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі і рэдактара газеты “Рабочы” Віктара Івашкевіча.

У чэрвені 2004 г. да крымінальнай адказнасці за паклёп у дачыненні да прэзідэнта і яго абразу (якія ўтрымліваліся, на думку пракуратуры і суда, ва ўлётках) была прыцягнутая актывістка Аб’яднанай грамадзянскай партыі Аксана Новікава.

Падчас выбарчай кампаніі 2004 года нормы беларускага заканадаўства, якія ўстанаўліваюць павышаную адказнасць за замахі на гонар і годнасць прэзідэнта, зноў аказаліся задзейнічаныя.

У верасні 2004 г. у г. Гродна па абвінавачанні ў публічнай абразе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, спалучанай з абвінавачаннем у здзяйсненні цяжкага злачынства – злоўжыванні ўладай (ч. 2 арт. 368 КК) былі асуджаны кіраўнік рэспубліканскага страйкама прадпрымальнікаў Валеры Леванеўскі і яго калега Аляксандар Васільеў. У прысудзе ўказваецца, што ў фразе “Прыйдзі і скажы, што ты супраць, каб за твой кошт нехта ездзіў у Аўстрыю адпачываць і катацца на лыжах, жыць у сваё задавальненне”, надрукаванай ва ўлётцы, утрымліваецца знявага гонару і годнасці Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і, адпаведна, існуе склад злачынства, прадугледжанага арт. 368 ч. 2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Між тым абразай з’яўляецца наўмыснае прыніжэнне гонару і годнасці асобы, выказанае ў непрыстойнай форме. Пры абразе даецца адмоўная адзнака асобы пацярпелага, яго чалавечым якасцям, паводзінам, прычым у такой форме, якая рэзка супярэчыць агульнапрынятым нормам камунікацыі паміж людзьмі. Гэта значыць, для кваліфікацыі дзеяння як абразы неабходна, каб мела месца прыніжэнне гонару і годнасці асобы, гэтае прыніжэнне было наўмысным і выказвалася ў непрыстойнай форме. Не можа лічыцца абразай адмоўная, рэзка крытычная ацэнка асобы, калі яна дадзена ў прыстойнай форме.

Фраза, указаная ў прысудзе, уяўляецца карэктнай і па змесце, і па форме. Тым не менш, суд прыгаварыў В. Леванеўскага і А. Васільева да двух гадоў пазбаўлення волі кожнага (такая мера пакарання па дадзеных артыкулах была прыменена ўпершыню). Паказальна, што прысуд па справе В. Леванеўскага

і А. Васільева быў абвешчаны ў дзень падпісання ўказа аб прызначэнні рэферэндуму і звароту прэзідэнта А. Лукашэнкі да народа з просьбай "дазволіць" яму ўдзельнічаць у наступных прэзідэныцкіх выбарах.

Крытычныя ацэнкі дзейнасці галавы дзяржавы ў перадвыбарных улётках ці выступах некаторых кандыдатаў у дэпутаты таксама сталі падставай да крымінальнага пераследу. Так, увосень 2004 г. Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, адхіліўшы скаргі Марыны Багдановіч, Аляксандра Цынкевіча і Алега Волчака на рашэнні акруговых камісій аб адмене іх рэгістрацыі ў якасці кандыдатаў, перадала матэрыялы гэтых спраў у пракуратуру. 1 лютага 2005 года пракурор Цэнтральнага раёна г.Мінска В. Хадатовіч вырашыў, што ў агітацыйных матэрыялах у падтрымку былых кандыдатаў у дэпутаты А. Цынкевіча і А. Волчака ўтрымліваюцца звесткі паклёпніцкага характару ў адрас прэзідэнта з абвінавачваннем яго ў здзяйсненні цяжкага злачынства, і пастанавіў узбудзіць крымінальную справу па факце паклёпу ў дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч. 2 арт. 367 Крымінальнага кодэкса).

Пасля заявы на прэс-канферэнцыі апазіцыйных палітыкаў аб рыхтаванай фальсіфікацыі вынікаў выбараў і рэферэндуму пракуратура г. Мінска ўзбудзіла крымінальную справу па арт. арт. 188 ("Паклёп") і 367 ("Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь") па факце "*распаўсюду заведама ілжывых і зневажальных для Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і іншых службовых асоб домыслаў, датычных... рэспубліканскага рэферэндума і выбараў*". Пасля выбараў крымінальны пераслед за публікацыі ў сродках масавай інфармацыі працягваецца.

***1 сакавіка*** Пракуратура Рэспублікі Беларусь завяла крымінальную справу па арт. 367 ч. 2 Крымінальнага кодэксу ("Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь") да старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі. Падставай для гэтага сталі выказванні А. Лябедзькі ў інтэрв'ю праграмам дзяржаўнага расійскага тэлеканала **"Россия"** "Зеркало" і "Вести недели" 21 і 22 лютага.

Справа перададзена ў пракуратуру г. Мінска (*гл. таксама "Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ").*

У 2002 г. імя А. Лябедзькі ўжо фігуравала ў сувязі з узбуджэннем пракуратурай Савецкага р-на г. Мінска крымінальнай справы па факце з'яўлення ў газеце "Народная воля" публікацыі "Бандыты фінансуюць беларускі рэжым?" (лістапад 2001 г.). Аўтар артыкула цытаваў інтэрв'ю палітыка расійскаму інтэрнэт-выданню **Gazeta. ru**, у якім той звінавачваў беларускія ўлады ў нелегальным гандлі зброяй.

***7 верасня*** суддзя Ленінскага раёна г. Гродна Дзмітрый Дземчанка прызнаў Валерыя Леванеўскага і Аляксандра Васільева вінаватымі ў публічнай зняваже Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (арт. 368 ч. 2 Крымінальнага кодэкса). Знявагу прэзідэнта суд угледзеў ва ўлётцы з вершам «Рахунак на камунальныя паслугі ці жыроўка», распаўсюджанай у Гродна напярэдадні 1 траўня. Суд пастанавіў канфіскаваць на карысць дзяржавы некалькі кампутараў, прынтэры, рызограф і іншую аргтэхніку, якую раней забралі ў В. Леванеўскага і А. Васільева, і спагнаць з В. Леванеўскага 643 тысячы рублёў на аплату выдаткаў на правядзенне экспертыз падчас следства. А. Васільёў быў узяты пад варту ў залі

суда. В. Леванеўскі знаходзіцца пад вартай з траўня 2004 г.

***15 кастрычніка*** пракурор г. Мінска Мікалай Кулік заявіў аб узбуджэнні крымінальнай справы па арт. 188 (“Паклёп”) і 367 (“Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь”) па факце “распаўсюду заведама ілжывых і зневажальных для Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і іншых службовых асоб вымыслаў, датычных рэспубліканскага рэферэндуму і выбараў”. Гэтыя, на думку пракуратуры, “вымыслы” прагучалі на прэс-канферэнцыі, праведзенай 15 кастрычніка лідэрамі апазіцыйных партый і прадстаўнікамі ініцыятывы “За справядлівыя выбары”. Падчас прэс-канферэнцыі выступоўцы заявілі аб рыхтаваных фальсіфікацыях вынікаў выбараў і прадэманстравалі копіі загадзя падрыхтаваных пратаколаў выбарчых камісій, у якіх ужо запісаны вынікі на карысць А. Лукашэнкі і кандыдатаў “ад улады”.

***3 лістапада*** пракурор г. Барысава В. Шпакоўскі ўзбудзіў крымінальную справу па факце публікацыі ў газеце **“Борисовские новости”** артыкула Анатоля Букаса "Звезданутый пострел везде поспел, или молчание ягнят", у якім ідзе гаворка пра рэдактара мясцовай афіцыйнай газеты "Адзінства" Веру Пратасевіч. А.Букаса звінавачваюць у абразе й паклёпе на В. Пратасевіч. Артыкул рэдактара “Борисовских новостей” А. Букаса быў адказам на тры публікацыі ў афіцыйнай газеце, у якіх яго асоба была прадстаўлена ў негатыўным святле. Спрэчны артыкул з'явіўся ў "Борисовских новостях” яшчэ ў сакавіку, але справа супраць рэдактара заведзеная толькі ў лістападзе. Папярэдняе расследаванне па справе вядзе старэйшы следчы аддзелу папярэдняга расследавання Барысаўскага ГУУС Сяргей Казлоў.

***30 лістапада*** намеснік старшыні грамадскага аб’яднання “Беларускі Хельсінкскі камітэт” Гары Паганяйла даведаўся, што за тыдзень да гэтага супраць яго была ўзбуджана крымінальная справа па ч. 2 арт. 367 Крымінальнага кодэкса (паклёп у дачыненні да Прэзідэнта РБ, спалучаны з абвінавачаннем у здзяйсненні цяжкога злачынства). Пра гэта яму паведамілі ў пракуратуры г. Мінска, куды выклікалі для ўручэння адпаведнай пастановы. Падставай для завядзення справы стала інтэрв'ю, якое праваабаронца ў жніўні 2004 г. даў шведскаму тэлеканалу "**ТВ-4**". У інтэрв'ю Г. Паганяйла выказваў падазрэнні наконт спрычыненасці вышэйшых дзяржаўных кіраўнікоў (у тым ліку і Аляксандра Лукашэнкі) да знікненняў і магчымых забойстваў беларускіх апазіцыйных лідэраў. Стужку з відэазапісам інтэрв'ю Г. Паганяйлы шведскаму тэлебачанню забралі беларускія мытнікі, калі шведскі журналіст выязджаў з Беларусі.
Юрыст заявіў, што гатовы прадаставіць шэраг дакументаў, якія могуць пацвердзіць справядлівасць яго падазрэнняў.

У сакавіку 2005 г. крымінальная справа ў дачыненні да Г. Паганяйлы была спынена за адсутнасцю складу злачынства.

***У снежні*** пракуратура г. Мінска завяла крымінальную справу ў дачыненні да палітыка Андрэя Клімава – аўтара кніг "Очевидные истины", "Я сделал свой выбор” і інш. Некалькі гадоў таму ён выдаваў “Газету Андрея Климова.” Паводле лінгвістычнай экспертызы, у тэксце кніг утрымліваюцца выказванні, якія “абражаюць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і выказаныя ў непрыстойнай

форме”. Пракуратура Мінска ўгледзела ў гэтых дзеяннях прыкметы складу злачынства, прадугледжанага ч. 1 арт. 368 Крымінальнага кодэкса (публічная знявага кіраўніка беларускай дзяржавы).

# ЗАМАХІ НА ЖУРНАЛІСТАЎ І МЕДЫІ

У 2004 г. колькасць замахаў і пагроз на адрас журналістаў і СМІ ўзрасла. ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” наўпрост звязвае гэта з правядзеннем парламенцкіх выбараў і рэферэндуму. Падставы для такой высновы дае тое, што значная частка замахаў на журналістаў (збіццё, пашкоджанне маёмасці) здейснена прадстаўнікамі сілавых структураў.

Найвялікшы рэзананс у мінулым годзе выклікалі пагрозы на адрас гомельскай журналісткі Ірыны Макавецкай, збіццё і затрыманне расійскага журналіста Паўла Шарамета і забойства карэспандэнта газеты “Салідарнасць” Веранікі Чаркасавай.

У выпадку з І. Макавецкай удалося высветліць асобу таго, хто пагражаў, і прыцягнуць яго да адказнасці.

Тое, што здарылася з П. Шараметам, ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" разглядае як правакацыю, якая мела за мэту запалохаць яго, перашкодзіць ажцыццявіць журналісцкае назіранне за выбарамі і, у выніку, ізаляваць (напачатку да разгляду справы аб адміністратыўным правапарушэнні, а потым -- на тэрмін адміністратыўнага арышту).

Супрацоўнік расійскага “Першага канала" П. Шарамет не ўпрершыню затрымліваўся беларускімі праваахоўнымі органамі. 26 ліпеня 1997 г. П. Шарамет, на той час старшыня Мінскага бюро расійскага тэлеканала ОРТ, быў арыштаваны разам з аператарам ОРТ Дзмітрыем Завадскім пасля выхаду ў эфір рэпартажу пра недахопы ў ахове беларуска-літоўскай мяжы. Журналіст і тэлеаператар некалькі месяцаў правялі за кратамі. У 2000 г. Дз. Завадскі знік пры нявысветленых абставінах (*гл. таксама “Справа Дз. Завадскага”*).

Жорсткае забойства Веранікі Чаркасавай выклікала шок у журналісцкай супольнасці. Расследаванне справы працягваецца, але нежаданне міліцыі разглядаць іншыя версіі, акрамя бытавой, выклікае сур’ёзную заклапочанасць.

***У ноч на 11 студзеня*** карэспандэнтка **“Белорусской деловой газеты”** па Гомельскай вобласці Ірына Макавецкая атрымала ананімную тэлефонную пагрозу. На працягу гадзіны невядомы мужчына тэлефанаваў ёй дахаты некалькі разоў, патрабуючы, каб Ірына перастала займацца журналістыкай, пагражаючы ў адваротным выпадку “пахаваць” яе. Журналістцы ўдалося зрабіць дыктафонны запіс аднаго з тэлефанаванняў. 11 студзеня яна падала заяву ў 2-е гомельскае аддзяленне міліцыі. 13 студзеня заяву з просьбай расследаваць інцыдэнт І. Макавецкая падала ў пракуратуру Чыгуначнага раёна Гомеля. Супрацоўнікі пракуратуры прынялі заяву, але паведамілі, што разглядаць яе не будуць, а перанакіруюць у міліцыю, паколькі такога кшталту справы не ў іх кампетэнцыі. 14 студзеня міністр унутраных справаў Беларусі Уладзімір Навумаў на прэсавай канферэнцыі заявіў, што не лічыць патрэбным браць пад асабісты кантроль інцыдэнт з тэлефоннымі пагрозамі на адрас гомельскай карэспандэнткі "БДГ" Ірыны Макавецкай. Аднак ён паабяцаў паспрыяць адкрытаму разбіральніцтву па гэтай справе. Ірына Макавецкая сама прыехала ў Мінск, каб задаць пытанне міністру. “*Я вымушана канстатаваць, што за гэтыя дні*

*супрацоўнікі міліцыі не зрабілі ніякіх захадаў, каб высветліць асобу таго, хто тэлефанаваў, і каб гарантаваць мне бяспеку”*, - заявіла яна.

Сп. Навумаў паабяцаў асабіста звязацца з начальнікам УУС Гомельскага аблвыканкама. 20-га студзеня начальнік 2-га аддзялення міліцыі Чыгуначнага раёна Гомеля Валеры Стрыгалёў паведаміў І. Макавецкай, што міліцыя высветліла асобу ананіма, які пагражаў журналістцы. Ім аказаўся 25-гадовы супрацоўнік Гомельскага тэлерадыёаб'яднання Вячаслаў Булкін. У тлумачальнай даведцы В. Булкін заявіў, што тэлефанаваў Ірыне "з мэтай выказаць сваё меркаванне", без злога намеру і без намеру расправіцца з журналісткай. Матывы сваіх дзеянняў ён патлумачыў тым, што Ірына з'яўляецца супрацоўніцай апазіцыйнай газеты і распаўсюджвае інфармацыю, якая "не адпавядае рэальнаму жыццю". У той жа дзень, 20 студзеня, аддзел крымінальнага вышуку Чыгуначнага РАУС г. Гомеля адмовіў І. Макавецкай ва ўзбуджэніі крымінальнай справы, спаслаўшыся на адсутнасць "пагрозы забойства, цяжкіх цялесных пашкоджанняў або знішчэння маёмасці" (арт. 186 КК). Адначасова міліцыя прыцягнула Вячаслава Булкіна, які пагражаў І. Макавецкай па тэлефоне, да адміністратыўнай адказнасці за дробнае хуліганства (арт. 156 КоАП РБ). 21 студзеня Вячаслаў Булкін быў звольнены з працы. Адпаведны загад падпісаў дырэктар рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Тэлерадыёкампанія "Гомель" Віктар Котаў. Дырэктар прадпрыемства прапанаваў Булкіну напісаць заяву пра сыход па ўласным жаданні, як толькі стала вядома пра інцыдэнт.

***У сярэдзіне студзеня*** ў рэдакцыю газеты **"Биржа информации"** двойчы тэлефанаваў невядомы, які прадставіўся "сабакам Рэксам". Канкрэтных пагрозаў "сабака Рэкс" не выказаў, але казаў пра лёс зніклых беларускіх палітыкаў і прапанаваў журналістам газеты "быць разумнымі". Супрацоўнікі выдання звярнуліся да праваахоўных органаў з просьбай высветліць асобу ананіма.

***26 студзеня*** гарадзенская міліцыя адмовілася ад высвятлення справы аб тэлефанаваннях з пагрозамі, што паступілі ў рэдакцыю. У лісце ў рэдакцыю з аддзела ўнутраных справаў адміністрацыі Ленінскага раёна Гродна паведамляецца, што па факце тэлефанаванняў у рэдакцыі праведзена праверка, а высветліць нумары асобаў, якія тэлефанавалі ў газету, можна праз зварот у пракуратуру. Між тым, паводле словаў журналісткі выдання Наталлі Макушынай, кіраўніцтва Гроднааблтэлекама запэўніла рэдакцыю, што правесці расследаванне і высветліць нумар, з якога пагражалі супрацоўнікам газеты, можна на падставе дазволу менавіта міліцыі.

***У Мінску*** была абрабаваная кватэра журналісткі незалежнай газеты **“Народная воля”** Марыны Коктыш. Кватэра М. Коктыш мела двое ўваходных дзвярэй – жалезныя і звычайныя. Злачынцы ўзламалі тры замкі, але не вынеслі нічога, што звычайна выносяць квартэрныя злодзеі. Былі прагледжаныя ўсе працоўныя нататнікі, адзін з іх парваны.

***18 сакавіка*** позна ўвечары трое невядомых спрабавалі трапіць у памяшканне, адзін з пакояў у якім займае карпункт недзяржаўнай газеты **“День”**. Дваіх з іх затрымала міліцыя, аднак хутка адпусціла. Галоўны рэдактар "Дня" Мікола Маркевіч сцвярджае, што пазнаў у адным з затрыманых супрацоўніка УКДБ па Гарадзенскай вобласці.

***14 жніўня*** невядомыя абрабавалі рэдакцыйнае памяшканне газеты **“The Minsk Times”**, якую выдае ўстанова Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “Рэдакцыя газеты “Советская Белоруссия". Невядомыя трапілі ў офіс праз вакно, разбіўшы шкло, і скралі 2 сістэмныя блокі.

***16 верасня*** рэдакцыйнае памяшканне газеты “The Minsk Times” невядомыя абрабавалі зноў. І зноў былі скрадзеныя 2 сістэмныя блокі ад кампутараў і факс.

***31 жніўня*** ў Бабруйску падчас правядзення здымак здымачнай групай **тэлерадыёкампаніі "Магілёў”** на кірмашы “Заходні” дырэктар кірмаша Ігар Фамянок выбіў камеру з рук аператара А. Гутарова. Пашкоджанні апаратуры былі ацэненыя ў больш як 1 млн. рублёў. Здымачная група Бабруйскага карэспандэнтскага пункта ТРК “Магілёў”, якая ўваходзіць у склад Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, прыехала на рынак ААТ "Гандлёвы дом "Заходні", каб рабіць сюжэт пра працу бабруйскіх рынкаў, што былі скрытыкаваныя на пасяджэнні гарвыканкама. Паводле дырэктара, ён не хацеў нікому чыніць шкоды, а вінаватыя ў інцыдэнце журналісты, якія не папярэдзілі адміністрацыю кірмаша пра свой візіт. 3 верасня супраць І. Фамянка заведзена крымінальная справа. 29 снежня суд Першамайскага раёна г. Бабруйска вынес па гэтай справе прысуд. За перашкоду законнай прафесійнай дзейнасці журналіста (арт. 198 КК), а таксама за перавышэнне службовых паўнамоцтваў (арт. 270 КК) І. Фамянка асудзілі на 3 гады пазбаўлення волі. Асуджанага ўзялі пад варту ў зале суда. Яшчэ да пачатку судовага працэсу інцыдэнт на бабруйскім рынку ўзгадваў падчас сустрэчы з супрацоўнікамі Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Лукашэнка. (*Гл. таксама “Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ і журналістаў”).*

***11 верасня*** ў Гомелі быў пашкоджаны аўтамабіль уласнага карэспандэнта **"Народнай волі"** па Гомельскай вобласці Анатоля Гатоўчыца. На момант здарэння журналіст выконваў рэдакцыйнае заданне па асвятленні семінара "Рэферэндум як парушэнне найважнейшага дэмакратычнага прынцыпу змяняльнасці носьбіта ўлады". Журналіст заўважыў, што побач з гатэлем, дзе праходзіў семінар, прыпаркавана машына, якая, па яго інфармацыі, належыць упраўленню КДБ па Гомельскай вобласці. На пэўны час А. Гатоўчыц пакінуў машыну без дагляду, паколькі сачыў за падзеямі вакол семінара. Вярнуўшыся на вуліцу, А. Гатоўчыц заўважыў, што ў яго аўтамабілі спушчана задняе правае кола. У гуме быў зроблены надрэз вострым прадметам даўжынёй каля 2 см. Машыны з дзяржаўнымі нумарамі побач ужо не было.

***16 кастрычніка*** ў Віцебску збіты фотакарэспандэнт газеты **"Витебский курьер"** Аляксей Вронскі. Інцыдэнт адбыўся каля 20.00 у двары дома на вуліцы Гагарына, дзе жыве журналіст. Першы ўдар быў нанесены ззаду (як мяркуецца, кастэтам). Сам А. Вронскі, які мае добрую спартыўную падрыхтоўку, лічыць, што нападнік дзейнічаў прафесійна. Збіццём той не абмежаваўся, а забраў у фотакарэспандэнта фотакамеру і ўсе прыналежнасці разам з сумкай. У той жа вечар пацярпелы звярнуўся ў міліцыю, але знайсці злачынцу праваахоўным органам не ўдалося.

***17 кастрычніка*** каля 19.30 кіраўнік спецпраектаў расійскага тэлевізійнага **"Першага канала"** Павал Шарамет быў збіты асобамі ў

цывільным ля будынку адміністрацыі Савецкага раёну г. Мінска. Нападнікі і П. Шарамет былі дастаўленыя ў Савецкае РУУС, пасля чаго міліцыянеры нечакана абвінавацілі П. Шарамета ў дробным хуліганстве (арт. 156 КоАП), затрымалі і прымусова адвезлі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік, дзе журналіст павінен быў утрымлівацца да разгляду справы судом. Заслухаць паказанні журналістаў-сведкаў здарэння міліцыянеры адмовіліся і нават не запісалі іх пашпартныя дадзеныя. Таксама міліцыя адмовілася прыцягнуць да адказнасці двух малойцаў, якія напалі на расійскага журналіста. Прэс-сакратар Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Генадзь Глебчык заявіў, што гэта Шарамет абразіў іх і напаў пасля гэтага. У прыемніку-размеркавальніку высветлілася, што П. Шарамет атрымаў чарапна-мазгавую траўму. Пасля гэтага ён быў шпіталізаваны.

19 кастрычніка Дэпартамент інфармацыі і друку Міністэрства замежных справаў Расійскай Федэрацыі выступіў з заявай, у якой выказаў спадзеў, што беларускія ўлады знойдуць і пакараюць асобаў, вінаватых у нападзе 17 кастрычніка на кіраўніка аддзела спецпраектаў Першага канала расійскага тэлебачання Паўла Шарамета.

20 кастрычніка ў судзе Савецкага раёна г. Мінска павінен быў адбыцца разгляд справы па абвінавачанні П. Шарамета ў дробным хуліганстве (арт. 156 КоАП). Аднак нечакана высветлілася, што ў судзе адсутнічаюць матэрыялы па гэтай справе, якія павінны былі быць дастаўленыя ў суд з Савецкага РУУС (*гл. таксама "Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ", "Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ і журналістаў").*

***Увечары 19-га кастрычніка*** ў цэнтры Мінска збітыя шэраг журналістаў беларускіх і замежных СМІ. У цэнтры Мінска аператары тэлеканалаў **НТВ** і **REN-TV** Канстанцін Марозаў і Уладзімір Косцін збітыя супрацоўнікамі АМАП (атрад міліцыі асобага прызначэння) падчас разгону вулічнай акцыі. (тэлекамеру НТВ міліцыя разбіла). Фотакарэспандэнт агенцтва **Associated Press** Сяргей Грыц быў затрыманы, але потым адпушчаны. Карэспандэнт беларускай службы Радыё "Свабода" Юры Свірко пацярпеў ад супрацоўніка прэзідэнцкай аховы.

20 кастрычніка Ю. Свірко звярнуўся ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь з патрабаваннем узбудзіць крымінальную справу па артыкуле "незаконнае супрацьдзеянне працы журналіста". У сувязі з фактам збіцця расійскіх тэлеаператараў амбасада Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь звярнулася з афіцыйным запытам да беларускіх уладаў. "*Расійскі бок чакае правядзення дасканалага расследвання і атрымання вычарпальнай інфармацыі*", -- гаворыцца ў каментары Дэпартамента інфармацыі і друку Міністэрства замежных справаў Расійскай Федэрацыі.

***20 кастрычніка*** ў сваёй кватэры забітая журналістка недзяржаўнай газеты **«Салідарнасць»** Вераніка Чаркасава. Асноўнай версіяй міліцыя вызначыла забойства на бытавой глебе. Сярод падазраваных у забойстве журналісткі – яе 15-гадовы сын Антон Філімонаў і айчым Уладзімір Мялешка. На допыце 19 лістапада ім паведамілі, што са сведкаў яны сталі падазраванымі. У пастанове пракуратуры пазначана, што апэратыўным шляхам атрыманая інфармацыя, якая сведчыць пра дачыненне Філімонава і Мялешкі да забойства журналісткі. Між тым у выніку журналісцкага расследавання,

якое правёў журналіст Сяргей Сацук, здабытая інфармацыя, якая дае падставы меркаваць, што забойства В. Чаркасавай здзейсніў прафесійны

кілер, які інсцэніраваў забойства на бытавой глебе

***15 снежня*** на пульт аператыўнага дзяжурнага Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі паступіла тэлефанаванне з паведамленнем пра міну, закладзеную ў будынку **Белтэлерадыёкампаніі**. Супрацоўнікі МНС абследавалі будынак, але слядоў выбуховага прыстасавання не знайшлі. На час аперацыі персанал кампаніі быў эвакуяваны з будынку. Па факце ілжывага паведамлення МУС Беларусі будзе праводзіць следчыя дзеянні. Гэта ўжо другі выпадак ілжывага мініравання будынку Белтэлерадыёкампаніі за снежань. Таксама двойчы паступалі тэлефанаванні пра замінаванне Беларускага дому друку, якія не пацвердзіліся.

***17 снежня*** стала вядома, што намеснік галоўнага рэдактара газеты **"Народная воля"** Аляксандр Сіліч папрасіў палітычнага прытулку ў Бельгіі. Аляксандр Сіліч цяпер знаходзіцца ў лагеры для ўцекачоў. Яго зварот разглядае міжнародная Камісія па справах уцекачоў, а таксама міністэрствы замежных і ўнутраных спраў Бельгіі.

Падставай для эміграцыі, паводле А. Сіліча, быў сістэматычны ціск на яго з боку беларускіх уладаў. Ала Сіліч, жонка журналіста, у інтэрв'ю Радыё "Свабода" 18 снежня заявіла, што яе мужу пагражала небяспека: па іх назіраннях, за домам сачылі, праслухоўвалі тэлефоны. Па словах А. Сіліч, гэтыя падзеі пачаліся пасля таго, як два гады таму ён задаў А. Лукашэнку пытанне пра існаванне пазабюджэтнага прэзідэнцкага фонду. Раней палітычнага прытулку ў Швецыі папрасіў Мікалай Паседзька, рэдактар светлагорскай газеты **“Регион-вести”**. Ён таксама спаслаўся на неаднаразовыя пагрозы ў свой адрас.

***22 снежня*** каля 20.20 у Мінску затрыманы аператар расійскай тэлекампаніі **REN-TV** Уладзімір Косцін. Журналіста пратрымалі ў РУУС Савецкага раёна каля 2,5 гадзіны і пашкодзілі тэлекамеру.

Затрыманне У. Косціна адбылося падчасператрусу, які праводзілі міліцыянты ў мінскім офісе грамадзянскай ініцыятывы "Партнёрства". Як паведаміла карэспандэнт тэлеканала Алена Слаў, міліцыянты затрымалі журналіста амаль адразу ж пасля прыезду здымачнай групы на месца падзеяў. Аператара прымусілі сесці ў машыну і адвезлі ў Савецкае РУУС, дзе ўзялі з яго тлумачэнні. Паводле А. Слаў, супрацоўнікі РУУС пашкодзілі тэлекамеру, з якой працаваў У. Косцін. 22 снежня журналісты падалі начальніку РУУС скаргу на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі.

У. Косцін быў у ліку тых, хто пацярпеў ад дзеянняў АМАПу ў часе разгону акцыі апазіцыі 19-га кастрычніка.

# ЗАТРЫМАННІ ЖУРНАЛІСТАЎ. ВЫКЛІКІ Ў ПРАВААХОЎНЫЯ ОРГАНЫ. ПАПЯРЭДЖАННІ ПРАКУРАТУРЫ

У 2004 г. журналісты і СМІ неаднаразова падвяргаліся ўціску з боку праваахоўных органаў. Асаблівай актыўнасцю вызначаліся органы пракуратуры. Выклікі для дачы тлумачэнняў, пісьмовыя папярэджанні (два папярэджанні аб парушэнні патрабаванняў арт. 5 Закона “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі”, вынесеныя пракурорам любога ўзроўню, з’яўляюцца падставай для спынення дзейнасці СМІ ў судовым парадку), ініцыяванне прыцягнення да адміністратыўнай і крымінальнай адказнасці – далёка не поўны пералік іх метадаў уздзеяння на СМІ і журналістаў.

Пры канцы 2004 г. пракуратура актыўна пераследвала за публікацыі, у якіх гаворка вялася аб сфальсіфікаванні вынікаў выбараў і рэферэндума. Гэта значыць, умяшальніцтва ў свабоду выказвання з боку пракуратуры мела за мэту перашкодзіць распаўсюду інфармацыі, якую пракурорскія работнікі лічылі шкоднай. Такое ўмяшальніцтва нельга прызнаць допушчальным з пункту гледжання крытэрыяў неабходнасці, прапарцыйнасці і дасягнення правамернай мэты (*гл. “Спыненне ці прыпыненне дзейнасці СМІ ўладамі”*).

***13 лютага*** пракурор Гомельскай вобласці Алег Палавінка вынес папярэджанне ўласнаму карэспандэнту “**Белорусской деловой газеты”** Ірыне Макавецкай. Падставаю для гэтага з'явіўся артыкул І. Макавецкай “Виконт” не вписался в белорусскую действительность” (“БДГ” ад 10.12.2003, №104). На думку пракурора, у гэтай публікацы журналістка парушыла арт. 5 Закона “Аб друку і іншых СМІ”, а таксама арт. 9 Закона “Аб судавытворчасці і статусе суддзяў у РБ”, а менавіта – *“апублікавала матэрыялы судовай справы без пісьмовага дазволу суддзі і паставіла пад сумнеў... яго незалежнасць і законнасць вынесенага рашэння... па справе аб банкруцтве ТАА "BST Ltd”*. Пракурор папярэдзіў журналістку, што “*ў выпадку далейшага парушэння заканадаўства І. Макавецкая можа быць прыцягнута да вызначанай законам адказнасці”*.

***30 студзеня*** за гэтую ж публікацыю Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне рэдакцыі “БДГ”**,** сцвярджаючы, што газета парушыла арт. 5 Закона аб друку, апублікаваўшы матэрыялы судовай справы без пісьмовага дазволу суддзі.

***Увечары 25 лютага*** ў кватэру намесніка рэдактара **“Белорусской деловой газеты”** Ірыны Халіп спрабавалі ўвайсці супрацоўнікі праваахоўных органаў, якія прад’явілі ёй пастанову на прымусовы прывод. Выклік у пракуратуру звязаны з крымінальнай справай, узбуджанай па факце публікацыі ў газеце **“БДГ. Для служебного пользования”** артыкула І. Халіп “Афганские борзые”. У 2003 годзе расследаванне справы было прыпыненае, аднак Пракуратура Рэспублікі Беларусь адмяніла гэтую пастанову.

***8 красавіка*** карэспандэнтку баранавіцкай газеты **"Intex-press"** Марыну Кулікову выклікалі ў гарадскую пракуратуру для тлумачэнняў з нагоды яе публікацыі "Скандал в благородном

семействе", прысвечанай далучэнню адной з баранавіцкіх ячэек праўрадавай арганізацыі "Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі" да незарэгістраванага моладзевага руху "Зубр" ("Intex-press" № 11 за 11 сакавіка).

17 красавіка на падставе скаргі старшыні баранавіцкага гарвыканкама Віктара Дзічкоўскага на публікацыю "Скандал в благородном семействе" пракурор г. Баранавічы Аляксандр Смаль вынес папярэджанні рэдактару газеты "Intex-press" Уладзіміру Янукевічу і карэспандэнту газеты М. Куліковай. У папярэджаннях пазначана, што журналісты не праверылі атрыманых імі звестак і падалі неаб'ектыўную інфармацыю, парушыўшы ч.1 арт. 34 Канстытуцыі РБ, а таксама артыкулы 32 і 40 Закона аб друку. Рэдакцыя абскардзіла гэтыя папярэджанні ў вышэйшую пракуратуру.

28 траўня пракуратура Брэсцкай вобласці адмовілася скасаваць папярэджанні, вынесеныя рэдактару недзяржаўнай баранавіцкай газеты "Intex-press" У. Янукевічу і карэспандэнтцы выдання М. Куліковай пракурорам г. Баранавічы А. Смалем.

***9 красавіка*** рэдактар гродзенскай недзяржаўнай газеты **"Биржа информации"** Алена Раўбецкая была запрошаная на размову ў пракуратуру Ленінскага раёна г. Гродна. З яе патрабавалі тлумачэнняў, чаму адзін з артыкулаў, размешчаных у № 11 выдання ад 18 сакавіка, падпісаны Юрыем Істоміным як старшынём Гродзенскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі. На думку пракуратуры, тым самым рэдакцыя распаўсюдзіла інфармацыю ад імя незарэгістраванай партыі, што забаронена арт. 5 Закону аб друку. А. Раўбецкая была вымушана тлумачыць, што АГП – партыя зарэгістарваная, а яе гродзенская арганізацыя падлягае не рэгістрацыі, а ўліку. Тым не менш, пракуратура Ленінскага раёна Гродна вынесла А. Раўбецкай папярэджанне.

***21 ліпеня*** рэдактар газеты "Биржа информации" А. Раўбецкая другі раз была вымушана даваць тлумачэнні пракуратуры Ленінскага раёну г.Гродна наконт зместу 11 нумару выдання ад 18 сакавіка 2004 г. Пракурор Пётр Урублеўскі папрасіў журналістку даць пісьмовае тлумачэнне наконт зместу артыкулу "На ЕС спадзявайся, але і сам старайся..." Пракурора, у прыватнасці, цікавіла, чаму адзін з герояў артыкулу Аляксандр Мілінкевіч названы старшынём Беларускай асацыяцыі рэсурсных цэнтраў, якая ў свой час атрымала адмову ў рэгістрацыі. А. Раўбецкая патлумачыла, што ў такім статусе ён браў удзел у працы сходу Еўрапарламента ў Страсбургу, таму, на яе думку, Закон аб друку парушаны не быў.

***7 траўня*** ў Наваполацку падчас вулічнай акцыі ў гадавіну знікнення экс-міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі "Мы памятаем" быў затрыманы карэспандэнт **Радыё "Свабода"** Вінцэсь Мудроў. Акрамя яго міліцыя затрымала 7 удзельнікаў акцыі. На ўсіх затрыманых склалі пратаколы аб парушэнні, прадугледжаным артыкулам 167-1 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях ("Парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення рэлігійных, спартовых, культурна-масавых, іншых відовішчных мерапрыемстваў, а таксама сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання").

***11 траўня*** Наваполацкі гарадскі суд спыніў вытворчасць па справе, не ўбачыўшы ў дзеяннях В. Мудрова складу адміністратыўнага

правапарушэння. Іншых удзельнікаў акцыі суд таксама апраўдаў.

***11 траўня*** ў офісе гродзенскай суполкі “Таварыства беларускай мовы”, дзе месціўся і карпункт газеты “**День**”, быў праведзеныператрус. Група з шасці чалавек з відэакамерай, пад кіраўніцтвам маёра КДБ Сяргея Севярына дзейнічала з санкцыі пракурора Гродзенскай вобласці Уладзіміра Аніські.Ператрус праводзіўся ў межах расследавання крымінальнай справы па факце распаўсюду 29 красавіка ў Гродна ўлётак, якія, на думку следчых органаў, зневажаюць гонар і годнасць кіраўніка беларускай дзяржавы. На ўлётцы быў змешчаны партрэт кіраўніка прадпрымальніцкага страйкаму Валерыя Леванеўскага, заклік прыйсці на санкцыянаваную вулічную акцыю 1 траўня, а таксама верш, у якім ўрывак быў прысвечаны ацэнцы вынікаў кіравання прэзідэнта. Справа была заведзена УКДБ па Гродзенскай вобласці па артыкуле 368 Крымінальнага Кодэкса ("Знявага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь”).Ператрус доўжыўся каля 4 гадзін. Супрацоўнікі КДБ забралі "на тэхнічную экспертызу" усе чатыры сістэмныя блокі ад офісных кампутараў, сарваўшы гэткім чынам своечасовы выхад 16-га нумару газеты “День”, які меў быць надрукаваны 12 траўня ў Смаленску. Паводле галоўнага рэдактара “Дня” Міколы Маркевіча супрацоўнікаў КДБ асабліва цікавілі фотаздымкі, зробленыя журналістамі "Дня" падчасператрусу ў кватэры Валерыя Леванеўскага. “*Я думаю, што яны вырашылі “пад шумок”, які звязаны з распаўсюдам “антыпрэзідэнцкіх” улётак, заадно расправіцца з непажаданым для іх незалежным выданнем*”, - лічыць Мікола Маркевіч.

***22 чэрвеня*** служба бяспекі не прапусціла ў будынак Дома ўраду акрэдытаванага пры Палаце прадстаўнікоў карэспандэнта **Радыё "Свабода"** Юрыя Свірко. Ахоўнікі забралі ў журналіста дыктафон і знішчылі запісы, пасля чаго людзі ў цывільным пасадзілі Ю. Свірко ў машыну і адвезлі ад будынка Дома ўраду. У машыне журналісту забаранілі тэлефанаваць і адказваць на званкі.

***7 верасня*** ў дом намесніка дырэктара выдавецкага дома **“Время”** Аляксандра Цынкевіча двойчы наведваліся прадстаўнікі праваахоўных органаў. Між 10 і 11 гадзінамі раніцы прыйшлі старшы ўчастковы інспектар Цэнтральнага раёна Мінска маёр Малевіч і чалавек у цывільным. Яны запатрабавалі дамавую кнігу і дазвол на вядзенне будаўнічых прац. Жонка Аляксандра, якая была дома з двума малымі дзецьмі, адмовілася размаўляць з наведнікамі да прыходу мужа. Каля 16 гадзін да дома прыйшлі прадстаўнікі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях у суправаджэнні старшага лейтэнанта, супрацоўніка Цэнтральнага РУУС Станішэўскага і чалавека ў цывільным, які не захацеў назваць сваё імя. Пагражаючы санкцыямі ў выпадку адмовы, яны патрабавалі ўпусціць іх у дом для агляду на прадмет пажарнай бяспекі. Ніякіх дакументаў, якія маглі б пацвердзіць іх статус, госці не прад’явілі. Пазней міліцыя спрабавала яшчэ раз патрапіць у дом: адзін з міліцыянтаў паведаміў, што, па яго інфармацыі, там знаходзіцца наклад “забароненай газеты”. Аднак А. Цынкевіч адмовіўся ўпусціць прадстаўнікоў праваахоўных органаў, запатрабаваўшы ў іх афіцыйны дазвол на агляд памяшкання.

Раніцай ***16 верасня*** ў цэнтры Мінска былі затрыманыя супрацоўніца прэс-службы праваабарончага цэнтру

"Вясна" Таццяна Равяка і карэспандэнт інфармацыйнага агенцтва "**Інтэрфакс**" Аляксей Букчын. Апошняга пасля праверкі дакументаў у Цэнтральным РУУС адпусцілі, а на Т. Равяку склалі пратакол аб правапарушэнні, якое прадугледжана арт. 172 ч. 3 КоАП (“распаўсюд друкаваных выданняў, выробленых з парушэннем устаноўленага парадку, якія не маюць выпускных дадзеных, змест якіх накіраваны на прычыненне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян”). Выданнем такога зместу, на думку міліцыянтаў, была брашура з дакладам спецдакладчыка Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы Хрыстаса Пургурыдэса "Беларусь: нераскрытыя злачынствы найноўшай гісторыі”. Брашуру ў 5-ю гадавіну знікнення Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага жонка палітыка Зінаіда Ганчар і беларускія праваабаронцы раздавалі каля будынка Пракуратуры Рэспублікі супрацоўнікам гэтай установы.

***16 верасня*** галоўнага рэдактара гарадзенскай незалежнай газэты **"Биржа информации"** Алену Раўбецкую выклікалі ў пракуратуру Ленінскага раёна з нагоды надрукаванага за ейным подпісам 9 верасня артыкула "Предательство именем народа". Намеснік пракурора А. Абрамовіч паведаміў, што адносна А. Раўбецкай вынеслі пастанову пра ўзбуджэнне адміністратыўнай справы па ч.10 арт.172 прым. КоАП за парушэнне арт. 5 Закона аб друку: “Не дапускаецца выкарыстанне сродкаў масавай інфармацыі для распаўсюду інфармацыі, якая абражае гонар і годнасць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь”. Прэтэнзіі пракуратуры выклікалі словы яе артыкула: “*Референдум (а без него третьего срока не получить), объявленный господином президентом - это вызов обществу. Нужно обладать не только отсутствием совести, но и «господским» пренебрежением к плебсу…»*. (*гл. таксама “Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ і журналістаў”*).

***9 лістапада*** рэдакцыя баранавіцкай недзяржаўнай газеты **“Intex-press”** атрымала ліст, падпісаны пракурорам горада А. Смалем. *“У сувязі з узніклай неабходнасцю прашу тэрмінова інфармаваць пракуратуру г. Баранавічы аб былых публічных заявах, размешчаных у сродках масавай інфармацыі, былых кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь аб нібыта наяўных фальсіфікацыях вынікаў галасавання”*. Пракуратура прасіла накіраваць інфармацыю пра змест падобных публікацый да 10 лістапада.

***19 лістапада*** пракуратура г. Баранавічы вынесла папярэджанне былому кандыдату ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Аркадзю Блінкоўскаму, які балатаваўся па Ўсходняй выбарчай акрузе № 5 г. Баранавічы. Падставай для папярэджання стаў артыкул Блінкоўскага “Кандыдат каментуе”, надрукаваны ў газеце “Intex-press” (№ 43 от 21.10.2004 г.) У артыкуле было заяўлена пра фальсіфікацыю вынікаў галасавання падчас выбараў у парламент. Папярэджанне падпісанае пракурорам г. Баранавічы А. Смалем. У ім А. Блінкоўскі папярэджваецца аб недапушчальнасці падобных парушэнняў. Яму патлумачана, што ў выпадку паўторных падобных парушэнняў пракуратурай г. Баранавічы будзе пастаўленае пытанне аб прыцягненні да адказнасці за распаўсюд паклёпніцкіх чутак.

***16 лістапада*** офіс аднаго з гарадзенскіх грамадскіх аб’яднанняў наведаў капітан міліцыі старшы інспектар аддзела прафілактыкі і аховы правапарадку Ленінскага РАУС г. Гродна Пётр Ленец. З ягоных словаў вынікала, што ён шукае журналістку Ірыну Чарняўку, каб скласці на яе пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. Журналістку абвінавачвалі ў парушэнні парадку арганізацыі альбо правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, пікетаванняў і г. д падчас акцыі, якую з зладзілі пяць гарадзенскіх журналістаў 4 кастрычніка ў г. Гродна, пратэстуючы супраць узмацнення ціску на незалежную прэсу. Міліцыя затрымала трох з пяці ўдзельнікаў акцыі. У выніку Павел Мажэйка быў пакараны судом Ленінскага раёна Гродна на сем сутак адміністрацыйнага арышту, а Наталля і Анатоль Макушыны атрымалі па 480 тысяч рублёў штрафу кожны (*гл. таксама “Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ і журналістаў”*).

***17 лістапада*** рэдактар ваўкавыскай “**Местной газеты”** Андрэй Шантаровіч быў выкліканы ў міліцыю. У Ваўкавыскім РАУС у яго ўзялі тлумачэнні адносна правядзення “несанкцыянаванай акцыі” – галадоўкі, якую ён ладзіў з 20 кастрычніка па 9 лістапада на знак пратэсту супраць рашэння Міністэрства інфармацыі прыпыніць выданне. Супрацоўнікаў міліцыі цікавілі падрабязнасці галадоўкі, а таксама ўлёткі, якія з’явіліся ў Ваўкавыску і паведамлялі пра галадоўку рэдактара (*гл. таксама “Спыненне ці прыпыненне дзейнасці СМІ ўладамі”, “Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ і журналістаў”*).

***17 лістапада*** ў пракуратуру Заводскага раёна г. Мінска быў выкліканы журналіст Аляксандр Коктыш. Памочніка пракурора Заводскага раёна Сяргея Бандарэнку цікавіў удзел журналіста ў прэс-канферэнцыі, якая адбылася 21 лістапада ў Маскве ў памяшканні рэдакцыі газеты "**Московский комсомолец**". Падчас прэс-канферэнцыі, на думку пракуратуры, былі зробленыя выказванні, якія не супадаюць з афіцыйнай пазіцыяй беларускай дзяржавы наконт праведзеных парламенцкіх выбараў і рэферэндуму.

А. Коктышу былі патлумачаныя палажэнні артыкулаў 188 і 400 Крымінальнага кодэксу, якія ўсталёўваюць адканасць за паклёп і наўмысна ілжывы данос. Ніякіх абвінавачанняў да журналіста пракуратура не вылучае.

***8 лістапада*** ў пракуратуру г. Мінска была выкліканая журналістка Ірына Халіп для тлумачэнняў паводле яе артыкула “Проголосовали мертвые души”, прысвечанага тэме масавых фальсіфікацый ды парушэнняў закону падчас парламенцкіх выбараў і рэферэндуму на Беларусі 17 кастрычніка. Па словах журналісткі, яна выпадкова ўбачыла на стале ў пракурора Марыны Паповай ліст ад намесніка Генеральнага пракурора Купрыянава, у якім той загадвае разабрацца з “паклёпніцкімі выдумкамі”.

У пракуратуры журналістку папярэдзілі, што за “паклёпніцкія выдумкі” яна нясе адказнасьць па арт.188 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

***19 лістапада*** І. Халіп выклікалі ў пракуратуру Партызанскага раёна г. Мінска. Следчы Сяргей Бародзька задаваў журналістцы пытанні адносна зместу яе артыкула “Рэвалюцыя апалага лісця”, надрукаванага ў расійскім часопісе “**Новый очевидец**” і

прысвечанага акцыям пратэсту, якія прайшлі ў беларускай сталіцы пасля аб'яўлення вынікаў парламенцкіх выбараў і рэферэндуму. Паволе словаў І.Халіп, гаворка журналісткі і пракурорскага работніка ішла пра стылістычная асаблівасці артыкула: ці не лічыць аўтар абразлівымі для некаторых пэрсанажаў (А. Лукашэнка, У. Рушайла) прыведзеныя ў ім параўнанні ды эпітэты.

Узяць тлумачэнні з журналісткі і даць прававую ацэнку яе артыкулу следчаму даручыла пракуратура г. Мінска.

***7 снежня*** Ірына Халіп была выклікана ў пракуратуру Рэспублікі Беларусь па факце публікацыі яе артыкулаў у расійскай “**Новой газете**”. Намесніка начальніка аддзелу па наглядзе за выкананнем правоў і свабод грамадзян Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Святаслава Голіка і старшага пракурора аддзелу Сяргея Новікава цікавіў, у прыватнасці, артыкул Ірыны Халіп “Пьяные палачи”, гаворка ў якім ішла пра ўжыванне смяротнага пакарання на Беларусі. Пракурорскіх работнікаў цікавілі крыніцы інфармацыі журналісткі, паколькі ў артыкуле падрабязна апісвалася працэдура выканання смяротных прысудаў на Беларусі, а пра гэта, па іх словах, ведае “вельмі абмежаванае кола людзей”. І. Халіп адмовілася назваць крыніцы, спаслаўшыся на арт. 34 Закона аб друку.

***8 снежня*** Пракуратура Рэспублікі Беларусь вынесла папярэджанне журналісту беларускай службы **Радыё “Свабода”** Альгерду Невяроўскаму. Падставай да папярэджання стаў артыкул на сайце Радыё “Свабода”, у якім пададзеныя фотаздымкі з выбарчага ўчастку падчас папярэдняга галасавання на выбарах дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і рэферэндуму, зробленыя 16 лістапада. У артыкуле гаворка ішла пра тое, што выбарнікам выдавалі бюлетэні з ужо пазначаным адказам на пытанне рэферэндуму “Так”. У пракуратуры журналісту паведамілі, што распаўсюджаныя ім звесткі не адпавядаюць сапраўднасці.

А. Невяроўскага пазнаёмілі з артыкулам 40 Закона “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі” і папярэдзілі пра неабходнасць праверкі распаўсюджваных звестак. Журналісту патлумачана, што пры паўтарэнні падобнага выпадку можа быць пастаўленае пытанне пра пазбаўленне яго акрэдытацыі.

***22 снежня*** ў Мінску затрыманы аператар расійскай тэлекампаніі **REN-TV** Уладзімір Косцін. Журналіста пратрымалі ў РУУС Савецкага раёна каля 2,5 гадзіны і пашкодзілі тэлекамеру (*гл.таксама “Пасягальніцтвы на журналістаў і СМІ”*).

***24 снежня*** галоўны рэдактар **“Белорусской деловой газеты”** Пётр Марцаў быў выкліканы ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь, дзе яму ўручылі афіцыйнае папярэджанне.

Нагодай для вынясення папярэджання стала публікацыя ў “БДГ” № 88 ад 12 лістапада, якая называлася "Под ударом. Прокуратура республики инициировала разработку ближайшего окружения Тозика". Аўтар артыкулу, які выступаў пад псеўданімам Георгій Дань, распавядаў пра ўзбуджэнне крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўніка Камітэта дзяржкантролю Чараднічэнкі. Пракуратура палічыла, што аўтар публікацыі “*без спасылкі на канкрэтныя крыніцы інфармацыі зрабіў... заявы ў катэгарычнай форме*”, а таксама не выканаў патрабаванняў артыкулаў 32 і 40

Закона аб друку (не забяспечыў права грамадзян на атрыманне праўдзівых звестак пра дзейнасць дзяржаўных органаў і не праверыў сапраўднасці атрыманых ім звестак). У папярэджанні пракуратуры сцвярджаецца, што П. Марцаў "*адмовіўся назваць аўтараў згаданай публікацыі і не прадставіў дадзеных, якія пацвярджалі праўдзівасць выкладзеных у артыкуле звестак*". Афіцыйнае папярэджанне падпісаў намеснік Генеральнага пракурора М. Купрыянаў.

**28 снежня** ў Мінску затрыманая журналістка недзяржаўнай газеты **"Народная воля"** Вольга Класкоўская, якой прыйшлося правесці ў Цэнтральным РУУС Мінска больш за паўтары гадзіны. Затрыманне адбылося ўвечары напярэдадні акцыі апазіцыі, якую планавалася правесці на знак салідарнасці з дэмакратычнымі сіламі Украіны. Разам з журналісткай міліцыя затрымала больш як паўтара дзесяткі ўдзельнікаў акцыі. Як паведаміла В. Класкоўская, затрыманне праводзілі людзі ў цывільным. У яе не было магчымасці прад'явіць рэдакцыйнае пасведчанне: яе хутка пасадзілі ў мікрааўтобус разам іншымі затрыманымі, не рэагуючы на пярэчанні.

# ЦЭНЗУРА. ПАРУШЭННЕ ПРАФЕСІЙНАЙ САМАСТОЙНАСЦІ РЭДАКЦЫЙ

У адпаведнасці з арт. 33 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь цэнзура не дапускаецца. Артыкул 4 Закона “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі” (які так і называецца “Недапушчальнасць цэнзуры масавай інфармацыі”) вызначае цэнзуру наступным чынам: *“патрабаванне ад рэдакцыі з боку дзяржаўных органаў, арганізацый, устаноў, грамадскіх аб’яднанняў, іх адказных асобаў папярэдне ўзгадняць паведамленні і матэрыялы, а таксама патрабаванне зняць з друку (эфіру) той альбо іншы матэрыял альбо паведамленне”.*

Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік, выдадзены выдавецтвам “Беларуская Энцыклапедыя” у 1992 г., дае больш шырокае вызначэнне паняцця “цэнзура”: *“палітыка-прававы інстытут, які ажыццяўляе кантроль за зместам, абнародаваннем і распаўсюдам масавай інфармацыі з мэтай недапучшэння альбо абмежавання распаўсюду інфармацыі і ідэй, якія прызнаюцца грамадствам альбо дзяржавай непажаданымі альбо шкоднымі”.* І далей: *“Адрозніваюць папярэднюю цэнзуру, альбо дазваляльную (дапускае неабходнасць атрымаць дазвол ад адпаведных органаў на абнародаванне масавай інфармацыі), і наступную (заключаецца ў ацэнцы абнародаванаймасавай інфармацыі іпрыняцці абмежавальных захадаў у выпадку парушэння ўстаноўленых патрабаванняў)”.* У адпаведнасці з гэтым вызначэннем, пад паняцце наступнай цэнзуры падпадаюць, напрыклад, дзеянні Міністэрства інфармацыі і органаў пракуратуры, аб якіх гаворыцца ў маніторынгу. Што тычыцца папярэдняй цэнзуры, то яна ў 2004 г. ажыццяўлялася пераважна праз друкарні (уціску на паліграфічныя прадпрыемствы з мэтай адсочвання зместу друкаваных імі газет спрыяе ліцэнзаванне дзейнасці па аказанні паліграфічных паслуг).

У 2004 г. шырокі распаўсюд атрымала ўмяшальніцтва дзяржаўных органаў – заснавальнікаў СМІ - у дзейнасць гэтых сродкаў масавай інфармацыі. Выканкамы не толькі ўплывалі на рэдакцыйную палітыку мясцовых дзяржаўных выданняў, але і давалі рэдакцыям і журналістам канкрэтныя заданні па падрыхтоўцы матэрыялаў на пэўныя тэмы і ўказвалі, якім чынам гэтыя тэмы павінны быць раскрыты. Гэта ажыццяўлялася насуперак палажэнням арт. 19 Закона аб друку, у адпаведнасці з якім заснавальнік не мае права ўмешвацца ў дзейнасць СМІ за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных гэтым законам, статутам рэдакцыі альбо дамовай паміж заснавальнікам і рэдакцыяй.

Дзяржаўныя органы адкрыта ўмешваліся ў дзейнасць і тых СМІ, да стварэння якіх не мелі ніякага дачынення. Так, з другой паловы 2004 года з эфіру як дзяржаўных, гэтак і камерцыйных тэлерадыёстанцый зніклі беларускія выканаўцы, якія выступілі 21 ліпеня на мітынгу апазіцыі. У “чорны спіс” трапілі каля дзесяці груп і выканаўцаў, у ліку якіх “Палац”, “N.R.M.”, “Zet”, “Помидор/off”, “Drum Ecstasy”, “Нейро Дюбель”, Зміцер Вайцюшкевіч. У Міністэрстве інфармацыі абвергглі звесткі аб існаванні дакумента, які забараняе пускаць у эфір кампазіцыі гэтых выканаўцаў, аднак, паводле інфармацыі службы маніторынга ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, тэлерадыёстанцыі атрымалі адназначныя “рэкамендацыі” выкрэсліць іх з плэй-лістоў.

Між тым, арт. 48 Закона аб друку называе цэнзуру і ўмяшальніцтва ў дзейнасць і парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый уціскам свабоды масавай інфармацыі, якое

"*цягне дысцыплінарную, адміністратыўную, крымінальную і іншую адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь"*. У прыватнасці, адказнасць за ўціск свабоды масавай інфармацыі ўстаноўлена арт. 172 – 1 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях (максімальная санкцыя – штраф для адказных асоб у памеры да 50 базавых велічынь, што адпавядае прыкладна 550 далярам). На практыцы гэта норма КоАП не выкарыстоўвалася ні ў 2004 годзе, ні раней.

***У канцы студзеня*** ўпраўленне інфармацыі і друку Гомельскага аблвыканкама разаслала ўласным карэспандэнтам агульнанацыянальных СМІ заданні апублікаваць у сваіх выданнях матэрыялы на вызначаныя тэмы. Гэтак, уласны карэспандэнт **"Белорусской нивы"** атрымаў заданне апублікаваць выступленне старшыні камітэта сельскай гаспадаркі і харчавання аблвыканкама Леаніда Апанасюка на тэму "Адраджэнне вёскі: перспектывы развіцця". Заданні з указаннем канкрэтных тэм атрымалі таксама ўласныя карэспандэнты газет **"Звязда"** і **"Рэспубліка"**.

***4 сакавіка*** ў Віцебскім аблвыканкаме адбыўся сход уласных карэспандэнтаў агульнанацыянальных дзяржаўных выданняў, падчас якога вялася гаворка пра больш шчыльнае супрацоўніцтва журналістаў з абласнымі ўпраўленнямі інфармацыі. Паводле намесніка старшыні аблвыканкама Пятра Юкжыка, гэта было прадыктавана неабходнасцю аператыўна і праўдзіва асвятляць працу, якую праводзяць у вобласці ўсе падраздзяленні абласных уладаў.

***22 сакавіка***, выконваючы пастанову Брэсцкага аблвыканкама "Аб фінансавым забеспячэнні дзяржаўнай палітыкі падтрымкі і развіцця малога прадпрымальніцтва", упраўленне прадпрымальніцтва аблвыканкама разаслала ў газеты вобласці ліст з даручэннем "*забяспечыць бясплатную публікацыю абвестак конкурса інвестыцыйных праектаў суб'ектаў малога прадпрымальніцтва для аказання дзяржаўнай падтрымкі"*. Даручэнні надрукаваць і "*паведаміць па тэлефоне... нумар і дату выхаду газеты"* атрымалі як дзяржаўныя, так і недзяржаўныя выданні.

***З пачатку красавіка*** спыніла самастойнае існаванне рэдакцыя дзіцячага часопіса **"Бярозка"**, які выдаваўся на беларускай мове. Загадам міністра інфармацыі калектыў рэдакцыі быў звольнены, а юрыдычныя правы на выданне "Бярозкі" перададзены "Настаўніцкай газеце".

***13 красавіка*** газета **"Кіравец"** Кіраўскага райвыканкаму Магілёўскай вобл. (№28) апублікавала план мерапрыемстваў выканкама па рэалізацыі прэзідэнцкай Дырэктывы №1. План складаецца з 40 пунктаў, тры з якіх непасрэдна тычацца газеты: выданню адкрыта даручаецца "*арганізаваць цыкл артыкулаў*", прысвечаных прэзідэнцкай дырэктыве, сістэматычна асвятляць мерапрыемствы па яе рэалізацыі і г.д. Кантраляваць выкананне плану даручана аддзелу ідэалагічнай працы райвыканкама, раённаму аддзелу ўнутраных спраў і іншым органам мясцовай улады.

Акрамя плана мерапрыемстваў і тэксту прамовы старшыні райвыканкама А. Ісачанкі перад актывам раёна аб захадах па рэалізацыі дырэктывы №1 у нумары знайшлося месца толькі для сямі афіцыйных паведамленняў і некалькіх рэкламных абвестак.

***13 красавіка*** ў Гомельскай вобласці газета **"Светлагорскія навіны"** (заснавальнікі - райвыканкам, раённы Савет дэпутатаў і рэдакцыйны калектыў) пад рубрыкай

"В райисполкоме" апублікавала інфармацыю "Утверждён план". У публікацыі чытачам паведамілі, што "*старшыня раённага выканаўчага камітэта Б. К. Пірштук зацвердзіў план мерапрыемстваў па ідэалагічным забеспячэнні пасяўной кампаніі*". У рамках гэтага плану мясцовым сродкам масавай інфармацыі даручалася шырока асвятляць ход палявых работ.

***17 і 18 красавіка*** з 17.00 да 20.30 была прыпынена трансляцыя на Беларусь **тэлеканала "Россия"**. Перапынак супаў па часе з выхадам у эфір аналітычных праграм "Зеркало" і "Вести недели", у якіх, сярод іншага, асвятлялася палітычнае становішча ў Беларусі. Як паведамілі агенцтву "Інтэрфакс" у беларускім радыётэлецэнтры, гэтае рашэнне было прынята Міністэрствам сувязі і тлумачылася "пазапланавымі рамонтнымі работамі" на расійскім тэлеканале.

У сакавіку за ўдзел у дзвюх згаданых праграмах тэлеканала "Россия" Пракуратура РБ завяла крымінальную справу ў дачыненні да старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі. 23 сакавіка амбасада Рэспублікі Беларусь у Расіі выступіла з заявай, у якой выказала заклапочанасць з нагоды "правакацыйнага" характару каментароў тэлеканала пра развіццё сітуацыі ў Беларусі (*гл.таксама "Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзенасцю замежных СМІ"*).

***21 траўня*** ў Касцюковічах (Магілёўская вобл.) прайшоў семінар ідэалагічных работнікаў і актыва раёна. Намеснік старшыні райвыканкама В.Сугака ў сваім дакладзе істотную ўвагу надаў пытанням працы СМІ. Сп. Сугака запатрабаваў ад журналістаў, каб іх матэрыялы "*адлюстроўвалі грамадзянскую, патрыятычную пазіцыю людзей, асабліва моладзі*". Мясцовая раённая газета **"Голас Касцюкоўшчыны"**, на думку дакладчыка, дрэнна асвятляе дзейнасць прэзідэнта і моладзевае жыццё. Сяброўствам у БРСМ "*не ахоплена палова прадстаўнікоў падрастаючага пакалення*", і, паводле В. Сугака, выпраўленню гэтай сітуацыі магла б пасадзейнічаць і раёнка. Ад яе мясцовае кіраўніцтва чакае "*наступальнасці ў абароне стабільнасці"*, на якую нібыта замахваюцца апазіцыйныя партыі і рухі. Такіх, паводле дакладчыка, у Касцюковіцкім раёне няма, аднак "*свой уплыў на людзей аказваюць такія сілы з Мінска, якія ставяць перад сабой падрыўныя задачы"*", тым больш, што "*яны прайшлі падрыхтоўку за мяжой"*.

***26 траўня*** мінская друкарня "Светач" зняла з друку чарговы нумар недзяржаўнай ваўкавыскай **"Местной газеты"**. Па словах галоўнага рэдактара выдання Андрэя Шантаровіча, яму патэлефанаваў начальнік вытворчасці Сяргей Чаргінец і заявіў, што не можа прапусціць адну з публікацый, прапанаваўшы замяніць яе на іншую. А. Шантаровіч адмовіўся мяняць матэрыял і прапанаваў друкарні пакінуць на яго месцы "белую пляму". Праз гадзіну начальнік вытворчасці паведаміў, што нумар цалкам зняты з друку.

***28 траўня*** друкарня "Светач" скасавала дамову з рэдакцыяй "Местной газеты". У якасці прычыны "Светач" назваў фінансавую запазычанасць рэдакцыі.

Беларускім радыёстанцыям забаронена ставіць у эфір музыку ў выкананні гуртоў, што гралі 21 ліпеня на мітынгу беларускай апазіцыі. Гэткую інфармацыю ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" ***у канцы ліпеня*** неафіцыйна пацвердзілі на некалькіх камерцыйных і дзяржаўных радыёстанцыях. Супрацоўнікі Аддзелу аналізу і каардынацыі дзейнасці

электронных СМІ Міністэрства інфармацыі сцвярджаюць, што гэтая інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці. Аднак, па звестках БАЖ, супрацоўнікі **Першай праграмы Беларускага радыё**, радыё **“Сталіца”** і недзяржаўных радыёстанцый FM-дыяпазона атрымалі вусную рэкамендацыю не ставіць у эфір песні ў выкананні гуртоў “Палац”, “N.R.M.”, “Zet”, “Помидор/off”, “Drum Ecstasy” і “Нейро Дюбель”, а таксама Зміцера Вайцюшкевіча. Газеце “Комсомольская правда в Белоруссии” стала вядома, што на радыё “Сталіца” з'явіўся ў надрукаваным выглядзе “чорны” спіс гуртоў, якія забаронена даваць у эфір. Аднак, як толькі журналісты пачалі выказваць цікавасць да гэтага дакумента, спіс знік.

***13 жніўня*** ў эфір **тэлерадыёканала “Магілёў”** Белтэлерадыёкампаніі не выйшаў сюжэт пра стыхійны страйк на тэрыторыі мясцовага прадпрыемства АКМО. Страйк быў выкліканы нявыплатай заробку працаўнікам фабрыкі. Нягледзячы на тое, что рэпарцёр і аператар службы навін актыўна працавалі на месцы падзеяў, ні сюжэт, ні паведамленне на гэтую тэму не выйшлі ў эфір. Паводле інфармацыі службы маніторынгу ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, просьба не даваць сюжэт у эфір паступіла з гарвыканкама. Чыноўнік мясцовай “вертыкалі” паабяцаў страйкоўцам аператыўна вырашыць праблему з заробнай платай, а тэлестудыю папрасіў “не ўздымаць шуму”.

***10 верасня*** беларускім гледачам **тэлеканала “Россия”** замест анансаванага ў тэлепраграме шоу “Народны артыст” паказалі 2 дакументальныя фільмы. Адзін з іх быў прысвечаны дзейнасці беларускай апазіцыі, якая прэзентавалася ў ім у рэзка адмоўным святле. У часе дэманстрацыі фільмаў на экране прысутнічаў лагатып тэлеканала “Россия”.

***20 верасня*** звольнілі з працы **Ніну Буйніцкую**, намесніцу галоўнага рэдактара шклоўскай раённай газеты “**Ударны фронт”**. Са словаў галоўнага рэдактара выдання Аляксандра Бялясава, яна пакінула працу “па ўласным жаданні”. Па інфармацыі службы маніторынга БАЖ, непасрэднай прычынай звальнення стала публікацыя “неправеранага матэрыялу”. У нумары “Ударнага фронту” за 18 верасня быў надрукаваны ліст чытача за подпісам “Б. Касцюк, ветэран працы”. Пасланне было змешчана пад загалоўкам “Рэферэндум - правільнае рашэнне”: аўтар ліста эмацыйна выказваўся ў падтрымку ідэі плебісцыту і ўхваляў імкненне А. Лукашэнкі звярнуцца да народа. “Б. Касцюк” дадаў да ліста вершаваны зварот да кіраўніка дзяржавы, у якім выказваў яму сваю падтрымку. Пасля выхаду газеты высветлілася, што апублікаваны паэтычны твор з'яўляецца акравершам: першыя літары ўтвараюць асобны сказ, змест якога кардынальна адрозніваецца ад зместу самога паслання “Б. Касцюка”. Паколькі галоўны рэдактар выдання ў той момант адсутнічаў, адказнасць за з'яўленне публікацыі ўсклалі на Н. Буйніцкую.

***21 верасня*** **Гомельскае абласное тэлебачанне** транслявала скарочаны выступ кандыдата ў дэпутаты па 33-й выбарчай акрузе, сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Яўгена Фурсеева. Скарачэнні былі зробленыя без дазволу кандыдата і тычыліся той часткі выступу, дзе ацэньваўся абвешчаны кіраўніком краіны рэферэндум. Запісаны выступ кандыдата не перавышаў устаноўленага ліміту часу (5 хвілін).

***29 верасня*** ў №№ 116-117 газеты **“Светлагорскія навіны**” (заснавальнік – райвыканкам, раённы Савет дэпутатаў і калектыў рэдакцыі) была цэнзураваная праграма кандыдата ў дэпутаты ад партыі БНФ па Светлагорскай акрузе №48 Віктара Раманішкі. З тэксту праграмы былі знятыя словы “рэжым Лукашэнкі”, а таксама меркаванне аўтара пра рэферэндум.

***25 кастрычніка*** беларускія гледачы не ўбачылі ў эфіры аналітычнай праграмы “Вести недели” (**тэлеканал “Россия”)** сюжэту пра выбары і рэферэндум на Беларусі. Ён быў заменены праграмаю “Эксперт”, падрыхтаванай беларускім тэлеканалам “СТВ”.

***У лістападзе*** аддзелу ідэалагічнай працы Барысаўскага гарвыканкама дадзена даручэнне прапрацаваць пытанне аб’ектыўнасці і праўдзівасці матэрыялаў, якія друкуе недзяржаўная газета **“Гоман Барысаўшчыны”.**

3 лістапада начальнік ідэалагічнага аддзела Мінскага аблвыканкама Таццяна Дзедух ў публікацыі ў газеце “Адзінства” (заснавальнік – Барысаўскі райвыканкам) зазначыла, што надрукаваныя ў “Гомане Барысаўшчыны” артыкулы навуковага супрацоўніка мясцовага краязнаўчага музея Валерыя Раховіча, прысвечаныя барысаўскаму падполлю ў гады нямецкай акупацыі, робяць спробу перагледзець подзвіг беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне і адмаўляюць наяўнасць шматлікіх аб’ектыўных дакументальных крыніц.

Артыкулы В.Раховіча пра падзеі 1941-44 г.г. у Барысаве, падмацаваныя архіўнымі даследаваннямі, адрозніваліся ад афіцыйнай гістарыяграфіі. Яны выклікалі абурэнне некаторых ветэранаў вайны, якія напісалі ліст да мясцовых уладаў і ў Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай даць ацэнку дзеянням Раховіча. У сувязі з пададзенай заявай загадам дырэктара “Барысаўскага аб’яднанага музея” В. Раховіч быў вызвалены ад займанай пасады навуковага супрацоўніка музея.

## ПАРУШЭННІ, ЗВЯЗАНЫЯ З ДОСТУПАМ ДА ІНФАРМАЦЫІ
**(адмовы ў прадстаўленні інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі)**

Арт. 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гарантуе грамадзянам краіны права на атрыманне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў, аб палітычным, эканамічным, культурным і міжнародным жыцці. А частка 2 арт. 32 закона “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі” устанаўлівае, што рэдакцыі маюць права запытваць інфармацыю аб дзейнасці дзяржаўных органаў, арганізацый, грамадскіх аб’яднанняў, іх службовых асобаў. Гэтую інфармацыю абавязаны прадстаўляць кіраўнікі згаданых органаў, арганізацый і аб’яднанняў, іх намеснікі, супрацоўнікі прэс-служб і іншыя ўпаўнаважаныя на тое асобы ў межах іх кампетэнцыі не пазней чым праз 10 дзён пасля атрымання запыту.

Нягледзячы на гэтыя палажэнні заканадаўства, парушэнні правоў журналістаў на інфармацыю атрымалі ў Беларусі такі шырокі распаўсюд, што 21 верасня 2004 г. каментаваць праблему давялося прэзідэнту краіны Аляксандру Лукашэнку. Падчас сустрэчы з журналістамі Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі кіраўнік дзяржавы ў адказ на скаргі супрацоўнікаў БТ заявіў, што чыноўнікі, кіраўнікі дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў не маюць права адмаўляць у прадастаўленні інфармацыі: “*Звярнуўся да яго журналіст з просьбай даць інфармацыю – памры, але дай*!”.

Сам факт апеляцыі да прэзідэнта журналістаў “галоўнага” дзяржаўнага тэлеканала сведчыць аб маштабе праблемы. Асаблівыя цяжкасці з атрыманнем інфармацыі існуюць на рэгіянальным узроўні. Гэта можна праілюстраваць паведамленнямі з Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Прадстаўнікі мясцовых уладаў не толькі адмаўляюцца прадастаўляць інфармацыю рэдактару недзяржаўнай газеты “Ганцавіцкі час”, але і сістэматычна не пускаюць яго на адкрытыя мерапрыемствы. Так, 28 жніўня Пятра Гузаеўскага не пусцілі на раённую канферэнцыю работнікаў адукацыі. 21 верасня П. Гузаеўскі быў выстаўлены з залі паседжанняў чарговай сесіі раённага Савета дэпутатаў, на якой павінна было разглядацца пытанне аб добраўпарадкаванні горада Ганцавічы і раёна.

Захады ў дачыненні да журналіста незалежнага выдання парушылі, сярод іншага, яго правы, замацаваныя ў арт. 39 закону “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі”. У прыватнасці, права прысутнічаць на месцы грамадска-значных падзеяў і перадаваць адтуль інфармацыю. Забарона журналісту прысутнічаць на сесіі і канферэнцыі ў той час, калі прадстаўнікі дзяржаўных медыяў былі на іх дапушчаны, парушыла таксама патрабаванні артыкулаў 22, 23 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Арт. 22 Асноўнага Закону дэкларуе, што ўсе роўныя перад законам і маюць права без усялякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў, а арт. 23 вызначае, што абмежаванне правоў і свабод асобы дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, захавання грамадскага парадку, абароны маралі, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асобаў. Выдварэнне П. Гузаеўскага з сесіі Ганцавіцкага райсавета парушае таксама прынцып галоснасці мясцовага самакіравання (арт. 5 закона “Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні”).

Такія дзеянні мясцовых уладаў і супрацоўнікаў міліцыі ў адпаведнасці з арт. 48 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" можна кваліфікаваць як замах на свабоду масавай інфармацыі, за што прадугледжана дысцыплінарная ці адміністратыўная адказнасць. Аднак ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" не зафіксавала выпадкаў, калі службовых асобаў дзяржаўных органаў прыцягвалі да адказнасці за адмову ў інфармацыі журналістам недзяржаўных выданняў. Артыкул 172-1 КоАП, які вызначае пакаранне за замах на свабоду масавай інфармацыі (максімальны штраф для службовых асобаў складае 50 базавых велічыняў, што прыблізна роўна 450 далярам ЗША), на практыцы не ўжываецца.

Адным з эфектыўных сродкаў абмежавання доступу да інфармацыі з'яуляецца адмова ў акрэдытацыі ці пазбаўленне акрэдытацыі. Такая практыка ўжываецца ў дачыненні не толькі да айчынных, але і да замежных СМІ. (*гл. "Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ"*).

***На пачатку студзеня*** ў Бабруйску з залі суда падчас адкрытага слухання справы быў выдалены журналіст **Ігар Кірын.**

І.Кірын выдае ў Глуску незарэгістраваны друкаваны інфармацыйны бюлетэнь і рэдагуе ўласны сайт. Ён меркаваў падрыхтаваць артыкул пра паседжанне суда. Старшыня судовага паседжання Васіль Чымірка забараніў журналісту не толькі карыстацца дыктафонам, але і наогул прысутнічаць у залі суда.

***13 студзеня*** суддзя Гаспадарчага суда Гродзенскай вобласці Сяргей Кулакоўскі забараніў прысутным у залі журналістам публікаваць звесткі, атрыманыя пад час судовага працэсу па зыску Вольгі Куняўскай да Гродзенскага аблвыканкама. На пачатку сакавіка 2003 г. В. Куняўская звярнулася з заявай аб рэгістрацыі прыватнага ўнітарнага выдавецкага прадпрыемства «Регион-пресс». Гродзенскі аблвыканкам адмовіў ёй у гэтым без тлумачэння прычын (*гл. "Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ і журналістаў"*).

***6 лютага*** супрацоўнікі міліцыі і чыноўнікі Гарадзенскага аблвыканкама забаранілі карэспандэнтам недзяржаўнай газеты "**День"** (Андрэй Пачобут) і інтэрнэт-сайта **belarusfree.org** (Ніна Палуцкая) прысутнічаць на паседжанні Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў. Гэта была матывавана тым, што ў спісе запрошаных, які быў зацверджаны начальнікам упраўлення інфармацыі і друку аблвыканкама Уладзімірам Амелькам, карэспандэнтаў "Дня" і belarusfree.org не было.

***12 лютага*** гродзенскіх журналістаў Анджэя Пісальніка і Ірыну Чарняўку выдалілі з залі, дзе праходзіла нарада ўпраўлення інфармацыі Гродзенскага аблвыканкама з удзелам намесніцы міністра інфармацыі Ліліі Ананіч. Журналістку Юлію Дарашкевіч увогуле не ўпусцілі ў памяшканне, дзе праходзіла мерапрыемства.

Яшчэ да пачатку паседжання міліцыянт з аховы будынка аблвыканкаму, выкліканы на патрабаванне намесніка кіраўніка Упраўлення інфармацыі аблвыканкама Паўла Скрабко, вывеў з залі Анджэя Пісальніка. Ірыне Чарняўцы прыйшлося выйсці, калі кіраўнік упраўлення інфармацыі Уладзімір Амелька прапанаваў прысутным прыняць адпаведнае рашэнне галасаваннем. Прапанову падтрымалі сем чалавек, аднак У. Амелька абвесціў, што рашэнне прынята "адзінагалосна".

На нарадзе абмяркоўваўся план мерапрыемстваў у галіне ідэалагічнай працы і, акрамя супрацоўнікаў упраўлення інфармацыі Гродзенскага аблвыканкама, на ёй прысутнічалі прадстаўнікі газеты “Вечерний Гродно”, тэлерадыёкампаніі “Гродна”, агенцтва БелТА, а таксама рэдактары рэгіянальных дзяржаўных газет і кіраўнікі аддзелаў інфармацыі райвыканкамаў вобласці - агулам каля 50 чалавек.

***13 лютага*** ў Ганцавічах (Брэсцкая вобласць) пад час урачыстасцяў з нагоды 15-й гадавіны сканчэння савецка-афганскай вайны старшыня Ганцавіцкага райвыканкама Уладзімір Столяр захіліў аб'ектыў камеры фотакарэспандэнта газеты “**Ганцавіцкі час”**, замінаючы апошняму выконваць прафесійныя абавязкі. Гэтыя дзеянні суправаджаліся каментарамі кіраўніка мясцовай вертыкалі пра непажаданасць прысутнасці на мерапрыемстве карэспандэнтаў газеты Соф'і Ясько і Ларысы Аліхмаджаевай**.**

***На пачатку красавіка*** Упраўленне ідэалагічнай працы Брэсцкага аблвыканкама адмовіла журналісту штотыднёвіка “**Брестский курьер”** Аляксандру Ваўковічу ў інфармацыі пра месца і час узнагароджання пераможцаў рэгіянальнага конкурса “Чалавек года”. Фінал конкурса меў адбыцца ў будынку Брэсцкага аблвыканкама. Галоўны спецыяліст упраўлення Святлана Гуміна заявіла журналісту, што ў аблвыканкам яго ўсё роўна не пусцяць, бо аблвыканкам ужо тры гады не працуе з недзяржаўнай прэсай.

***16 красавіка*** кіраўніцтва папраўча-працоўнай калоніі №20 у Мазыры адмовіла ў інфармацыі журналістцы Ірыне Макавецкай. Журналістка збіралася рыхтаваць матэрыял пра кабельную сетку тэлебачання, якую наладзіў адзін з вязняў. Псіхолаг калоніі Сяргей Анатольевіч (прозвішча ён адмовіўся назваць), упаўнаважаны адказваць за гэтае пытанне, заявіў журналістцы, што начальнік калоніі Аляксандр Бакавец дазволіў даваць інфармацыю толькі “Советской Белоруссии”, “Гомельской правде” і мясцовай газеце “Жыццё Палесся”.

***27 красавіка*** на ўваходзе ў суд быў абшуканы намеснік галоўнага рэдактара газеты **“День”** Андрэй Пачобут. Супрацоўнік аддзела “Ахова” затрымаў журналіста і без складання пратаколу ў адсутнасці панятых правёў дагляд асабістых рэчаў. А. Пачобут звярнуўся ў раённую пракуратуру з просьбай узбудзіць крымінальную справу па гэтым факце.

8 траўня журналіст атрымаў адмову: намесніца пракурора Ленінскага раёна Гродна Ірына Стральцова спаслалася на Інструкцыю па асаблівых абавязках паставога міліцыянта па ахове будынка суда Ленінскага раёна г. Гродна, зацверджаную старшынём суда і начальнікам аддзела аховы па Ленінскім раёне Гродна. Паводле гэтага дакумента, супрацоўнік міліцыі мае права не прапускаць у будынак суда асобаў з відэа-, фотаапаратурай ды іншымі прыстасаваннямі для запісу, калі тыя не маюць адмысловага дазволу ад старшыні суда. “*З улікам таго, што Вы з'яўляецеся прадстаўніком СМІ, у супрацоўнікаў міліцыі меліся падставы меркаваць пра наяўнасць у Вас вышэйузгаданай апаратуры, у сувязі з чым і быў праведзены дагляд”*, - гаворыцца ў лісце з пракуратуры.

Інструкцыя па асаблівых абавязках паставога міліцыянта па ахове будынка суда Ленінскага раёна Гродна была прынята 15 траўня 2002 года, калі ў гэтым судзе разглядалася крымінальная справа па абвінавачанню журналістаў газеты “Пагоня”.

***19 траўня*** журналістаў не пусцілі ў будынак Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу на прэс-канферэнцыю дэпутацкай групы "Рэспубліка". Сакратарыят не дазволіў выпісаць для іх ніводнага пропуску. Будынак ачапілі міліцыя і людзі ў цывільным, а дэпутаты былі змушаныя правесці сустрэчу з журналістамі на вуліцы.

Паводле інфармацыі "Белорусской деловой газеты", да нявыдачы прапускоў журналістам мела дачыненне Служба бяспекі Прэзідэнта: менавіта гэтая структура з 2003 года адказвае за выдачу прапускоў у парламент. Такая прапускная сістэма была ўведзена пасля таго, як у 2003 г. дэпутацкая група "Рэспубліка" правяла ў будынку сустрэчу з прадстаўнікамі апазіцыйных палітычных партый.

***3 чэрвеня*** беларускіх і замежных журналістаў, акрэдытаваных пры Палаце прадстаўнікоў, не пусцілі ў будынак парламента. У гэты дзень на пленарным паседжанні павінен быў выступаць дэпутат групы "Рэспубліка" Валеры Фралоў. Пасля гэтага дэпутаты планавалі правесці прэс-канферэнцыю.

У парламент былі прапушчаны журналісты БТ, ОНТ, дзяржаўных друкаваных выданняў, а таксама агенцтва "Інтэрфакс".

***8 чэрвеня*** журналісты недзяржаўных СМІ не змаглі прысутнічаць на пленарным паседжанні сесіі Палаты падстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. На падыходзе да будынка парламента іх сустракалі людзі ў цывільным. Яны правяралі журналісцкія пасведчанні і параўноўвалі са сваім спісам, у якім прадстаўнікоў недзяржаўных выданняў не было. Беспрэцэдэнтныя захады бяспекі супрацоўнікі праваахоўных органаў патлумачылі правядзеннем "*ахоўных мерапрыемстваў"*, звязаных з прыездам у Мінск прэм'ер-міністра Расіі.

***22 чэрвеня*** Служба бяспекі не прапусціла ў будынак парламента акрэдытаванага пры Палаце прадстаўнікоў карэспандэнта **Радыё "Свабода"** Юрыя Свірко. Ахоўнікі забралі ў журналіста дыктафон і знішчылі запісы, пасля чаго людзі ў цывільным пасадзілі Ю. Свірко ў машыну і адвезлі ад будынка парламента. У машыне журналісту забаранілі тэлефанаваць і адказваць на званкі.

***24 чэрвеня*** намеснік старшыні Пінскага гарвыканкама Аляксандр Канеўскі адмовіў карэспандэнту газеты **"Мясцовы час"** Паўлу Ляхновічу ў інфармацыі пра выязную калегію Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій, якая адбылася ў Пінску 17-18 чэрвеня.

Адмову размаўляць з журналістам чыноўнік матываваў тым, што журналіст не мае акрэдытацыі пры гарвыканкаме.

Раней, 9 красавіка, Пінскі гарвыканкам адмовіў рэдакцыі газеты ў акрэдытацыі, сцвярджаючы, што "*гарадскім выканаўчым камітэтам не практыкуецца акрэдытацыя пры выканкаме журналістаў розных сродкаў масавай інфармацыі. Акрэдытацыя карэспандэнтаў СМІ праводзіцца на асобныя мерапрыемствы, арганізаваныя і праводзімыя гарвыканкамам*". Ліст падпісаў сам А. Канеўскі.

***28 чэрвеня*** супрацоўнік службы аховы суда Ленінскага раёна г. Гродна не дазваляў прайсці ў будынак суда журналісту **Радыё "Свабода"** Сяргею Астраўцову і прадстаўніку ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Юрыю Тапарашаву. Канфлікт вырашыўся толькі пасля таго, як журналісты пакінулі дыктафоны па-за будынкам суда.

Супрацоўнік міліцыі спаслаўся на інструкцыю, зацверджаную старшынём суда і начальнікам аддзела аховы Ленінскага р-на г. Гродна.

Інструкцыя дазваляе не прапускаць у будынак суда асобаў з відэа-, фотаапаратурай ды іншымі прыладамі для запісу без адмысловага дазволу старшыні суда.

***28 жніўня*** рэдактару газеты **"Ганцавіцкі час"** (Брэсцкая вобл.) Пятру Гузаеўскаму не дазволілі прысутнічаць на раённай канферэнцыі працаўнікоў адукацыі, якая праходзіла ў памяшканні сярэдняй школы №3. На ўваходзе ў залу яго спыніў супрацоўнік міліцыі і запатрабаваў прад'явіць запрашальны білет. Паколькі білет адсутнічаў, то міліцыянт папрасіў П.Гузаеўскага пакінуць тэрыторыю школы. Як патлумачыла дырэктар СШ№3 Варвара Дыдышка, адміністрацыя вырашыла пускаць ў залу толькі па білетах, паколькі колькасць месцаў у актавай залі абмежаваная. Тым не меньш, на канферэнцыю змагла патрапіць карэспандэнт гэтага ж выдання Ірына Дамарацкая, якая працуе ў выданні адносна нядаўна. Рэдактар "Ганцавіцкага часу" П. Гузаеўскі мяркуе, што супрацоўнік міліцыі не ведаў яе ў твар.

***31 жніўня*** ў Бабруйску падчас правядзення здымак здымачнай групай **тэлерадыёкампаніі "Магілёў"** на кірмашы "Заходні" дырэктар кірмаша Ігар Фамянок выбіў камеру з рук аператара А.Гутарова. Па словах дырэктара, ён не хацеў нікому чыніць шкоды, а вінаватыя ў інцыдэнце журналісты, якія не папярэдзілі адміністрацыю кірмаша пра свой візіт (*гл. таксама "Пасягальніцтвы на журналістаў і медыі"; "Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ і журналістаў"*).

***15 верасня*** журналістка «**Новой газеты Сморгони»** Ірына Лугіна звярнулася па тэлефоне да дырэктара Смаргонскага ЗАГСу Паліны Шульгі па інфармацыю. Журналістка папрасіла прадаставіць ёй звесткі датычна тэрмінаў адкрыцця новага будынку ЗАГС, а таксама спытала, ці можна сфатаграфаваць новы Дом рэгістрацыі шлюбаў знутры. П. Шульга пацікавілася, з якога выдання яе турбуюць, і, высветліўшы, што тэлефанаванне паступіла не з мясцовай дзяржаўнай газеты "Светлы шлях", адмовіла журналістцы ў інфармацыі. *"Вы ж ведаеце, нам забаронена даваць інфармацыю вашай газеце"*, - зазначыла яна.

***21 верасня*** галоўнаму рэдактару газеты **"Ганцавіцкі час"** Пятру Гузаеўскаму не дазволілі прысутнічаць на адкрытым паседжанні сесіі раённага Савета дэпутатаў, на парадку дня якой было пытанне добраўпарадкавання горада Ганцавічы і раёна. Старшыня Савета дэпутатаў Барыс Асаўцоў, прэзентуючы мясцовых дэпутатаў і гасцей сесіі, на самым пачатку паседжання звярнуў увагу прысутных на тое, што ў залі знаходзіцца рэдактар недзяржаўнай газеты. Ён прапанаваў вырашыць пытанне прысутнасці журналіста на сесіі шляхам галасавання. За тое, каб дазволіць П. Гузаеўскаму прысутнічаць на паседжанні, не прагаласаваў ніхто; супраць - пяцёра (у залі прысутнічалі каля ста чалавек). За выдаленне журналіста з залі актыўна выступаў старшыня Ганцавіцкага райвыканкама Уладзімір Столяр, а начальнік Ганцавіцкага РАУС пагражаў сп-ру Гузаеўскаму адміністратыўнай адказнасцю. Карэспандэнты раённай дзяржаўнай газеты "Савецкае Палессе" прысутнічалі на сесіі раённага Савета дэпутатаў ад пачатку да канца.

***27 верасня*** старшыня Смаргонскай выбарчай камісіі Валерый Боцька адмовіўся размаўляць з карэспандэнтам рэдакцыі тэлевяшчання **"Окс-тв"** Анастасіяй Жарнасек. 27 верасня карэспандэнт звярнулася да яго па інфармацыю аб адбытым паседжанні выбарчай камісіі. (Аператар "Окс-тв" адзняў матэрыял

пра гэтае мерапрыемства па просьбе загадчыка аддзела інфармацыі Смаргонскага райвыканкама Аляксея Апановіча). Старшыня выбарчай камісіі заявіў па тэлефоне А. Жарнасек, што ніякай інфармацыі ён не будзе даваць, і параіў ёй прысутнічаць на нарадах асабіста.

Старшыня Віцебскай-Горкаўскай акруговай выбарчай камісіі Святлана Мянжынская адмовілася прадастаўляць інфармацыю журналісту газеты **“Витебский курьер”** Уладзіміру Жыгулову. Пра гэта паведаміла ***9 кастрычніка*** газета “Народная воля”. Спачатку С. Мянжынская дала згоду на размову, але пасля заявіла, што не будзе адказваць на пытанні журналіста і наогул “*не жадае мець справы з прэсай”. “Пакуль не прыме рашэння Цэнтрвыбаркам, я нічога не буду гаварыць*”, - заявіла старшыня камісіі”.

Тэмай размовы мела стаць пазбаўленне камісіяй рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты парламента Паўла Севярынца пасля яго выступу на абласным радыё.

Ляхавіцкі райвыканкам адказаў адмоваю на просьбу ААТ “Выдаведскі дом “Intex-press” акрэдытаваць журналістаў выдання **“Ляхавіцкі час”**. У лісце, датаваным ***15 лістапада***, старшыня райвыканкама А.Сакун патлумачыў, што лічыць акрэдытацыю журналістаў немэтазгоднай, паколькі *“дзейнасьць выканкама, а таксама эканамічнае, культурнае і спартыўнае жыццё раёна дастаткова адлюстроўваюцца газетамі “Заря”, “Ляхавіцкі веснік” і раённым радыё”.* Раней райвыканкам адмаўляў выданню ў акрэдытацыі журналістаў на падставе таго, што любую інфармацыю можна атрымаць у выканкаме і без гэтай фармальнасці.

Уласны карэспандэнт газеты **“Народная воля”** Ірына Макавецкая не змагла патрапіць на сумеснае паседжанне Прэзідыюма Вярхоўнага суда і калегіі Міністэрства юстыцыі, якое праходзіла ***3 лістапада*** ў Гомелі. Пра магчымасць узяць удзел у ім Макавецкая пацікавілася ў супрацоўніка ўпраўлення ідэалагічнай працы Гомельскага аблвыканкама Валерыя Ахлесціна. В. Ахлесцін паведаміў, што яму патрэбна ўдакладніць гэтае пытанне ва ўпраўленні юстыцыі. 2 лістапада ён патэлефанаваў І.Макавецкай і паведаміў, што прэсу на паседжанне дапускаць не будуць. На сумесным паседжанні разглядаліся вынікі праверкі арганізацыі працы Гомельскага абласнога суда, упраўлення юстыцыі аблвыканкама і раённых судоў.

***23 лістапада*** начальнік ДАІ Смаргонскага РАУС Анатоль Грышан адмовіўся даць **“Местной газете”** інфармацыю аб дзейнасці ДАІ. На вусны запыт “Местной газеты” ён адказаў, што не мае нічога супраць “МГ” ды іншых выданняў і лічыць карысным, каб аб працы ДАІ прэса пісала як мага больш, але, згодна з распараджэннем начальніка Смаргонскага РАУС Пятра Дзевятня, не можа супрацоўнічаць з “Местной газетой”.

Карэспандэнта сайта “**Прафсаюзны рух Беларусі”** Ірыну Бут-Гусаім не пусцілі на прэс-канферэнцыю старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ФПБ Леаніда Козіка, якая праходзіла ***17 снежня*** ў залі пасяджэнняў Дома прафсаюзаў. Супрацоўнік прэс-службы, параіўшыся з кіраўніцтвам, спаслаўся на адсутнасць у карэспандэнта сайта папярэдняй акрэдытацыі. Прэс-канферэнцыя была прысвечана вынікам рэалізацыі праграмы дзейнасці ФПБ у 2004 годзе.

# КАНФЛІКТЫ, ЗВЯЗАНЫЯ З АТРЫМАННЕМ І РАСПАЎСЮДАМ ЗАМЕЖНАЙ ІНФАРМАЦЫІ І ДЗЕЙНАСЦЮ ЗАМЕЖНЫХ СМІ

На працягу ўсяго 2004 г. беларускія ўлады працягвалі паслядоўна "зачыняць" інфармацыйную прастору краіны.

У першую чаргу, абмяжоўвалася дзейнасць расійскіх тэлерадыёканалаў, якія яшчэ нядаўна дамінавалі ў беларускім эфіры. Паводле пасла Расіі ў Беларусі Аляксандра Блахіна, аб'ём іх вяшчання ў Беларусі за апошнія гады зменшыўся на 70 %, прычым гэтае скарачэнне найбольш закранула публіцыстычныя, дыскусійныя праграмы. Непасрэдна перад парламенцкімі выбарамі 2004 г. было вымушана прыпыніць працу ў Беларусі прадстаўніцтва Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі (супрацоўнікі беларускага карпункта тэлеканала "Россия" былі пазбаўлены акрэдытацыі). 17 і 19 лістапада ў Мінску былі збіты пры выкананні сваіх абавязкаў журналісты расійскіх Першага канала, НТВ і REN-TV (разам з імі пацярпелі і некаторыя іншыя журналісты замежных медыя). Падобна на тое, што пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. афіцыйны Мінск ацаніў небяспеку распаўсюду альтэрнатыўнай інфармацыі праз электронныя СМІ і зрабіў адпаведныя захады.

Паўплываць на дзейнасць друкаваных выданняў аказалася больш складана. 2 сакавіка 2004 г. Міністэрства інфармацыі зацвердзіла Інструкцыю аб распаўсюдзе на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь перыядычных друкаваных выданняў, зарэгістраваных у замежных выданнях. Адной з галоўных мэтаў прыняцця Інструкцыі ў Мініінфарме называлі "упарадкаванне" распаўсюду ў Беларусі расійскіх газет і часопісаў, аднак хутка высветлілася, што на іх гэтая інструкцыя не распаўсюджваецца. У адпведнасці з рашэннем сумеснай калегіі Дзяржкамдруку Расійскай Федэрацыі і Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь ад 15 лютага 1999 г. атрымліваць дазвол на распаўсюд на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь расійскіх друкаваных выданняў, як гэта прадугледжана Інструкцыяй, не патрабуецца. На канец 2004 г. ў Беларусі распаўсюджвалася больш за 4 тысячы расійскіх сродкаў масавай інфармацыі.

Беларускія ўлады спрабавалі абмежаваць дзейнасць не толькі расійскіх СМІ, але і СМІ іншых замежных дзяржаў. Так, у чэрвені Камітэт дзяржаўнай бяспекі дэпартаваў з Беларусі журналіста недзяржаўнай газеты "Время" Міхаіла Падаляка, які з'яўляецца грамадзянінам Украіны. У лістападзе былі пазбаўлены акрэдытацыі журналісты расійскага бюро французскага тэлеканала TF1. Пры канцы года ў прымежных абласцях Беларусі абмежавана рэтрансляцыя некаторых украінскіх і польскіх тэлеканалаў.

***З пачатку лютага*** скарочана да мінімуму трансляцыя расійскіх праграмаў па цэнтральным беларускім тэлевізійным канале ОНТ. У сетцы вяшчання засталася толькі інфармацыйная праграма "Время", але гэтая навінная праграма **Першага расійскага канала** выходзіць у эфір ва ўрэзаным выглядзе.

На думку кіраўніка аддзела спецыяльных інфармацыйных праектаў Першага канала Паўла Шарамета, такім чынам працэс адключэння расійскіх каналаў ад беларускага гледача падыходзіць да завяршэння. *"Гэты працэс, увогуле, прагназаваўся, да гэтага ўсё ішло... У Беларусі ўжо даўно глядзелі скажоны Першы канал. Таму што ОНТ на свой густ перакройвала сетку, перастаўляла праграмы, нават цэнзуравала некаторыя выпускі навінаў*", - сказаў

ён у інтэрвью газеце “Белорусский рынок”.

За ўдзел у дзвюх праграмах тэлеканала “Россия” – “Вести недели” і "Зеркало" - ***у сакавіку*** Пракуратура Рэспублікі Беларусь завяла крымінальную справу ў дачыненні да старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі (*гл. таксама* “*Крымінальныя справы па публікацыях у СМІ”*) паводле артыкула 367 ч. 2 Крымінальнага кодэкса (КК) Рэспублікі Беларусь (“Паклёп у дачыненні Прэзідэнта РБ”). Справа была перададзеная ў гарадскую пракуратуру.

Праграма “Зеркало”, у якой браў удзел Анатоль Лябедзька, выйшла ў эфір 21 лютага, а праграма “Вести недели” з яго ўдзелам убачыла свет 22 лютага. Выступаючы ў праграме “Зеркало” Лябедзька казаў пра прэзідэнцкі фонд і крыніцы паступлення ў яго грошай. Мінская гарадская пракуратура звярнулася ў маскоўскую пракуратуру з просьбай дапытаць вядоўцу праграм Мікалая Сванідзэ і іншых ўдзельнікаў перадачы, што прайшла 21 лютага.

23 сакавіка амбасада Рэспублікі Беларусь у Расіі выступіла з заявай, у якой выказала заклапочанасць з нагоды “правакацыйнага” характару каментароў тэлеканала пра развіццё сітуацыі ў Беларусі.

З ***25 сакавіка*** пачала дзейнічаць Інструкцыя Міністэрства інфармацыі “Аб распаўсюдзе на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь перыядычных друкаваных выданняў, зарэгістраваных у замежных дзяржавах”. У адрозненне ад папярэдняга палажэння, якое дзейнічала з 1998 г. і датычыла дзяржаўнага прадпрыемства “Белпошта”, новы дакумент рэгулюе дзейнасць усіх юрыдычных асоб і прыватных прадпрымальнікаў, якія распаўсюджваюць замежныя выданні, і тычыцца як падпіскі, так і раздробнага гандлю. Распаўсюджвальнікі замежных СМІ павінны ўзгадняць з Міністэрствам інфармацыі каталогі або спісы гэтых выданняў.

***17 і 18 красавіка*** з 17.00 да 20.30 была прыпынена трансляцыя на Беларусь **тэлеканала “Россия”**. Перапынак супаў па часе з выхадам у эфір аналітычных праграм “Зеркало” і “Вести недели”. Рэтрансляцыйны цэнтр у Калодзішчах пад Мінскам спаслаўся на факс, дасланы кіраўніцтвам канала СТВ, які мае выключнае права на распаўсюд перадач тэлеканала “Россия” на тэрыторыі Беларусі. У факсе паведамлялася аб тэхнічнай прафілактыцы з 17 да 21 гадзіны ў суботу і нядзелю. На думку вядоўцы тэлепраграмы "Зеркало" Мікалая Сванідзэ, адключэнне звязана з папярэднім анансаваннем сюжэтаў, прысвечаных Беларусі (*гл. таксама* “*Цэнзура. Парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый”*).

**6 чэрвеня** ў цэнтры Мінска былі затрыманы журналістка расійскай тэлекампаніі **REN-TV** Алена Слаў і аператар Аляксей Пакроўскі, якія бралі інтэрв’ю з двух членаў моладзевага руху “Зубр”. Журналістаў затрымалі супрацоўнікі АМАПу ў цывільным, заявіўшы, што весці здымкі ў цэнтры Мінска можна толькі з дазволу Службы бяспекі Прэзідэнта. Прад’яўленыя дакументы аб акрэдытацыі здымачнай групы пры беларускім МЗС АМАПаўцы назвалі фальшывымі і настойліва прапанавалі жрналістам, а таксама ўдзельнікам інтэрвью праехаць разам з імі ў РУУС Цэнтральнага раёна. У РУУС журналісты пачалі тэлефанаваць у амбасаду Расіі, прэс-службу МУС і іншыя ўстановы, пасля чаго іх адпусцілі.

Аналагічны выпадак з умяшальніцтвам АМАПу ў працу тэлежурналістаў адбыўся са здымачнай групай расійскага канала

**ТВЦ.** Журналістка Вера Двашкевіч і аператар Уладзімір Андронаў праводзілі ў цэнтры Мінска (у раёне рэстарана "МакДональдс") апытанне на тэму сімволікі беларускіх грашовых купюраў. Патрульныя АМАПу падышлі да аператара і пачалі высвятляць, пра што той пытаецца ў мінакоў. Адзін з іх прыгразіў адабраць у журналістаў стужку, "калі пытанні не будуць адпавядаць тэме праграмы".

"*На 70 % скарацілася вяшчанне расійскіх тэлеканалаў у Беларусі за апошнія два гады*", - заявіў амбасадар Расіі ў Беларусі Аляксандр Блахін ***11 ліпеня*** на прэс-канферэнцыі ў Мінску. Як паведаміла газета "**Московский комсомолец**", расійскі амбасадар адзначыў, што ў Беларусі практычна не вяшчае тэлеканал "Культура", а вяшчанне тэлеканалаў "Россия" і НТВ істотна скарочана. Пры гэтым з эфіру часта выразаюць публіцыстычныя і дыскусійныя праграмы, а забаўляльныя ідуць у поўным аб'ёме. Расійскія радыёстанцыі "Юность" і "Маяк" поўнасцю спынілі вяшчанне на тэрторыі Беларусі. На думку А. Блахіна, адбыванае з'яўляецца парушэннем пагаднення аб фарміраванні адзінай інфармацыйнай прасторы.

***21 чэрвеня*** КДБ Беларусі дэпартаваў журналіста беларускай газеты "**Время"** грамадзяніна Украіны Міхаіла Падаляка.

Паводле Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ, падставай для дэпартацыі М. Падаляка стала тое, што ён *"з'яўляецца арганізатарам выпуску газеты "Время", якая тэндэнцыйна асвятляе сацыяльна-палітычнае становішча ў Рэспубліцы Беларусь"*, а "*апублікаваныя ў газеце матэрыялы ўтрымліваюць ... заклікі да дэстабілізацыі палітычнай сітуацыі ў Беларусі"*.

Адначасова паведамляецца, што М. Падаляк парушыў Правілы знаходжання замежных грамадзян і асобаў без грамадзянства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, зацверджаныя Саветам Міністраў у 1999 г., у сувязі з чым ягоная "*ўязная віза і дазвол на часовае знаходжанне на тэрыторыі Беларусі ануляваныя*", а ўезд у Беларусь забаронены на 5 год. Варта адзначыць, што паміж Беларуссю і Украінай дзейнічае бязвізавы рэжым.

***22 ліпеня*** кіразўніцтва ГУУС Мінска правяло тлумачальную гутарку з карэспандэтам **тэлеканала "Россия**" Дзмітрыем Пятровым. Беларускія ўлады выказалі незадавальненне яго тэлерэпартажам аб вулічнай акцыі апазіцыі, прымеркаванай да дзесяцігоддзя знаходжання А. Лукашэнкі ва ўладзе. Сюжэт прайшоў у жывым эфіры праграм "Вести" 21 ліпеня.

***30 ліпеня*** Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь пазбавіла акрэдытацыі чатырох супрацоўнікаў беларускага карпункта расійскага тэлеканала "Россия" (Усерасійская дзяржаўная тэлерадыёкампанія). Акрамя гэтага, беларускае МЗС адклала разгляд заявы УДТРК аб працягу тэрміну дзеяння дазволу на адкрыццё яе прадстаўніцтва ў Беларусі. МЗС абвінавацiла Д. Пятрова ў завышэнні колькасці ўдзельнікаў акцыі, якую апазіцыя правяла 21 ліпеня, а УДТРК – у "*неаднаразовым перадузятым асвятленні падзеяў, якія адбываюцца ў Беларусі, і некарэктным асвятленні несанкцыянаванай акцыі"*.

*"Пазбаўленне нашых карэспандэнтаў акрэдытацыі ўкладаецца ў агульную логіку дзеянняў беларускіх уладаў, накіраваных на абмежаванне вяшчання расійскіх СМІ на тэрыторыі Беларусі"* – заявіла тэлерадыёкампанія.

***23 верасня*** Амбасада Беларусі ў Расіі звярнулася да кіраўнікоў і

карэспандэнтаў расійскіх СМІ з нагоды асвятлення імі кампаніі па выбарах дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў і правядзенні рэферэндума. Беларускі бок "*з жалем канстатаваў*", што "*асобныя расійскія журналісты выкарыстоўваюць і прэзентуюць у сваіх рэпартажах неаб'ектыўную інфармацыю пра падзеі, што адбываюцца сёння ў Беларусі*". "*Выклікае здзіўленне, што некаторыя карэспандэнты актыўна "рэтранслююць" пункт гледжання беларускіх апазіцыянераў, якія не маюць рэальнай падтрымкі сярод насельніцтва і не адлюстроўваюць грамадскае меркаванне ў краіне*", - гаварылася ў звароце.

***14 кастрычніка*** ў Баранавічах была затрымана група тэлежурналістаў польскага **1-га канала**, якая прыехала ў Беларусь для асвятлення выбараў. Баранавіцкая міліцыя каля гадзіны пратрымала ў аддзяленні тэлежурналістку Агнешку Рамашэўску і яе здымачную групу. Пасля праверкі дакументаў журналістаў адпусцілі.

***16 кастрычніка*** ў Быхаве міліцыянты затрымалі польскую журналістку Ганну Гарасімовіч, якая прадстаўляе "**Інфарматар культуральны"**. Г. Герасімовіч была затрымана на выбарчым участку ў Быхаўскім раённым шпіталі. Міліцыянты прапанавалі ёй праехаць зь імі ў аддзяленне. Яны распытвалі журналістку, хто яна, адкуль, якую мае візу і чаму цікавіцца галасаваннем. Быхаўскія міліцыянты пратрымалі польскую журналістку болей за гадзіну.

***16 кастрычніка*** ў Мінску невядомыя патрабавалі ад журналіста **Чэшскага тэлебачання** Міраслава Карася знішчыць адзняты каля будынка Цэнтрвыбаркама відэаматэрыял. Журналіст меў афіцыйную акрэдытацыю МЗС для асвятлення выбараў і рэферэндума ў Беларусі. Паводле М. Карася, людзі ў цывільным, якія не назвалі сваіх імёнаў, забаранілі яму здымаць Цэнтрвыбаркам, завялі ў будынак і запатрабавалі знішчыць адзняты матэрыял. М. Карась адмовіўся выканаць гэтыя патрабаванні і быў адпушчаны толькі пасля таго, як заявіў, што будзе звяртацца па дапамогу ў амбасаду Чэхіі.

***17 кастрычніка*** ў Мінску на адным з выбарчых участкаў у мікрараёне Уручча людзі ў цывільным перашкодзілі працы здымачнай групы расійскага тэлеканала **REN-TV**. Журналісты прыехалі на ўчастак да 14.00, але ў гэты час ён быў ужо пусты, хаця галасаванне па краіне праходзіць да 20.00. Высветлілася, што на гэтым участку ўсе выбаршчыкі прагаласавалі датэрмінова. Калі журналісты паспрабавалі зняць пусты ўчастак, да іх падбеглі людзі ў цывільным і запатрабавалі пакінуць тэрыторыю. У адваротным выпадку ім пагражалі затрыманнем. Здымачная група была вымушана пакінуць выбарчы ўчастак.

***17 кастрычніка*** асобамі ў цывільным быў збіты кіраўнік спецпраектаў расейскага тэлевізійнага **"Першага каналу"** Павал Шарамет. Нападнікі і П. Шарамет былі дастаўлены ў Савецкае РУУС, пасля чаго міліцыянеры нечакана абвінанвацілі П.Шарамета ў дробным хуліганстве (арт. 156 КаАП), затрымалі і прымусова адвезлі ў прыёмнік-спецразмеркавальнік. Там высветлілася, што П.Шарамет атрымаў чарапна-мазгавую траўму. Пасля гэтага ён быў шпіталізаваны (*гл. таксама "Пасягальніцтвы на журналістаў і медыі"*).

Увечары ***19 кастрычніка*** падчас разгону вулічнай акцыі ў цэнтры Мінска пацярпелі некалькі журналістаў беларускіх і замежных СМІ. Аператары

расійскіх тэлеканалаў **НТВ** і **REN-TV** Канстанцін Марозаў і Уладзімір Косцін былі збітыя АМАПам (тэлекамеру НТВ міліцыя разбіла); быў затрыманы, але потым адпушчаны фотакарэспандэнт агенцтва **Associated Press** Сяргей Грыц, пацярпеў ад супрацоўніка прэзідэнцкай аховы карэспандэнт беларускай службы **Радыё "Свабода"** Юры Свірко (*гл. таксама* "*Пасягальніцтвы на журналістаў і медыі"*).

*"У сувязі з інцыдэнтам 19 кастрычніка ў Мінску з журналістамі расійскіх тэлеканалаў НТВ і REN-TV пасольства Расіі ў Беларусі звярнулася з адпаведным афіцыйным запытам да беларускіх уладаў. Расійскі бок чакае правядзення дасканалага расследавання і атрымання вычарпальнай інфармацыі аб тым, што адбылося*", - паведаміў Дэпартамент інфармацыі і друку МЗС Расіі. "*На жаль, апошнім часам гэта не першы выпадак такога кшталту ў адносінах расійскіх карэспандэнтаў у Мінску*".

Прадстаўнікі акрэдытаваных ў Беларусі тэлекампаній, у прыватнасці, **НТВ** і **REN-TV**, не змаглі ***19 кастрычніка*** перадаць сюжэты пра акцыю пратэсту апазіцыі. У офісе тэлерадыёкампаніі "Мір" спасылаліся на тэхнічныя праблемы: няспраўнасць узмацняльніка на тэлевізійнай антэне. Журналісты былі змушаныя перадаваць матэрыялы з тэрыторыі суседніх краінаў.

Раніцай ***25 кастрычніка*** беларускія гледачы не змаглі пабачыць у ранішнім паўторы аналітычнай праграмы "Вести недели" **телеканала "Россия"** сюжэт, які быў прысвечаны падзеям у Беларусі. Без узгаднення з расейскім бокам ён быў заменены на рэкламны блок.

Увечары ***5 лістапада*** ў Мінску была затрымана здымачная група расійскага бюро французскага тэлеканала **TF1**. У раёне плошчы Мяснікова ў Мінску журналісты назіралі за тым, як актывісты руху "Зубр" вывешвалі на чыгуначным мосце шматметровую расцяжку "Лукашэнка прайграў". Да іх падышлі два чалавекі ў цывільным, якія забралі дакументы і прымусілі спыніць здымкі. Здымачную групу тэлеканала TF1 даставілі ў РУУС Маскоўскага раёна Мінска. Пратрымаўшы французаў дзве гадзіны ва ўчастку, міліцыянты забралі ў іх відэакасету і сцерлі запіс. Пазней журналісты расійскага бюро французскага тэлеканала TF1 былі пазбаўлены акрэдытацыі пры Міністэрстве замежных справаў Беларусі.

Аператары кабельнага тэлебачання ў Брэсце спынілі рэтрансляцыю трох польскіх тэлеканалаў. Гэта стала следствам патрабавання Міністэрства інфармацыі. У атрыманым кабельнымі аператарамі лісце міністэрства, падпісаным намеснікам міністра інфармацыі Сяргеем Булацкім, даводзілася, што, рэтранслюючы дзве праграмы **Польскага тэлебачання** і тэлеканал **"Полсат**", аператары парушаюць Палажэнне аб прыёмных сістэмах тэлебачання і радыёвяшчання, зацверджанае беларускім урадам. Паводле Сяргея Булацкага, рэтрансляцыя ўказаных каналаў не ўзгоднена з Міністэрствам інфармацыі Беларусі.

***20 снежня*** ў Пінску падчас трансляцыі з Украіны тэледэбатаў кандыдатаў у прэзідэнты Віктара Януковіча і Віктара Юшчанкі на ўкраінскім тэлеканале **"Інтэр-плюс"** быў адключаны гук. Ён з'явіўся толькі пасля заканчэння праграмы.

***22 снежня*** ў Мінску затрыманы аператар расійскай тэлекампаніі **REN-TV** Уладзімір Косцін. Журналіста

пратрымалі ў РУУС Савецкага раёна (*гл. таксама “Пасягальніцтвы на журналістаў і медыі”*).

***23 снежня*** з праграмаў кабельнага тэлебачання ў Пінску знік украінскі тэлеканал **“Інтэр-плюс”**. Дырэктар кіраўніцтва таварыства з абмежаванай адказнасцю “Эфір ТВ”, каля 2,5 гадзін і пашкодзілі тэлекамеру якое займаецца ў Пінску арганізацыяй кабельнага тэлебачання, Рыбкавец адказаў, што трансляцыя тэлеканала адключана ў сувязі з загадам Міністэрства інфармацыі Беларусі, у якім гаворыцца, што з 23 снежня ўсе ўкраінскія каналы ў Беларусі адключаюцца.

# ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА Ў ГАЛІНЕ СМІ

Эканамічная палітыка дзяржавы ў галіне СМІ па-ранейшаму мела выразны дыскрымінацыйны характар у дачыненні да недзяржаўных выданняў. У рэспубліканскім бюджэце 2004 г. (дадатак № 3 да Закона “Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2004 г.”) на фінансаванне дзяржаўных СМІ было выдаткавана 29,67 млн. долараў ЗША (па курсу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на 9.01.2004 г.). З іх 23,79 млн. долараў прызначалася на фінансаванне тэлебачання і радыёвяшчання, 5,14 млн. долараў – на перыядычны друк і выдавецтвы. Гэтыя лічбы крыху ніжэй параўнальна з 2003 г., калі на фінансаванне СМІ з рэспубліканскага бюджэту было выдаткавана 32,28 млн. долараў (па курсу Нацбанка на 4.01.2003 г.). Аднак ужо ў 2005 годзе прадугледжваецца рэзкае павелічэнне выдаткаў на дзяржаўныя СМІ – да 40,81 млн. долараў ЗША (па курсу Нацбанка на 3.01.2005 г.). Пры агульным павелічэнні фінансавання СМІ прыблізна на 37 % выдаткі на тэлевяшчанне плануецца павялічыць на 42 % (да 33,8 млн. долараў), а выдаткі на перыядычны друк і выдавецтвы – на 14 % (да 5,86 млн. долараў).

Апроч прамога фінансавання, у 2004 г. актыўна і адкрыта выкарыстоўваліся адміністратыўныя захады, закліканыя садзейнічаць эканамічнай стабілізацыі дзяржаўных СМІ, у тым ліку – прымусовая падпіска на дзяржаўныя газеты.

На пачатку года было абвешчана, што з мэтай паляпшэння фінансавага становішча ўнітарнага прадпрыемства Адміністрацыі Прэзідэнта інфармацыйнага агенцтва “БелТА” яму перадаюцца правы на распаўсюд праграм тэлеперадач беларускіх тэлеканалаў. БелТА заявіла, што публікацыя гэтых ТВ-праграм дазваляецца толькі на падставе дамоваў з ім і рэзка – у сотні разоў – павысіла кошт “базавага пакета” тэлепраграм (да 2500 долараў за месяц). Большасці выданняў былі прадастаўлены скідкі (да 99 працэнтаў!), аднак некалькі незалежных выданняў былі вымушаныя адмовіцца ад публікацыі праграм тэлеперадач.

Увесну 2004 г. недзяржаўныя выданні сутыкнуліся з яшчэ адной сур’ёзнай праблемай – аб’яўленнем распаўсюду СМІ па падпісцы ліцэнзаваным відам дзейнасці (*гл. таксама “Змены ў заканадаўстве”; “Перашкаджэнне распаўсюду прадукцыі СМІ”*).

Увядзенне ліцэнзавання і адмовы Мінсувязі ў выдачы ліцэнзій недзяржаўным выданням стала сур’ёзнай перашкодай для стварэння паўнавартаснай альтэрнатыўнай сеткі распаўсюду незалежнай прэсы. Паказальна, у сістэму Мінсувязі, якое займаецца выдачай ліцэнзій, уваходзіць “Белпошта” (г.зн. міністэрства адмаўляе ў выдачы ліцэнзій патэнцыйным канкурэнтам “уласнага” прадпрыемства).

Варта адзначыць, што сярод спецыялістаў існуе меркаванне, што рэдакцыі, якія ажыццяўляюць прыём падпіскі на ўласныя выданні і іх дастаўку, паслуг сувязі не аказваюць і таму не павінны атрымліваць адпаведнай ліцэнзіі. Выказвалася і меркаванне, што атрыманне ліцэнзіі на дзейнасць у галіне сувязі патрабуецца для ажыццяўлення ***ўсіх*** паслуг паштовай сувязі, пералічаных у законе, а не адной з іх, прычым дадатковай, якой з’яўляецца падпіска на газеты.

***У пачатку студзеня*** "УП "**БелТА**" ("Беларускае тэлеграфнае агенцтва") Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь распаўсюдзіла інфармацыю, што яно *"атрымала эксклюзіўнае права на распаўсюд праграм тэлеперадач... беларускіх тэлеканалаў"* і што *"публікацыя тэлепраграм беларускіх тэлеканалаў адбываецца выключна на падставе дамоваў з УП "БелТА".*

Розным рэдакцыям СМІ быў прапанаваны розны кошт пакету тэлепраграм, у які, акрамя праграм тэлеперадач беларускіх тэлеканалаў, уключаны і ТВ-праграмы іншэх каналаў. Шэраг незалежных выданняў ("Салідарнасць", "БДГ", "Народная воля", "Белорусская газета" і інш.) атрымалі прапанову друкаваць праграмы ТВ па "базавым кошце" ў памеры 5 млн. 25 тыс. рублёў (прыблізна 2500 долараў) за месяц, што ў сотні разоў перавышае як ранейшы кошт за друк праграм тэлеперадач, так і кошт, па якім пакет тэлепраграм "з улікам скідак" перадаецца БелТА пераважнай большасці выданняў. Некаторыя выданні вымушаныя адмовіцца ад друку праграм тэлеперадач.

23 студзеня ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" (далей – БАЖ) накіравала ў Пракуратуру РБ, Міністэрства эканомікі і Міністэрства інфармацыі афіцыйныя запыты з просьбай праясніць сітуацыю з распаўсюдам праграмы перадач беларускіх тэлеканалаў і паведаміць, якія захады гэтыя структуры будуць рабіць, каб не дапусціць парушэння беларускага антыманапольнага заканадаўства і заканадаўства ў галіне коштаўтварэння.

10 лютага БАЖ атрымаў адказ на свой запыт з рэспубліканскай пракуратуры. Начальнік упраўлення І. К. Падамацька паінфармаваў пра тое, што перанакіроўвае зварот арганізацыі ў Дэпартамент антыманапольнай і цэнавай палітыкі Міністэрства эканомікі РБ.

24 лютага намеснік міністра эканомікі В.Адашкевіч у адказе на запыт БАЖ пазначыў, што *"Парадак ужывання скідак з адпускных коштаў... павінен утрымліваць умовы, у залежнасці ад якіх прымяняюцца скідкі, а таксама іх памеры. Пры гэтым ужытыя скідкі павінны быць адзінымі для ўсіх пакупнікоў незалежна ад форм уласнасці".*

9 сакавіка БАЖ атрымаў адказ на свой запыт адносна законнасці ўсталявання БелТА розных тарыфаў на продаж тэлепраграмы розным СМІ і ад Міністэрства інфармацыі. Не даючы ўласных каментароў, Мініфармацыі пераслала ў БАЖ тлумачэнні ўнітарнага прадпрыемства БелТА. У афіцыйным лісце генеральнага дырэктара агенцтва Дзмітрыя Жука намесніку міністра інфармацыі Сяргею Булацкаму сцвярджаецца, што ў дамовах на распаўсюд тэлепраграмы, заключаных паміж БелТА і тэлекампаніямі, *"няма ані слова пра тое, што тэлеканалы не могуць перадаваць праграмы іншым".* Гэта супярэчыць сцвярджэнням БелТА аб эксклюзіўным праве распаўсюджваць праграмы тэлеперадач беларускіх тэлеканалаў.

У 2003 г. з 19 абласных і раённых дзяржаўных газет Берасцейшчыны без датацый працавалі толькі 4 выданні. Яшчэ 6 набліжаюцца да поўнай кампенсацыі сваіх выдаткаў. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ***24 лютага*** паведаміла кіраўнік упраўлення інфармацыі аблвыканкама Ніна Шпак. У Пінскім раёне ўсе дзяржаўныя газеты друкуюцца ў шматкаляровым фармаце.

Па словах Ніны Шпак, сваю галоўную задачу дзяржаўныя СМІ і супрацоўнікі абласнога ўпраўлення інфармацыі бачаць у поўным і якасным

ідэалагічным забеспячэнні дзяржаўнай палітыкі.

***4 лютага*** ў Крычаўскім райвыканкаме прайшла нарада раённых кіраўнікоў і ідэалагічнага актыва, прысвечаная падпісцы на дзяржаўныя выданні.

Падчас нарады намеснік старшыні райвыканкама па ідэалогіі С. Марозаў падкрэсліў, што ўсе кіраўнікі з'яўляюцца дзяржаўнымі службоўцамі, а таму абавязаны выконваць дзяржаўную палітыку, адным з аспектаў якой з'яўляецца абавязковае чытанне "Советской Белоруссии" і мясцовай раёнкі "Ленінскі кліч". Намеснік старшыні райвыканкама запэўніў прысутных, што райвыканкам і надалей будзе трымаць гэтае пытанне "пад кантролем".

Напрыканцы мінулага году С. Міронаў правёў некалькі нарадаў па пытаннях падпіскі, падчас якіх мясцовым кіраўнікам даводзіліся канкрэтныя заданні па падпісцы. Пад пагрозай пакарання тыя здолелі забяспечыць "прырост падпіскі" на “раёнку” на 1000 асобнікаў. Але, як выявілася цяпер, людзі падпісаліся ўсяго на месяц. У лютым “раёнка” не далічылася 400 чытачоў.

***15 сакавіка*** Глыбоцкі райвыканкам распаўсюдзіў ліст, якім да 19 сакавіка загадаў кіраўнікам мясцовых прадпрыемстваў аформіць ведамасную і індывідуальную падпіску на дзяржаўныя выданні.

Кожнае прадпрыемства ("*цэх, вытворчы ўчастак, ферма, аддзяленне, пункт, дзіцячы сад, школа, клас, лякарня, амбулаторыя, крама і г. д.*") павінна падпісацца як мінімум на 3 дзяржаўныя выданні, а кожны "член калектыву" на адну рэспубліканскую і адну мясцовую газету. Ведамасную падпіску належыць аформіць на другі квартал "з наступным працягам на 3 і 4 квартал 2004 года".

Да 30 сакавіка прадпрыемствы маюць даць пісьмовую справаздачу пра замоўленую падпіску ў аддзел інфармацыі Глыбоцкага райвыканкама. Акрамя дзяржаўных прадпрыемстваў Глыбоччыны, лісты з райвыканкаму атрымалі прыватныя прадпрымальнікі – уладальнікі гандлёвых прадпрыемстваў, камерцыйных фірмаў.

***21 траўня*** ў Касцюковічах (Магілёўская вобл.) прайшоў семінар ідэалагічных работнікаў і актыву раёна. Намеснік старшыні райвыканкама сп. В. Сугака ў сваім дакладзе прысвяціў значнае месца пытанням працы СМІ. Сярод парадаў, якія атрымалі мясцовыя ідэалагічныя актывісты і журналісты, былі: "арганізаваць працу з насельніцтвам, каб усюды былі выпісаны дзяржаўныя выданні на другое паўгоддзе"; а таксама падвысіць калектыўную падпіску, бо "гэта вельмі дрэнна, калі ў той ці іншай арганізацыі атрымліваюць усяго 2-3 газеты, нярэдка ведамасныя".

***На пачатку лета*** кіяскёры "Белсаюздруку" ў Мінску атрымалі "Памятку па выкладцы датуемых выданняў на вітрыну". Паводле інструкцыі, кіяскёры павінны "выкладваць газеты ў першым шэрагу ля гандлёвага акна ў наступным парадку: "Звязда", "Рэспубліка", "Советская Белоруссия", "Народная газета", "Культура", "ЛіМ", "Белорусская нива", "Голас Радзімы", "The Minsk Times", "Знамя юности", "Зорька", "Переходный возраст", "Раніца", "Сям'я", "Спортивная панорама". Акрамя таго, датаваныя газеты павінны вывешвацца на вітрыну спераду, а датаваныя "тоўстыя" часопісы - спераду выстаўляцца на паліцу.

***Напрыканцы верасня*** кіраўнікі ўсіх навучальных установаў Кастрычніцкага раёна г. Віцебска атрымалі афіцыйнае прадпісанне аформіць падпіску на шэраг дзяржаўных выданняў. Пра гэта гаворыцца ў лісце намесніка кіраўніка Адміністрацыі Кастрычніцкага раёна П. Лосіча, датаваным ***22 верасня***. Нагадваючы пра хуткае заканчэнне падпіскі на 4 квартал гэтага года, адміністрацыя раёна "*просіць актывізаваць працу па правядзенні падпісной кампаніі*" ў сувязі з тым, што "*па навучальных установах раёна дапушчана адставанне па падпісцы на кантраляваныя выданні*". Пад "кантраляванымі” выданнямі згадваюцца "Звязда", "Знамя юности" і "Витьбичи" (заснавальнікі - Віцебскі гарвыканкам, Віцебскі гарсавет). Кожная навучальная ўстанова павінна была выпісаць 10 асобнікаў "Звязды", 21 -- "Знамя юности" і 15 -- "Витьбичи".

***24 верасня*** старшыні сельскіх выканаўчых камітэтаў Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці атрымалі прадпісанне тэрмінова арганізаваць падпіску на дзяржаўныя выданні. Тэлефанаграма з загадам, падпісаная намеснікам начальніка Шчучынскага раённага выканаўчага камітэта Іванам Сакалоўскім. Яна прадпісвае “зрабіць тэрміновыя захады па арганізацыі падпіскі на “Советскую Белоруссию”, “Звязду”, “Рэспубліку”, “Гродзенскую праўду”.

***14 кастрычніка*** ў продажы з'явіўся спецвыпуск газеты Адміністрацыі Прэзідэнта "**Советская Белоруссия**", цалкам прысвечаны агітацыі "За" пытанне, вынесенае на рэспубліканскі рэферэндум. Уверсе кожнай старонкі, дзе звычайна пазначаюцца рубрыкі, быў размешчаны заклік "Скажи своему Президенту - ДА!". У выходных дадзеных газеты пазначана, што наклад "спецвыпуска" складае 863 125 асобнікаў (на той час "Советская Белоруссия" выходзіла накладам каля 321 000). Аднак, па словах лідэра ПКБ Сяргея Калякіна, сапраўдны наклад гэтага нумару складаў каля 3 мільёнаў 200 тысяч асобнікаў, якія бясплатна распаўсюджваліся па ўсёй краіне. Паштавікі заяўлялі, што распаўсюджваць агітвыпуск газеты яны вымушаныя з прычыны адмысловага загаду.

Ганцавіцкі раённы вузел электрасувязі адмовіў рэдакцыі газеты “**Ганцавіцкі час**” у размяшчэнні ў эфіры раённага радыёвяшчання аб’явы, датычнай правядзення падпісной кампаніі. Вузел сувязі спаслаўся на адсутнасць тэхнічнай магчымасці.

Між тым, трансляцыю радыёперадач па мясцовым радыёвяшчанні Ганцавіцкае раённае ўпраўленне электрасувязі (РУЭС) вядзе не менш як 2 разы за тыдзень.

Гэта быў не першы выпадак адмовы ганцавіцкага РУЭС размясціць у эфіры інфармацыю, датычную падпіскі на “Ганцавіцкі час”. Паўгады таму рэдакцыя выдання звярталася з падобнай просьбай да РУЭС і, атрымаўшы згоду, пералічыла за гэтую паслугу грошы. Аднак аб’ява прагучала толькі адзін раз і больш не паўтаралася.

Адначасова супрацоўнікам“ Ганцавіцкага часу” стала вядома, што работнікі Ганцавіцкага раённага вузла сувязі распаўсюджвалі чуткі пра тое, быццам бы ў наступным годзе адзіная недзяржаўная газета рэгіёну выходзіць не будзе, і прапаноўвалі падпісвацца на афіцыйнае выданне “Савецкае Палессе”. Каб высветліць сітуацыю, галоўны рэдактар “ГЧ” Пётр Гузаеўскі ***7 снежня*** сустрэўся са старшынём Ганцавіцкага райвыканкама Уладзімірам Столярам. Кіраўнік раённай вертыкалі запэўніў, што ні ў

вуснай, ні ў пісьмовай форме не аддаваў пошце ўказання блакаваць падпіску на “Ганцавіцкі час”.

Жыткавіцкі райвыканкам (Гомельская вобл.) даручыў арганізацыям і ўстановам аформіць падпіску ветэранам вайны на газеты “Гомельская праўда” і “Новае Палессе”. Аднак кіраўнікі арганізацый ды ўстановаў паставіліся да гэтага даручэння без належнай увагі, што і стала тэмай для нарады кіраўніцтва раённай вертыкалі. Намеснік начальніка РУПС Г. Калупаева зазначыла, што ідэалагічныя службы прадпрыемстваў і арганізацый надаюць пытанням ведамаснай падпіскі мала ўвагі. Кіраўнікам прадпрыемстваў рэкамендавана мець у кожным падраздзяленні, цэху і на ферме выданні “Советская Белоруссия”, “Гомельская праўда” і раённую газету, -- паведаміла ***22 снежня*** газета “Новае Палессе”.

# АБМЕЖАВАННЕ ПРАВА НА ЗАСНАВАННЕ СМІ

На пачатку 2005 г. міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч заявіў, што лічыць неабходным *“зрабіць больш жорсткімі патрабаванні да рэгістрацыі друкаваных і электронных сродкаў масавай інфармацыі”.* Між тым, нормы беларускага заканадаўства, якія рэгламентуюць парадак заснавання СМІ, і без таго не адпавядаюць дэмакратычным стандартам.

У Беларусі ўстаноўлены трохступеневы парадак атрымання дазволу на заснаванне друкаваных СМІ (для электронных СМІ гэты парадак яшчэ больш складаны). Напачатку заснавальнік друкаванага выдання павінен зарэгістравацца ў якасці суб’екта гаспадарання (у 2004 г., насуперак указанням Закона аб друку, Міністэрства інфармацыі стала патрабаваць, каб у якасці заснавальніка СМІ выступалі юрыдычныя асобы). Затым – атрымаць у мясцовых уладаў дазвол на размяшчэнне рэдакцыі (так званае ўзгадненне размяшчэння СМІ). Потым – зарэгістраваць СМІ ў Міністэрстве інфармацыі.

Практыка прымянення гэтых палажэнняў заканадаўства яшчэ больш ускладняе працэс рэгістрацыі СМІ. Праблемы ўзнікаюць на кожнай яе стадыі. Адным з галоўных пытанняў, якія ўзнікаюць пры рэгістрацыі перыядычнага друкаванага выдання, з’яўляецца ўзгадненне размяшчэння сродка масавай інфармацыі з мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі. У адпаведнасці з арт. 10 Закона аб друку, такое ўзгадненне мусіць быць прыкладзена да заявы аб рэгістрацыі СМІ, якая падаецца ў Міністэрства інфармацыі. Часцяком мясцовыя ўлады зыходзяць з таго, што яны могуць даваць альбо не даваць “дазволу” на выпуск газеты на “падведамаснай” ім тэрыторыі паводле ўласнага меркавання, абмяжоўваючы тым самым права на заснаванне СМІ.

Адмовы ва ўзгадненні размяшчэння СМІ шмат разоў абскарджваліся заснавальнікамі выданняў у гаспадарчых судах, прычым суды нярэдка прызнавалі гэтыя рашэнні выканкамаў незаконнымі. Аднак абавязаць выканкам узгадніць размяшчэнне СМІ суды адмаўляюцца. Так, 10 студзеня 2004 г. Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь прызнаў несапраўднай адмову Крычаўскага гарвыканкама ўзгадніць размяшчэнне ў г. Крычаве газеты “Собственный комментарий”, задаволіўшы зыск заснавальніка газеты У. Кудраўцава. Аднак патрабаванні абавязаць выканкам узгадніць размяшчэнне СМІ суд адхіліў. Пасля наступнага звароту ў Крычаўскі гарвыканкам па ўзгадненне СМІ У. Кудраўцаў зноў атрымаў адмову. Да канца 2005 года газета “Собственный комментарий” так і не была зарэгістравана *(гл. таксама “Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ І журналістаў”).*

Рэзкае скарачэнне колькасці новых зарэгістраваных газет у Беларусі было адзначана ў дакладзе прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Міклаша Харашці ад 10 сакавіка 2005 года. У 2004 годзе ў краіне было зарэгістравана ў 4,5 раза меней выданняў, чым у 2003 (51 супраць 230). У 2002 г. было зарэгістравана 299 выданняў, у 2001 – 199.

Агульная сітуацыя з заснаваннем СМІ мала адрознівалася ў розных рэгіёнах. Як тыповыя можна

разглядаць выпадкі, зафіксаваныя ў г. Смаргонь (Гродзенская вобласць).

***19 лютага*** Вышэйшы гаспадарчы суд адхіліў зыск смаргонскай прадпрымальніцы Вольгі Куняўскай да Гродзенскага аблвыканкама, пададзены з нагоды нерэгістрацыі прыватнага унітарнага выдавецкага прадпрыемства "Регион-пресс". Планавалася, што "Регион-пресс" будзе выконваць функцыі рэдакцыі **"Новой газеты Сморгони"**.

В. Куняўская звярнулася ў Гродзенскі аблвыканкам з заявай аб рэгістрацыі прадпрыемства "Регион-пресс" у пачатку сакавіка 2003 г., пасля таго, як Гаспадарчы суд Гарадзенскай вобласціануляваў па зыску Смаргонскага райвыканкама рэгістрацыю выдаўца "Новой газеты Сморгони" індывідуальнага прадпрымальніка Рамуальда Улана. Аднак Гродзенскі аблвыканкам не зарэгістраваў прадрыемства, пасля чаго В. Куняўская была вымушана звярнуцца ў суд.

Разгляд справы пачаўся 13 студзеня ў Гаспадарчым судзе Гродзенскай вобласці, але пазней быў перанесены ў Вышэйшы гаспадарчы суд. Справу разглядала суддзя Людміла Калеснікава.

Суд вынес прыватнае вызначэнне на адрас Гродзенскага аблвыканкама за тое, што чыноўнікі спазніліся з адказам В. Куняўскай, а таксама не паведамілі ёй прычынаў нерэгістрацыі "Регион-пресс", але задаволіць зыскавыя патрабаванні адмовіўся.

***15 кастрычніка*** выдавец Рамуальд Улан зноў падаў у Смаргонскі райвыканкам заяву на ўзгадненне размяшчэння СМІ **"Новая газета Сморгони"**. Гэтае ўзгадненне патрэбна Р.Улану ў сувязі з неабходнасцю правесці перарэгістрацыю выдання пасля таго, як Міністэрства інфармацыі двойчы на працягу году прыпыняла дзейнасць газеты (арт.11 Закона аб друку). 10 лістапада Р. Улан атрымаў адказ, падрыхтаваны загадчыкам аддзелу інфармацыі райвыканкама А. Апановічам, у якім паведамлена, што заява *"...будзе разгледжаная па сутнасці пасля атрымання адказу Міністэрства інфармацыі на запыт выканкама*". Сутнасць запыту выдаўцу не паведамілі.

***9 снежня*** старшыня Смаргонскага райвыканкаму Мечыслаў Гой адмовіў прадпрымальнікам Рамуальду Улану і Вользе Куняўскай ва ўзгадненні размяшчэння сродкаў масавай інфармацыі. Індывідуальнаму прадпрымальніку Вользе Куняўскай адмовілі ва ўзгадненні размяшчэння рэкламна-забаўляльнай газеты **"Афиша"** па адрасе: г. Сморгонь, вул. Танкістаў, д. 8. Прычынай адмовы названае размяшчэнне па гэтым адрасе іншых арганізацыйных структур грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый. Прычына адмовы ўзгадніць размяшчэнне па тым жа адрасе "Новой газеты Сморгони" у лісце, атрыманым Р. Уланам, не патлумачана.

***27 студзеня 2005 г.*** старшыня Смаргонскага райвыканкама М. Гой у адказ на чарговую заяву прадпрымальніка Р. Улана аб узгадненні размяшчэння "**Новой газеты Сморгони**", неабходным для перарэгістрацыіі выдання, паведаміў што гэта заява *"не ўносіцца на разгляд выканаўчага камітэта у сувязі з тым, што згодна з загадам Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь ад 14 студзеня 2005 г. №7 пасведчанне аб рэгістрацыі газеты "Новая газета Сморгони"... страціла сілу".*

# ПЕРАШКОДЫ Ў ВЫРАБЕ ПРАДУКЦЫІ СМІ

Паводле дадзеных Міністэрства інфармацыі, у Беларусі па стане на 1 снежня 2004 г. налічвалася 308 прадпрыемстваў, падраздзяленняў і ўчасткаў рознай формы ўласнасці, што ажыццяўляюць паліграфічную дзейнасць. З іх 46 падведамасныя Міністэрству інфармацыі, 38 падпарадкоўваюцца друкарням абласнога падпарадкавання, 2 знаходзяцца ў Гознака і адно – Беларускі Дом Друку -- належыць Адміністрацыі Прэзідэнта.

Асноўны аб'ём газетнай прадукцыі выпускаюць дзяржаўныя прадпрыемствы. Так, у 2003 г. 66,7 адсотка газетных накладаў было выпушчана Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам "Беларускі Дом Друку", 23 адсоткі – прадпрыемствамі сістэмы Мінінфарма і толькі 10,3 адсотка – іншымі паліграфічнымі прадпрыемствамі.

Усе друкарні працуюць на падставе ліцэнзіі, якую выдае Міністэрства інфармацыі.

Нягледзячы на дастатковую колькасць паліграфічных прадпрыемстваў, многія з якіх былі пераабсталяваныя цягам 1999 – 2003 г. г., некалькі выданняў («Белорусская деловая газета», «Салідарнасць», «День», «Навінкі», «Товарищ», «Местная газета», «Регион-вести») не могуць знайсці ў Беларусі друкарні для друкавання газет. Перыядычна рэдакцыям удавалася заключаць адпаведныя дамовы, аднак амаль адразу ж з нагоды "адсутнасці тэхнічных магчымасцяў" друкарні такія дамовы скасоўвалі. У прыватных размовах іх кіраўніцтва спасылалася на ўказанні "зверху". Шэраг газет прыпынілі выпуск, іншыя сталі друкавацца ў расійскіх друкарнях. Рэдакцыі газет «Товарищ» і «Местная газета» сутыкнуліся з гэтай праблемай ужо пасля выбараў і рэферэндуму, калі друкарні, што іх абслугоўвалі, у аднабаковым парадку скасоўвалі дамовы на аказанне паліграфічных паслуг.

Тыя выданні, якія друкуюцца ў Беларусі, сутыкаюцца са спробамі цэнзуры з боку друкарань (як дзяржаўных, гэтак і недзяржаўных). Маніторынгам зафіксаваны неаднаразовыя выпадкі ўціску на рэдакцыі з мэтай зняць з газетных палос тыя альбо іншыя матэрыялы.

***26 красавіка*** мінская недзяржаўная друкарня "Светач" скасавала дамову на друк гомельскай недзяржаўнай газеты **"Вольны час".** Да гэтага цягам тыдня "Вольны час" адмовіліся друкаваць рэчыцкае прадпрыемства "Тытул" і гомельская друкарня "Палесдрук".

У той час як дзве іншыя друкарні спасылаліся на вялікую загружанасць альбо на праблемы з абсталяваннем, ні генеральны дырэктар "Светача" Віталь Верчак, ні супрацоўнікі прадпрыемства не змаглі патлумачыць прычынаў раптоўнага скасавання дамовы, у выніку якога абодва бакі панеслі страты: рэдакцыя газеты пералічыла грошы на рахунак друкарні і закупіла паперу, а прадпрыемства, па інфармацыі У. Вербавікова, паспела надрукаваць каля паловы замоўленага накладу. Друкарня вярнула рэдакцыі калькі з арыгіналам-макетам нумару, папярэдне выразаўшы з іх свае рэквізіты.

***У сярэдзіне траўня*** мінская друкарня "Светач" адмовілася друкаваць **"Новую газету Сморгони".**

***З 28 траўня*** "Светач" скасавала дамову з рэдакцыяй недзяржаўнай ваўкавыскай **"Местной газеты".** У якасці прычыны "Светач" назвала фінансавую запазычанасць рэдакцыі.

26 траўня друкарня зняла з друку чарговы нумар выдання пасля адмовы галоўнага рэдактара замяніць адну з публікацый *(гл. таксама "Цэнзура. Парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый").* Друкарні ў Мінску, Баранавічах і Слоніме, у якія звярнуўся галоўны рэдактар "Местной газеты" Андрэй Шантаровіч пасля нязгоды "Светача" друкаваць выданне, адмовіліся супрацоўнічаць з рэдакцыяй.

"Светач" выпускаў "Местную газету" на працягу амаль года. Па словах галоўнага рэдактара, увесь гэты час разлікі з друкарняй вяліся з невялікім спазненнем, і ў апошні час нічога ў гэтым плане не змянілася.

У г. Маладзечна Мінскай вобл. па прычыне адмовы друкарні не выйшлі два нумары газеты **"Неделя в Молодечно**". Праблемы з друкам узніклі пасля публікацыі ў выданні матэрыяла аб эканамічным семінары для прадпрымальнікаў і кіраўнікоў дзяржпрадпрыемстваў, на які прыехалі экс-кіраўнік Нацбанка краіны Станіслаў Багданкевіч і кіраўнік цэнтра ""Стратегия" Леанід Заіка.

***8 верасня*** Лідская друкарня адмовілася прыняць у друк нумар рэгіянальнай масава-палітычнай газеты "Тэлескоп", аргументаваўшы сваю адмову тым, што выданне зарэгістравана ў Лідзе, а інфармацыя ў ёй тычыцца Смаргоні. Кіраўніцтва прадпрыемства адмовілася ўлічваць той аргумент, што гэтая газета - рэгіянальная і мае права на распаўсюд па ўсёй Гродзенскай вобласці. Газета павінна была распаўсюджвацца ў Смаргоні, Лідзе, Мастах.

***20 кастрычніка*** РУП "Выдавецтва "Беларускі дом друку" ў аднабаковым парадку скасавала дамову з рэдакцыяй газеты **"Товарищ"** (заснавальнік - Цэнтральны камітэт Партыі Камуністаў Беларускай). Генеральны дырэктар прадпрыемства Раман Алейнік у афіцыйным лісце патлумачыў, што выдавецтва "*па тэхнічных прычынах… не ў стане друкаваць малатыражныя газеты*". Галоўны рэдактар выдання Сяргей Вазняк, аспрэчваючы тэзу аб малатыражнасці выдання, зазначыў, што апошнія замовы ў друкарню былі на 30 тысяч асобнікаў замест ранейшых 3-7 тысяч. С. Вазняк упэўнены, што прычынай гэткіх дзеянняў стаў змест нумара: у ім планавалася размясціць тэкст "прамой лініі" лідэра ПКБ, былога кандыдата ў дэпутаты ПП НС Сяргея Калякіна з чытачамі па пытаннях выбараў і рэферэндума. Друкарня "Чырвоная зорка", куды рэдакцыя газеты звярнулася з прапановай друкаваць выданне, спаслалася на недапасаванасць да дзейнага тэхналагічнага графіку. Адмоваю адказалі і шэраг недзяржаўных друкарань. На прэс-канферэнцыі 28 кастрычніка С.Вазняк прадэманстраваў некалькі асобнікаў газеты, якая павінная была выйсці напярэдадні рэферэндуму, але не была надрукаваная быццам бы па прычыне няспраўнасці друкарскага станка. (Так нявыхад газеты патлумачылі ў друкарні "Беларускі дом друку"). У той жа час, па інфармацыі галоўнага рэдактара газеты "Товарищ", увесь 30-тысячны наклад перадрэферэндумнага нумару быў надрукаваны, а потым знішчаны. З гэтай нагоды рэдакцыя падрыхтавала ліст да Генеральнага пракурора з просьбай правесці расследаванне па пытанні нанясення дзяржаве ўрону ў буйным памеры.

***17 лістапада*** сталічная друкарня "Плутас-маркет" адмовілася друкаваць ваўкавыскую "**Местную газету**" -

першы яе нумар пасля прыпынення выдання Міністэрствам інфармацыі.

Па словах галоўнага рэдактара газеты Андрэя Шантаровіча, прадпрыемства надрукавала прыкладна 2,5 тысячы асобнікаў, але потым друк быў спынены па прычыне "запазычанасці рэдакцыі". Лёс надрукаваных асобнікаў рэдактару газеты невядомы.

У першым пасля вымушанага перапынку нумары газеты гаворка ішла пра галадоўку А. Шантаровіча і ваўкавыскага прадпрымальніка М. Аўтуховіча і пра вынікі парламенцкіх выбараў і рэферэндуму.

18 лістапада А. Шантаровіч атрымаў пісьмовае паведамленне ад кіраўніцтва друкарні «Плутас-маркет» аб тым, што друкарня скасоўвае з рэдакцыяй выдання дамову на друк газэты. Шэраг беларускіх друкарань, куды рэдакцыя звярнулася з прапановай падпісаць дамову на выпуск выдання, адказалі адмоваю.

1 снежня чарговы нумар "Местной газеты" выйшаў у Смаленску (Расія).

# ПЕРАШКОДЫ Ў РАСПАЎСЮДЗЕ ПРАДУКЦЫІ СМІ

Права на распаўсюд поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі гарантавана артыкулам 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Згодна з артыкулам 25 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" перашкоды распаўсюду прадукцыі сродка масавай інфармацыі, які ажыццяўляецца на законных падставах, не дапускаюцца інакш як на падставе рашэння суда, што ўступіла ў законную сілу. А арт. 48 гэтага закона называе стварэнне перашкодаў дзейнасці распаўсюднікаў СМІ замахам на свабоду масавай інфармацыі.

Тым не менш, у 2004 г. фіксаваліся шматлікія перашкоды ў распаўсюдзе друкаваных выданняў, прычым не толькі пры іх продажы ці раздачы, але і пры распаўсюдзе па падпісцы.

З 1 траўня 2004 г. падпіска на СМІ была аб'яўлена ліцэнзаваным відам дзейнасці. Міністэрства сувязі (пазней перайменаванае ў Міністэрства сувязі і інфарматызацыі) заявіла, што нават рэдакцыі СМІ павінны атрымліваць ліцэнзіі для правядзення падпіскі і дастаўкі ўласных выданняў падпісчыкам. Пры гэтым яно спасылалася на закон «Аб паштовай сувязі», які далучыў падпіску на друкаваныя СМІ і іх дастаўку да паслугаў паштовай сувязі (*гл. таксама "Змены ў заканадаўстве"*).

У тэрмін, адведзены для звароту па ліцэнзіі, у Мінсувязі звярнуліся 35 суб'ектаў гаспадарання. Большасці недзяржаўных арганізацый у выдачы ліцэнзій было адмоўлена. Так, у чэрвені адмовы атрымалі ТАА "Выдавецкі дом "Intex-press", рэдакцыі газет "Белорусская деловая газета", "Газета Слонімская", "Брестский курьер". Прычынай адмовы ў большасці выпадкаў называлася адсутнасць тэхнічнай базы, якая дазволіла б ажыццяўляць дастаўку друкаваных выданняў (нягледзячы на тое, што да ўвядзення ліцэнзавання рэдакцыі цалкам забяспечвалі выкананне ўсіх сваіх абавязальніцтваў перад падпісчыкамі). Таксама не атрымалі ліцэнзіі на падпіску і дастаўку перыядычных выданняў два буйных недяржаўных агенцтвы. Такім чынам, правядзенне падпіскі рэдакцыямі недзяржаўных СМІ ў перадвыбарны перыяд было сарвана.

На фоне ўвядзення ліцэнзавання дзейнасці па падпісцы на СМІ і адмовы Міністэрства сувязі і інфарматызацыі выдаць адпаведныя ліцынзіі шэрагу недзяржаўных выданняў ствараліся перашкоды і ў рэалізацыі друкаваных СМІ ў раздробным гандлі.

На працягу 2004 г. рэдакцыі ўвесь час сутыкаліся з мноствам бюракратычных перашкодаў, а кантрагенты рэдакцый, якія рэалізоўвалі газеты, - з адміністратыўным уціскам. Нярэдкімі былі выпадкі, калі ў кіёсках "Белсаюздруку" альбо ўвогуле не выкладвалі незалежную прэсу, альбо размяшчалі яе ў "дальніх кутках". У практыку многіх дзяржаўных арганізацый увайшло адкрытае парушэнне дамоўнай дысцыпліны. Напрыклад, Ганцавіцкае і Пінскае аддзяленні "Брэстаблсаюздруку" неаднаразова парушалі дамовы па рэалізацыі газет ТАА "Выдавецкі дом "Интекс-пресс". Ганцавіцкае аддзяленне без усялякага папярэджання ў аднабаковым парадку скасавала дамову на рэалізацыю газеты "Ганцавіцкі час", а Пінскае - адмаўлялася браць на рэалізацыю газету "Мясцовы час". У ліпені 2004 года дырэктар ТАА "Выдавецкі дом "Интекс-пресс" Уладзімір Янукевіч звярнуўся ў Міністэрства эканомікі з

просьбай зрабіць захады ў дачыненні да УП “Брэстаблсаюздрук”, якое займае дамінуючае становішча на рынку, звязаным з рознічным распаўсюдам перыядычнага друку, і падпадае пад дзеянне антыманапольнага заканадаўства. (Закон “Аб супрацьдзеянні манапалістычнай дзейнасці і развіцці канкурэнцыі” (арт. 5) забраняе дзеянні суб’екта гаспадарання, што займае дамінуючае становішча, якія ў той ці іншай форме амбяжоўваюць канкурэнцыю, доступ на таварны рынак). Амаль праз тры месяцы пасля звароту Міністэрства эканомікі паведаміла аб выключэнні УП “Брэстаблсаюздрук” з рэестру суб’ектаў гаспадарання, якія займаюць дамінуючае становішча на таварным рынку.

З праблемамі сутыкаліся і тыя рэдакцыі, якія рэалізоўвалі свае выданні з дапамогай індывідуальных прадпрымальнікаў ці праз сістэму ўласных распаўсюджвальнікаў. Так, Індывідуальнаму прадпрымальніку Андрэю Шантаровічу, выдаўцу і распаўсюджвальніку “Местной газеты”, Смаргонскі выканкам без усялякіх абгрунтаванняў адмовіў у выдачы ліцэнзіі на раздробны гандаль. А. Шантаровіч быў вымушаны адмовіцца ад уласнага распаўсюду і заключыць дамову на рэалізацыю газеты з іншымі прадпрымальнікамі.

На працягу 2004 г., і асабліва падчас правядзення выбараў і рэферэндуму, праваахоўныя органы паўсюдна затрымлівалі распаўсюджвальнікаў зарэгістраваных і незарэгістраваных выданняў (у адпаведнасці з арт. 1 Закона аб друку, не патрабуецца рэгістрацыі перыядычных друкаваных выданняў, якія распаўсюджваюцца накладам не больш за 300 асобнікаў) і забіралі наклады газет ці ўлётак.

У адпаведнасці з артыкулам 25 Закона аб друку, канфіскацыя накладу зарэгістраванага сродка масавай інфармацыі не дапускаецца інакш як на падставе рашэння суда, якое ўступіла ў сілу. Тым не менш, 26 траўня гэтага года адміністратыўная камісія Ленінскага раёна г. Гродна (орган выканаўчай улады) пастанавіла канфіскаваць 4800 асобнікаў № 11 газеты “День”, якія забралі ў перавозчыка супрацоўнікі Іўеўскай міліцыі. Рэдактар газеты Мікола Маркевіч быў аштрафаваны за “незаконны распаўсюд друкаванага выдання (ч.3 арт. 172 КаАП) на 19 тысяч рублёў. Яўна незаконнае рашэнне адміністратыўнай камісіі было абскарджана ў суд Ленінскага раёна г. Гродна, але 28 чэрвеня той пакінуў яго ў сіле. Гэтае рашэнне было пацверджана і абласным судом.

Згодна з маніторынгам парушэння правоў чалавека “Хартыі-97” (**http://www.charter97.org/rus/news/2005/02/08/monitoring**), у 2004 г. у Беларусі было зафіксавана больш за 600 выпадкаў арыштаў і затрыманняў за распаўсюд друкаваных выданняў. Як правіла, яны прыцягваліся да адказнасці па артыкулах 172 ч. 3 і 172-1 ч. 8 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях.

Артыкул 172 ч.3 КоАП вызначае адказнасць за распаўсюд друкаваных выданняў, выробленых з парушэннем устаноўленага парадку, якія не маюць выходных дадзеных, змест якіх накіраваны на нанясенне ўрону дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян (папярэджанне альбо штраф у памеры да 5 базавых адзінак з канфіскацыяй гэтых выданняў). У адпаведнасці з законам, для прыцягнення да адказнасці па арт. 172 ч.3 КоАП неабходная ***адначасовая наяўнасць*** наступных умоваў:

1) гэтая асоба займалася распаўсюдам друкаваных выданняў;

2) дадзеныя друкаваныя выданні былі выраблены з парушэннем устаноўленага парадку;

3) дадзеныя выданні не мелі (увогуле) выходных дадзеных;

4) змест гэтых выданняў быў накіраваны на ненясенне ўрону дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян;

5) дадзеныя друкаваныя выданні не з’яўляліся сродкамі масавай інфармацыі (паколькі адказнасць за парушэнне заканадаўства аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі, у тым ліку за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі, устаноўлена артыкулам 172-1 КоАП).

Артыкул 172 -1 ч. 8 прадугледжвае пакаранне за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (штраф для грамадзян – да 10 базавых велічынь, а для службовых асоб – ад 10 да 50 базавых велічынь). Канструкцыя гэтага артыкулу дазваляе сцвярджаць, што для пакарання каго-небудзь неабходна, каб ён меў непасрэднае дачыненне і да незаконнага вырабу, і да распаўсюду прадукцыі СМІ.

Але практыка ўжывання гэтых артыкулаў КоАП сведчыць, што правапрымяняльнікі далёка не заўсёды прытрымліваюцца літары закона. У 2004 г. суды і адміністратыўныя камісіі сваімі пастановамі аб прыцягненні да адказнасці, як правіла, дублявалі пратаколы аб адміністратыўных правапарушэннях, складзеныя работнікамі міліцыі. Гэта адбывалася, нягледзячы на тое, што Камітэт ААН па правах чалавека некалькімі сваімі рашэннямі прызнаў такую практыку парушэннем абавязальніцтваў Рэспублікі Беларусь у галіне свабоды выказвання.

***15 студзеня*** ў Смаргоні супрацоўнікі падаткавай інспекцыі затрымалі траіх распаўсюднікаў "**Местной газеты**"; а 16 - яшчэ аднаго. У смаргонскім выпуску выдання змяшчаліся матэрыялы журналістаў прыпыненай "Новой газеты Сморгони".

На распаўсюднікаў былі складзеныя пратаколы за гандаль без ліцэнзіі, газеты і грошы ад яе продажу былі забраныя. Падаткавыя інспектары спасылаліся на рашэнне Смаргонскага райвыканкама ад 18 снежня, які ўвёў новыя правілы раздробнага гандлю і быццам бы выключыў з асартыментнага пераліку тавараў друкаваныя выданні.

Між тым, 15 студзеня рэдакцыя "Местной газеты" атрымала ад райвыканкаму ўзгодненый асартыментны пералік тавараў для дробнага гандлю, у якім згадваліся сярод іншага і газеты. Распаўсюднікі выдання, па словах заснавальніка "Новой газеты Сморгони" Рамуальда Улана, мелі адпаведныя ліцэнзіі.

***16 студзеня*** ў Светлагорску выйшаў апошні нумар недзяржаўнай газеты "**Регион-вести**". Гэта быў чацвёрты запар нумар выдання, які прапаноўваў сваім чытачам толькі расклад тэлевізійных праграм.

Па словах галоўнага рэдактара "Регион-вестей" Міколы Паседзькі, рэдакцыя была змушана друкаваць выключна праграму тэлеперадач, бо светлагорскі райвыканкам забараніў кіраўніцтву друкарні прымаць у вытворчасць усе іншыя інфармацыйныя матэрыялы пад шапкай "Регион-вести". Першы намеснік старшыні Светлагорскага райвыканкама Яўген Ждановіч катэгарычна зняпраўдзіў гэтую інфармацыю, заявіўшы, што райвыканкам "*такімі справамі не займаецца*".

Але нават у выглядзе тэлепраграмы выданне не трапіла да падпісчыкаў: светлагорскае

аддзяленне "Гомельаблпошты" паведаміла рэдакцыі пра скасаванне дамовы на распаўсюд газеты (з пачатку 2004 года "Регион-вести" распаўсюджваліся толькі сярод падпісчыкаў).

***21 студзеня*** стала вядома, што з Мінскай пошты знік наклад часопіса "**Асамблея"**, заснавальнікам якога выступае выканаўчае бюро незарэгістраванай Асамблеі няўрадавых арганізацый. У гутарцы з адпраўшчыкамі часопіса супрацоўнікі Галоўпаштамту паведамілі, што да гэтага мае дачыненне пракуратура.

Часопіс “Асамблея” рассылаўся грамадскім аб'яднанням у запячатаных канвертах ад імя фізічных асобаў. З пошты “знік” тэматычны нумар часопіса "НДА і выбары", падрыхтаваны для рассылкі 10 студзеня. У нумары былі змешчаныя аналітычныя матэр’ялы, прысвечаныя магчымаму ўдзелу грамадскіх аб'яднанняў у будучай выбарчай кампаніі ў Палату прадстаўнікоў, а таксама спіс прозвішчаў суддзяў, пракурорскіх работнікаў і спецыялістаў органаў юстыцыі, якія мелі дачыненне да ліквідацыі шэрагу няўрадавых арганізацый Беларусі. Юрысты Асамблеі заявілі аб парушэнні таямніцы прыватнай перапіскі.

***28 студзеня*** пасля паўгадовага перапынку выйшла газета "**День**". У гэты ж дзень Таварыства з абмежаванай адказнасцю "Росчырк", з якім рэдакцыя падпісала дамову аб экспедыяванні газеты па Беларусі, адмовілася ад супрацоўніцтва з выданнем.

30 студзеня газету адмовілася прадаваць дзяржаўнае прадпрыемства "Гроднааблсаюздрук" -- адзінае, з якім рэдакцыя здолела заключыць адпаведнае пагадненне. Скасоўваючы дамову, дырэктар УП “Гроднаабласаюздук” Т. М. Валчкевіч спаслалася на загад Міністэрства інфармацыі ад 10 студзеня аб цэнтралізаваным заключэнні дамоваў праз УП "Белсаюздрук".

***Напрыканцы студзеня*** ў Баранавічах адміністрацыя крамы "Алеся" скасавала дамову арэнды з індывідуальным прадпрымальнікам Сяргеем Яршом, які, сярод іншага, прадаваў мясцовыя газеты “Intex-press”, “Шаг”, “Алло”. Адміністрацыя крамы не растлумачыла прычыны скасавання дамовы, а таксама не пагадзілася дазволіць продаж недзяржаўных газет, калі з адпаведнай прапановай звярнуўся аддзел маркетынгу выдавецкага дома "Інтэкс-прэс".

***У лютым*** мясцовыя ўлады ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях пачалі збіраць звесткі пра распаўсюднікаў рэгіянальных газет. Некалькі недзяржаўных выданняў атрымалі з райвыканкамаў запыты "аб прадастаўленні звестак" пра юрыдычныя асобы і прыватных прадпрымальнікаў, якія займаюцца распаўсюдам друкаваных выданняў, іх адрасы і рэквізіты дакументаў, якія дазваляюць ажыццяўляць гандаль друкаванай прадукцыяй.

У прыватнасці, гэткія запыты атрымалі рэдакцыі газет "Ляхавіцкі час" і "Intex-press" (Баранавічы) і "Местная газета" (Ваўкавыск). Ляхавіцкі і Ваўкавыскі райвыканкамы спасламіся на загады з аблвыканкамаў, якія прадпісвалі сабраць гэтыя звесткі да 1 сакавіка. У лістах таксама ўтрымлівалася спасылка на прэзідэнцкі ўказ №516 ад 24 верасня 2001 г.. Між тым, у адпаведным пункце указа гаворка ішла толькі пра тое, што "*на Міністэрства інфармацыі РБ ускладзена дзяржаўнае рэгуляванне ў галіне перадачы і распаўсюду інфармацыі*". Намеснік старшыні

Ляхавіцкага райвыканкама Мікалай Куліцкі запэўніў, што запыт тычыцца не толькі недзяржаўных, але і дзяржаўных выданняў (у прыватнасці, газеты "Ляхавіцкі веснік").

***З 20 сакавіка*** баранавіцкае Таварыства з дадатковай адказнасцю "Южанка" ў аднабаковым парадку скасавала дамову на продаж недзяржаўнай газеты **"Intex-press"**. У якасці абгрунтавання свайго рашэння дырэктар гандлёвага прадпрыемства А. Н. Казлова назвала падпісанне дамовы з УП "Белаблсаюздрук" "*на пастаўку і рэалізацыю насельніцтву беларускіх вядучых дзяржаўных газет і часопісаў*".

Паведамленне аб скасаванні дамовы падпісанае 18 сакавіка, рэдакцыя "Intex-press" атрымала яго 22 сакавіка.

Увечары ***7 красавіка*** пост ДАІ каля Іўя (Гродзенская вобл.) затрымаў наклад недзяржаўнай газеты **"День"**, які перавозілі ў Гродна са Смаленскай друкарні. Як паведаміў дзяжурны Іўеўскага РАУС Нехвядовіч, падставай для затрымання стала тое, што "*ўсе суправаджальныя дакументы выклікаюць сумненні ў іх сапраўднасці*". Рэдактар "Дня" Мікола Маркевіч сцвярджаў, што дакументы былі афармленыя належным чынам і зарэгістраваныя ў адпаведных дзяржаўных органах. За тыдзень да здарэння наклад папярэдняга нумара "Дня" быў затрыманы на тым самым Іўеўскім посце ДАІ, але пасля кароткага разбіральніцтва машыну з накладам адпусцілі.

26 траўня адміністратыўная камісія Ленінскага р-на г. Гродна аштрафавала М. Маркевіча за "распаўсюд друкаванага выдання, якое выраблена з парушэннем устаноўленага парадку і не мае выпускных дадзеных, змест якога накіраваны на прычыненне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму парадку" (ч. 3 арт. 172 КаАП) на 19 тыс. руб. і пастанавіла сканфіскаваць 4800 асобнікаў № 11 газеты "День". М. Маркевіч абскардзіў пастанову адміністратыўнай камісіі ў суд.

28 чэрвеня суд Ленінскага р-на г. Гродна (суддзя Ганна Чылека) пакінуў гэтую пастанову адміністрацыйнай камісіі без зменаў (*гл. таксама "Найбольш значныя судовыя працэссы з удзелам СМІ і журналістаў"*).

***27 красавіка*** гандлёвае РУП "Брэстаблсаюздрук" адмовілася папісаць дамову на продаж газеты **"Кабельное телевидение"** ў сувязі з "*перагружанасцю гандлёвых плошчаў*".

***З 1 траўня*** г. г. падпіска і дастаўка друкаваных СМІ аб'яўленыя ліцэнзаваным відам дзейнасці.

Увечары ***14 траўня*** ў Магілёве непадалёк ад цэнтра горада быў затрыманы кіраўнік мясцовай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Шанцаў, які бясплатна раздаваў мінакам недзяржаўную газету "**Время**". Праз 2 гадзіны пасля затрымання У. Шанцава адпусцілі, не склаўшы пратаколу, але забраўшы больш як паўтары сотні асобнікаў газеты "Время".

***2 чэрвеня*** калегія Міністэрства сувязі і інфарматызацыі адмовілася выдаць шэрагу прыватных прадпрыемстваў ліцэнзію на правядзенне падпіскі і дастаўкі друкаваных выданняў. У якасці прычыны ў большасці выпадкаў міністэрства назвала адсутнасць "тэхнічнай базы" для аператыўнай дастаўкі выданняў. Дзеянні міністэрства наўпрост падтрымалі манаполію "Белпошты", якая

ўваходзіць у структуру Міністэрства сувязі і інфарматызацыі і ўжо некалькі год як унесена ў Дзяржаўны рэестр гаспадарчых суб'ектаў, якія займаюць дамінуючае становішча на таварных рынках Рэспублікі Беларусь.

Сярод прыватных суб'ектаў гаспадарання, якія не атрымалі ліцэнзіі на падпіску і дастаўку прэсы, апынуліся: "Выдавецкі дом "Intex-press", УП "Марат" (рэдакцыя "Белорусской деловой газеты"), агенцтва "Медиа-пресс" ды інш. Усяго Міністэрства сувязі і інфарматызацыі разгледзела 35 заяваў на атрыманне ліцэнзій. Міністэрства адмовіла амаль усім заяўнікам недзяржаўнай формы ўласнасці, што збіраліся распаўсюджваць грамадска-палітычныя выданні. У дачыненні да некалькіх рэдакцый рашэнне не было прынятае.

***У чэрвені*** Міністэрства інфармацыі адмовілася рабіць захады ў дачыненні да Пінскага аддзялення Брэстаблсаюздруку, якое цягам 10 месяцаў адмаўлялася падпісваць дамову з Выдавецкім домам "Інтэкс-прэс" на дробны продаж газеты "**Мясцовы час**", спасылаючыся на "*перагружанасць гандлёвай сеткі*".

На скаргу выдаўца газеты ў Міністэрства інфармацыі, у структуру якога ўваходзіць "Белсаюздрук", намеснік міністра С. Булацкі адказаў, што міністэрства не можа змусіць суб'ект гаспадарання да падпісання дамоваў, "*за выключэннем выпадкаў, калі абавязак заключаць дамову прадугледжаны заканадаўствам альбо дабраахвотна прынятым абавязацельствам*".

***15 ліпеня*** падатковая інспекцыя Смаргонскага раёна правяла праверку дзейнасці распаўсюднікаў **“Новой газеты Сморгони”**, якая 20 траўня аднавіла свой выхад пасля прыпынення. На аднаго з іх – Ларысу Растову – інспектары склалі акт аб продажы газет у недазволеным месцы. Паколькі Л.Растова працавала на падставе дамовы падраду з Вольгай Куняўскай, інспектар падаткавай службы А.Радзевіч склаў у адносінах апошняй пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні і накіраваў яго ў суд.

13 жніўня суддзя Смаргонскага раёна Аляксандр Дзямешчык пасля трохдзённага разбіральніцтва вынес рашэнне на карысць распаўсюднікаў выдання і спыніў справу аб адміністратыўным правапарушэнні ў адносінах да індывідуальнага прадпрымальніка Вольгі Куняўскай у сувязі з адсутнасцю склада правапарушэння.

В. Куняўская займалася распаўсюдам «Новой газеты Сморгони» па дамове з заснавальнікам і выдаўцом газеты Рамуальдам Уланам.

***12 жніўня*** супрацоўнікі ДАІ Жлобінскага раёна забралі ў намесніка старшыні Гомельскай абласной арганізацыі Аб’яднанай грамадзянскай партыі Уладзіміра Кацоры 1073 асобнікі недзяржаўнай газеты “**Время**” і 5 асобнікаў расійскай “**Новой газеты**”. Акрамя таго, былі забраныя 15 пакункаў улётак з праграмай кааліцыі “Пяцёрка +” – “Пяць крокаў да лепшага жыцця”.

У. Кацору, які на сваім аўтамабілі ехаў з Мінска ў Гомель, затрымалі на пасту ДАІ ў в.Лебедзеўка Жлобінскага раёна прыблізна ў 19 гадзін. Заявіўшы, што машына У. Кацоры знаходзіцца ў вышуку па справе аб угоне, супрацоўнікі ДАІ адвезлі яго ў раённы аддзел міліцыі, дзе абшукалі аўтамабіль і афармілі выняццё друкаваных выданняў. Адпаведныя пратаколы склаў старшы оперупаўнаважаны крымінальнага

вышуку капітан міліцыі Уладзімір Зарэцкі.

31 жніўня суд Жлобінскага раёну даручыў мясцовай міліцыі праверыць паходжанне газеты “Время”. Перавозку ўлётак суддзя Алена Ярмольчык палічыла дзейнасцю ад імя незарэгістраванай палітычнай партыі ці грамадзкай арганізацыі і аштрафавала У. Кацору на 585 тысяч рублёў (каля 270 даляраў ЗША). Улёткі суддзя пастанавіла знішчыць.

Некалькі буйных мінскіх крамаў адмовіліся прадаваць недзяржаўныя выданні, у тым ліку "Белорусский рынок", "Белорусскую деловую газету" і "Белорусскую газету". "Белорусская газета" сутыкнулася з гэтай праблемай ***23 жніўня***. Як паведаміў выканаўчы дырэктар “Белорусской газеты” Віктар Бандарэнка, гандлёвыя прадпрыемствы "Preston-market" і универсам "Нацыянальны" ў аднабаковым парадку разарвалі дамовы з рэдакцыяй без аніякіх папярэджанняў. Паводле яго словаў, кіраўніцтва крамаў не хавае, што адпаведане ўказанне яны атрымалі ад Мінгарвыканкама.

Гэта пацвярджае і «Белорусская деловая газета». Крыніцы выдання паведамляюць, што кіраўнікоў буйных сталічных крамаў выклікалі ў Мінгарвыканкам на сустрэчу з першым намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Уладзімірам Міргалоўскім. Сам У. Міргалоўскі адмовіўся пацвердзіць гэтую інфармацыю карэспандэнту “БДГ” і заявіў, што “*да газет ніякага дачынення не мае*”.

***29 жніўня*** на кірмашы ў Воршы міліцыя затрымала заснавальніка і рэдактара газеты “**Время**” Генадзя Ананьева, які раздаваў гэтае выданне мінакам. Затрыманне Ананьева працягвалася каля гадзіны. У Шаркаўшчыне (Віцебская вобл.) быў затрыманы сябра АГП Валерый Каралёў, які на мясцовым кірмашы распаўсюджваў газеты “**Згода”, “Новы час”, “Тут і цяпер**” і ўлёткі передвыбарчай кааліцыі “Пяцёрка +”. В.Каралёў правёў у Шаркаўшчынскім аддзяленні міліцыі каля дзвюх гадзін. Нічога незаконнага ў дзейнасці Г.Анаьева і В.Каралева супрацоўнікі міліцыі не знайшлі.

***28 верасня*** супрацоўнікі міліцыі гарадскога пасёлка Воранава (Гродзенская вобл.) склалі пратакол на пенсіянера Юзафа Кірвеля па абвінавачанні ў распаўсюдзе газеты “**Тут і цяпер**”.

Участковы міліцыянер Андрэй Лапян паведаміў ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», што затрымаў Юзафа Кірвеля па просьбе супрацоўнікаў КДБ: «*Па іх словах, грамадзянін Кірвель распаўсюджваў на рынку ўлёткі*». У пастарунку пенсіянера пратрымалі каля дзвюх гадзін. Міліцыянты прагледзелі газету і сказалі яму, што “Тут і цяпер” выдаецца незаконна і мае несапраўдныя выходныя дадзеныя. Міліцыянты патрабавалі ад пенсіянера даць тлумачэнні, дзе і ад каго ён атрымаў газету.

***У кастрычніку*** ў горадзе Горкі ў актывіста выбарчага штабу кандыдата ў дэпутаты Андрэя Юркова, журналіста Эдуарда Брокарава забралі больш за 500 асобнікаў дэмакратычных выданняў, большую частку якіх складалі газеты “**Тут і цяпер**” і “**Згода**”. Э. Брокараў атрымаў ад кіроўцы аўтобуса, які прыбыў з Мінску, пакунак з газетамі. Да яго падышлі міліцыянт і невядомы чалавек у цывільным, якія запатрабавалі праехаць у аддзяленне міліцыі.

У пастарунку яны прагледзелі газеты і забралі большую частку

асобнікаў. На Э. Брокарава склалі пратакол, пратрымаўшы ў міліцыі дзве з паловай гадзіны.

***12 кастрычніка*** супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі забралі звыш 300 асобнікаў газеты “**Неделя**” і каля 7 тысяч улётак “Скажи Лукашенко “нет!”, правёўшы ператрус у аўтамабілі Артура Цурбакова, даверанай асобы гомельскага кандыдата ў дэпутаты ад АГП Алеся Карняенкі. Машыну, у якой ехалі яшчэ дзьве даверанымя асобы названага кандыдата - Сяргей Сямёнаў і Раман Алянік - спынілі на ўездзе ў горад Добруш. Усіх траіх адвялі ў раённы аддзел міліцыі. А. Цурбакова звінавацілі распаўсюдзе друкаванай прадукцыі без выходных дадзеных. Пасля гэтага яго прывезлі ў раённы суд, дзе аштрафавалі на 5 базавых велічынь – 97,5 тысяч рублёў.

У дзень выбараў, ***17 кастрычніка,*** у Беларусі быў заблакаваны шэраг інтэрнэт-сайтаў. Сярод "заблакаваных" апынуліся web-старонкі "Хартыі-97", Радыё "Свабода", Аб'яднанай грамадзянскай партыі, праваабарончага цэнтру "Вясна", грамадзянскай ініцыятывы “Партнерства”. Раніцай названыя інтэрнет-рэсурсы працавалі ў звычайным рэжыме, аднак пасля 12-й гадзіны старонкі перасталі "грузіцца". Аналагічная сытуацыя назіралася ў Беларусі 9 верасня 2001 года – падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў.

Шэраг сталічных кніжных крамаў адмовіліся прадаваць беларускі культуралагічны часопіс **“ARCHE”**. Гэтую інфармацыю паведаміў ***28 кастрычніка*** на прэс-канферэнцыі, зладжанай ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, галоўны рэдактар часопіса Валерка Булгакаў. Адміністрацыя некаторых крамаў запатрабавала, каб рэдакцыя забрала ў іх таксама ўсе папярэднія нумары часопіса. В. Булгакаў зазначыў, што праблемы з распаўсюдам выдання ўзніклі пасля выхаду нумара, прысвечанага 10-годдзю кіравання А. Лукашэнкі (№4 за 2004 г.). З 2 снежня распаўсюд літаратурна-мастацкага часопіса "ARCHE" спыніла Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства “Белсаюздрук”.

***18 лістапада*** Хойніцкі суд прызнаў вінаватымі ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (арт. 172-1 ч. 8 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях) сябраў Аб’яднанай грамадзянскай партыі Мікалая Ісачэнку і Леаніда Судаленку. Сродкамі масавай інфармацыі суд палічыў улёткі, якія ўяўлялі сабой ксеракопіі газеты “**Народная воля**”, брашуры “Паважаныя землякі” і “Пяць крокаў да лепшага жыцця”. У іх утрымліваўся заклік галасаваць супраць пытання, вынесенага А.Лукашэнкам на рэферэндум.

Актывісты АГП распаўсюджвалі гэтыя ўлёткі 10 кастрычніка. На падставе міліцэйскіх рапартаў кіраўнік справамі Хойніцкагага райвыканкама Фёдар Гвоздеў, як упаўнаважаная раённым Саветам службовая асоба, склаў пратаколы аб адміністратыўным правапарушэнні.

Старшыня Хойніцкага суда Людміла Дзямбоўская аштрафавала А. Ісачэнку на 5 базавых велічынь (120 тысяч руб., альбо 55 долараў США), а суддзя Міхаіл Гарашчанка - Л. Судаленку на 6 базавых велічынь (144 тысячы руб., альбо 66 долараў США).

Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства «**Варяг**» (уладальнік пінскіх тэлеканалу і FM-станцыі «**Свое радио**») атрымала распараджэнне Пінскага гарвыканкама дэмантажаваць свой перадатчык. Гарвыканкам спасылаўся на скаргі жыхароў дома, на даху якога знаходзіцца абсталяванне, якое, нібыта негатыўна ўплывае на іх здароўе.

Кіраўніцтва прадпрыемства “Варяг" аспрэчыла тэзу аб шкодзе здароўю, спаслаўшыся на заключэнні Рэспубліканскага цэнтру гігіены, эпідэміалогіі і грамадскага здароўя, Беларускага навукова-даследчага санітарна-гігіенічнага інстытута. На абарону тэлеканалу "Варяг" і радыёстанцыі "Свое радио" выступілі і жыхары Пінска, якія пачалі збор подпісаў. На ***19 лістапада*** яны сабралі больш за 3 тысячы подпісаў.

Негледзячы на гэта, Пінскі гарвыканкам звярнуўся у суд з зыскам аб прызнанні дамовы на арэнду памяшкання, займанага тэлерадыёкампаніяй “Варяг”, несапраўднай.

7 снежня Брэсцкі абласны гаспадарчы суд адхіліў гэты зыск гарвыканкама. Дамова аб арэндзе памяшкання, якое займае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства “Варяг”, прызнаная падоўжанай да 1 траўня 2005 года. Да гэтага ж часу перадатчык, з дапамогай якога распаўсюджваецца сігнал “Свайго радыё” і тэлесігнал, застанецца на даху дома № 6 па вуліцы Карасёва ў Пінску.

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ СУДОВЫЯ ПРАЦЭСЫ З УДЗЕЛАМ СМІ

## Вышэйшы гаспадарчы суд адхіляе зыскі “БДГ”

***10 лютага*** Вышэйшы гаспадарчы суд (суддзя Людміла Калеснікава) адхіліў зыск Унітарнага прадпрыемства “Марат” (рэдакцыя "Белорусской деловой газеты") да Міністэрства інфармацыі аб прызнанні несапраўдным папярэджання ад 16 снежня 2003 г.

Падставай для папярэджання стаў артыкул "Было ваше - стало наше", апублікаваны ў "БДГ" 21 траўня 2003 г.; у прыватнасці, звесткі пра тое, што некалькі буйных магілёўскіх чыноўнікаў падазраюцца ў наўмысным узбуджэнні працэдуры банкруцтва Машынабудаўнічага завода. Міністэрства інфармацыі спасылалася на тое, што згаданыя ў артыкуле асобы не маюць афіцыйнага статусу "падазраваных" у адпаведнасці з Крымінальна-працэсуальным кодэксам. Акрамя гэтага, на думку міністэрства, у публікацыі была дадзена няправільная ацэнка фінансавага стану Магілёўскага машынабудаўнічага заводу. Тым самым рэдакцыя распаўсюдзіла не адпаведныя рэчаіснасці звесткі, чым парушыла патрабаванні арт. 32 Закона аб друку.

Між тым, інфармацыя пра фінансавы стан магілёўскага завода была распаўсюджана ў афіцыйным прэс-рэлізе Камітэта дзяржаўнага кантролю і змешчана ў "БДГ" без зменаў.

***19 лютага*** Выйшэйшы гаспадарчы суд адмовіў рэдакцыі "Белорусской деловой газеты" ў зыску да Міністэрства інфармацыі аб прызнанні несапраўдным папярэджання, вынесенага газеце 26-га снежня 2003 года. Падставай для вынясення папярэджання сталі тры артыкулы журналіста Сяргея Сацука: "Ушёл через окно. Серийный маньяк разрушил миф о неприступности "американки" ("БДГ" ад 24 верасня 2003 г. № 82), "Один против всех" ("БДГ" ад 1 кастрычніка 2003 г. № 84) і "Покушение, которого не было" ("БДГ" ад 12 лістапада № 96). Міністэрства палічыла, што ў згаданых публікацыях былі

распаўсюджаныя "не адпаведныя рэчаіснасці звесткі", што з'яўляецца парушэннем арт. 32 Закона аб друку. Вынясенне папярэджання было ініцыявана Камітэтам дзяржаўнай бяспекі. У рэдакцыю з патрабаваннем абвяржэння КДБ не звяртаўся.

***23 сакавіка*** Вышэйшы гаспадарчы суд адхіліў чарговы зыск рэдакцыі "БДГ" да Міністэрства інфармацыі. Рэдакцыя спрабавала аспрэчыць папярэджанне ад 30 студзеня.

Падставай для вынясення папярэджання стаў артыкул Ірыны Макавецкай "Виконт" не вписался в белорусскую действительность", які з'явіўся ў №104 "БДГ" 10 снежня 2003 г. Міністэрства інфармацыі палічыла, што журналістка парушыла арт. 5 Закона аб друку, апублікаваўшы без пісьмовага дазволу суддзі матэрыялы судовай справы, не завершанай вытворчасцю.

13 лютага за публікацыю "Виконт" не вписался в белорусскую действительность" І. Макавецкай вынесла папярэджанне пракуратура Гомельскай вобласці.

***23 ліпеня*** Вышэйшы гаспадарчы суд (суддзя Аркадый Сусла) адхіліў зыск УП “Марат” (рэдакцыя "Белорусской деловой газеты") аб прызнанні несапраўдным рашэння Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларувь аб адмове выдаць прадпрыемству ліцэнзію на падпіску і дастаўку перыядычных выданняў.

## Судовыя справы ў звязку з рэгістрацыяй СМІ

***10 студзеня*** Вышэйшы гаспадарчы суд задаволіў зыск крычаўскага прадпрымальніка Уладзіміра Кудраўцава да крычаўскага райвыканкама аб прызнанні несапраўднай адмовы ў размяшчэнні яго выдання "Собственный комментарий". Суд таксама вынес “вызначэнне" у адрас Магілёўскага аблвыканкама, які раней прызнаў дзеянні крычаўскіх уладаў законнымі. У сакавіку 2003 г. У. Кудраўцаў атрымаў пасведчанне прыватнага прадпрымальніка, асноўным відам дзейнасці якога было ўказана выданне газет. У чэрвені 2003 г. ён звярнуўся да Крычаўскага райвыканкама з заявай аб узгадненні размяшчэння газеты "Собственный комментарий" (гэткае ўзгадненне, у адпаведнасці з артыкулам 10 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", патрабуецца для рэгістрацыі мас-медыя ў Міністэрстве інфармацыі). Райвыканкам адмовіў прадпрымальніку ва ўзгадненні юрыдычнага адраса на падставе таго, што ён нібыта не можа выступаць у якасці рэдакцыі СМІ. У. Кудраўцаў абскардзіў гэтую адмову ў Магілёўскі аблвыканкам, і апошні прызнаў рашэнне крычаўскіх вертыкальшчыкаў незаконным, але не адмяніў яго. Пасля гэтага Крычаўскі райвыканкам унёс змены ў сваё рашэнне аб адмове ва ўзгадненні размяшчэння СМІ, наогул прыбраўшы з яго матывавальную частку.

На чарговую скаргу прадпрымальніка Магілёўскі аблвыканкам заявіў, што рашэнне крычаўскіх уладаў з'яўляецца законным. Пасля гэтага Кудраўцаў паскардзіўся ў гаспадарчы суд Магілёўскай вобласці. Адбыліся два судовыя паседжанні, пасля чаго справу ўзяў на разгляд у першай інстанцыі Вышэйшы гаспадарчы суд. Станоўчыя для прадпрымальніка вынікі суда не вызвалілі яго ад неабходнасці узгаднення размяшчэння сваёй газеты з крычаўскімі ўладамі. Да канца 2004 г. такое ўзгадненне так і не было атрымана.

***19 лютага*** Вышэйшы гаспадарчы суд адхіліў зыск смаргонскай прадпрымальніцы Вольгі Куняўскай да Гродзенскага аблвыканкама. В. Куняўская спрабавала абскардзіць адмову аблвыканкама ў рэгістрацыі яе прыватнага унітарнага прадпрыемства "Регион-пресс". Адхіліўшы зыск, суддзя Людміла Калеснікава паведаміла, што вынясе прыватнае вызначэнне ў адрас Гродзенскага аблвыканкама за тое, што чыноўнікі не ўказалі прычыны адмовы ў рэгістрацыі "Регион-пресс", а таксама пратэрмінавалі адказ прадпрымальніцы.

В. Куняўская, жонка выдаўца "Новой газеты Сморгони" Рамуальда Улана, звярнулася з заявай аб рэгістрацыі прыватнага ўнітарнага выдавецкага прадпрыемства "Регион-пресс" у Гродзенскі аблвыканкам яшчэ ў пачатку сакавіка 2003 г., аднак чыноўнікі адмовілі ёй без тлумачэння прычын. Планавалася, что УП "Регион-пресс" возьме на сябе функцыі рэдакцыі "Новой газеты Сморгони" пасля таго, як гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці па зыску Смаргонскага райвыканкама ануляваў рэгістрацыю індывідуальнага прадпрымальніка Р.Улана – выдаўца і заснавальніка газеты.

Разгляд зыска В.Куняўскай пачаўся студзеня ў гаспадарчым судзе Гродзенскай вобласці, але потым справу запатрабаваў Вышэйшы гаспадарчы суд.

## С. Атрошчанка і “Обозреватель” супраць “Народнай волі”

***18 лютага*** суд Ленінскага раёна г. Мінска часткова задаволіў зыск аб абароне гонару, годнасці, дзелавой рэпутацыі і кампенсацыі маральных стратаў Таварыства з абмежаванай адказнасцю (ТАА) "Альянс-медиа" (заснавальнік газеты "Обозреватель") да рэдакцыі газеты "Народная воля". Суд абавязаў "Народную волю" надрукаваць абвяржэнне інфармацыі, а таксама аплаціць судовыя выдаткі і паслугі адваката ТАА "Альянс-медиа". Патрабаванне ТАА "Альянс-медиа" аб кампенсацыі маральных стратаў у памеры 50 млн. рублёў суддзя Валянціна Зянькевіч адхіліла.

Падставай для зыску стаў надрукаваны 3 верасня 2003 г. ў газеце “Народная воля” артыкул “Как “Обозреватель” Сергея Атрощенко по-бандитски обошелся с Леонидом Левиным”. Аўтар артыкула апісаў канфлікт паміж рэдакцыяй "Обозревателя" (шэф-рэдактар – С. Атрошчанка) і Л. Левіным, які ўзнік на глебе артыкула "Депутаты Костян, Новосяд и Фролов -- личностные антисемиты?" Л.Левін сцвярджаў, што ў гэтым артыкуле, які прадстаўляў сабой інтэрв’ю Л.Левіна “Обозревателю”, журналістка выдання Ганна Мураўская сказіла яго словы: ён ніколі не абвінавачваў У.Навасяда і В.Фралова ў антысемітызме. Выканаць патрабаванне Л.Левіна аб надрукаванні абвяржэння “Обозреватель” адмовіўся, аб чым і паведаміла “Народная воля”.

На думку адказчыкаў, суд не даў належнай ацэнкі дзеянням рэдакцыі "Обозревателя" ў дачыненні да Л. Левіна і неабгрунтавана палічыў не адпаведнымі рэчаіснасці звесткамі ацэначныя меркаванні журналіста.

***26 красавіка*** Мінскі гарадскі суд адхіліў касацыйную скаргу рэдакцыі газеты "Народная воля", якая дамагалася адмены рашэння суда Ленінскага раёна ад 18 лютага.

***21 кастрычніка*** суд Маскоўскага раёна г. Мінска адмовіўся задаволіць зыск Валерыя Фралова аб абароне гонару і годнасці да рэдакцыі газеты "Обозреватель" і аўтара артыкула “Депутаты Костян, Фролов и Новосяд — личностные антисемиты?” Ганны Мураўскай. В. Фралоў патрабаваў ад адказчыкаў 100 мільёнаў рублёў за тое, што ў публікацыі яго назвалі “антысемітам”. Суд адмовіў зыскоўцу, спасылаючыся, сярод іншага, і на тое, што адпаведнасць рэчаіснасці звестак, надрукаваных у “Обозревателе”, прызнаная рашэннем суда Ленінскага раёна г. Мінска ад 18 лютага.

***1 сакавіка*** суд Ленінскага раёна г.Мінска (суддзя Вера Тупик) часткова задаволіў зыск бізнэсоўца Сяргея Атрошчанкі да “Народнай волі” і аўтара артыкула "Какому бизнесу в Беларуси хорошо?" Марыне Коктыш, абавязаўшы кампэнсаваць маральныя страты падаўца зыску і выплаціць яму 15 млн. рублёў (больш за 6900 долараў). Артыкул Марыны Коктыш "Какому бизнесу в Беларуси хорошо?" з'явіўся ў "Народнай волі" ўвосень 2003 г. і ўяўляў сабою падборку выказванняў вядомых у прадпрымальніцкіх колах людзей з нагоды заявы С. Атрошчанкі пра тое, што "...у Беларусі выдатныя ўмовы для бізнесу". Шэраг выказванняў С. Атрошчанка палічыў наўпроставымі зняважаннямі ў свой адрас. Адказчыкі ж сцвярджалі, што ў аспрэчаных выказваннях наогул не распаўсюджваліся ніякія звесткі пра

С. Атрошчанку: вядомыя навукоўцы і бізнэсмены ацэньвалі не зыскоўца, а яго выказванне і сітуацыю з бізнесам у Беларусі. Адказчыкі абскардзілі рашэнне суда Ленінскага раёна ў касацыйным парадку, але 3 траўня калегія Мінскага гарадскога суда пакінула яго без змен.

***29 верасня*** Сяргей Атрошчанка ў чарговы раз звярнуўся у суд Ленінскага раёна г. Мінска з патрабаваннем спагнаць з рэдакцыі газеты “Народная воля” яго дадатковыя судовыя выдаткі, звязаныя з разглядам касацыйнай скаргі рэдакцыі. Скарга тычылася рашэння суда, звязанага з публікацыяй "Какому бизнесу в Беларуси хорошо?" Суддзя Валянціна Бортнік задаволіла зыскавыя патрабаванні ў поўным аб’ёме і пастанавіла спагнаць з рэдакцыі яшчэ 776 тыс. рублёў. Большую частку гэтай сумы складала аплата паслугаў адваката Атрошчанкі.

***5 кастрычніка*** суд Ленінскага раёна г. Мінска разгледзеў аналагічны зыск да “Народнай волі” з боку ТАА "Альянс-медиа" (заснавальніка газеты "Обозреватель"). Суддзя Віктар Ганчар пастанавіў спагнаць з рэдакцыі 840 тысяч рублёў на кампенсацыю дадатковых судовых выдаткаў зыскоўца, звязаных з разглядам касацыйнай скаргі рэдакцыі. Скарга тычылася рашэння Ленінскага раённага суда ад 18 лютага г. г. па справе аб публікацыі "Как "Обозреватель" Сергея Атрощенко по-бандитски обошёлся с Леонидом Левиным". На думку прадстаўнікоў "Народнай волі", гэткая судовая практыка не заснавана на Грамадзянскім працэсуальным кодэксе Рэспублікі Беларусь і перашкаджае ажыццяўленню права на абскарджванне рашэння.

***1 ліпеня*** апеляцыйная рада пры Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасці пакінула ў сіле рашэнне, прынятае НЦІУ ў снежні 2003 г., згодна з якім таварны знак "Народная воля" быў аддадзены прадпрымальніку Сяргею Атрошчанку. Гэта рашэнне абскарждвала УП “Народная воля”.

Газета "Народная воля" была зарэгістравана Іосіфам Сярэдзічам як сродак масавай інфармацыі амаль 9 гадоў таму, і за гэты час ніхто не аспрэчыў яго аўтарства. Тое, што С. Атрошчанка ведаў пра існаванне гэтага "брэнду" на момант рэгістрацыі таварнага знаку, не выклікала сумневаў: прадпрымальнік да гэтага ініцыяваў некалькі судовых зыскаў супраць газеты.

Прадстаўнікі "Народнай волі" звярталі ўвагу і на тое, што рэгістрацыя таварнага знака заняла ў С. Атрошчанкі толькі некалькі дзён у той час, як, згодна з патрабаваннямі тагачаснага заканадаўства, толькі папярэдняя экспертыза заяўкі павінна была праводзіцца на працягу шасці месяцаў. Калі б рэгістрацыя таварнага знака адбывалася ў адпаведнасці з усімі прадугледжанымі працэдурамі, С. Атрошчанка не паспеў бы зарэгістраваць "брэнд" "Народная воля" на сябе: новы Закон "Аб таварных знаках", які пачаў дзейнічаць з 1 студзеня 2004 г., забараняе рэгістраваць таварны знак, які супадае з назвай СМІ, без згоды яго заснавальніка. У папярэдней рэдакцыі закона гэтая норма мела такі самы сэнс, але была сфармулявана не вельмі дакладна (“без згоды праваўладальніка”), на што і спаслаўся Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці.

Да канца 2004 г. С. Атрошчанка не прадпрыняў аніякіх захадаў у сувязі з рэгістрацыяй таварнага знака “Народная воля” на сваё імя.

## Ягор Рыбакоў супраць "Народнай волі"

***31 траўня*** калегія Вярхоўнага суда РБ па грамадзянскіх справах разгледзела пратэст намесніка старшыні Вярхоўнага Суда Вышкевіча па справе Ягора Рыбакова супраць газеты "Народная воля", журналісткі Марыны Коктыш і былой тэлевядоўцы Элеаноры Язерскай. Калегія зменшыла сумы кампенсацый за маральныя страты, якія маюць выплаціць былому кіраўніку Белтэлерадыёкампаніі Я. Рыбакову М. Коктыш ды Э. Язерская, з трох да аднаго млн. руб. Але для рэдакцыі газеты "Народная воля" сума спагнання засталася ранейшай - 50 млн руб. (больш за 23 тыс. долараў).

Першы суд па зыску адбыўся 26 верасня 2003 г. Падставай для канфлікту стаў апублікаваны яшчэ ў 2001 г. артыкул "Элеонора Язерская: пять пудов любви я гарантирую". Я. Рыбакоў, тагачасны старшыня Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі палічыў, што апублікаваныя ў ім звесткі не адпавядаюць рэчаіснасці, а таксама зневажаюць яго гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю. Калегія Мінскага гарадскога суда, якая 17 лістапада 2003 г. пераглядала гэтую справу па скарзе рэдакцыі і пратэсту пракуратуры, не толькі адхіліла скаргі адказнікаў, але і павялічыла суму кампенсацыі на карысць Рыбакова з 10 да 50 млн. рублёў для "Народнай волі" і з 1 да 3 млн. рублёў для М. Коктыш і Э. Язерскай.

На момант разгляду Вярхоўным судом пратэста на гэтыя судовыя пастановы Ягор Рыбакоў ужо амаль 4 месяцы знаходзіўся ў следчым ізалятары КДБ. Адразу пасля адхілення яго ад пасады ў лютым 2004 года ён быў абвінавачаны ў крадзяжы ў асабліва буйных памерах, хабарніцтве і злоўжыванні службовым становішчам і арыштаваны.

***13 жніўня*** суд Ленінскага раёна г. Мінска (суддзя Зянькевіч) адмовіў рэдакцыі газеты "Народная воля" у задавальненні скаргі на дзеянні судовага выканаўцы. Рэдакцыя прасіла прызнаць незаконнымі дзеянні судовага выканаўцы К. Крайнова, у выніку якіх быў сарваны выхад двух нумароў газеты "Народная воля".

4 жніўня К. Крайноў пад нагодаю забеспячэння выканання судовых рашэнняў па зысках Ягора Рыбакова і Сяргея Атрошчанкі папярэдзіў дырэктара друкарні «Красная звезда» пра тое, што ён не мае права па якіх-небудзь прычынах "выдаваць" газету "Народная воля", пакуль ВПУП "Народная воля" не выплаціць доўг па рашэнням суда. У скарзе сцвярджалася, што судовы выканаўца не мае права забараняць дырэктару друкарні выдаваць газету "Народная воля". Акрамя таго, рэдакцыя палічыла, што накладанне арышту на паперу, неабходную для гаспадарчай дзейнасці, было зроблена таксама з парушэннем закона, паколькі кошт іншай маёмасці ВПУП "Народная воля", на якое арышт быў накладзены раней, шматразова перавышаў суму спаганяных з рэдакцыі сродкаў. Разгледзеўшы скаргу, суд палічыў дзеянні судовага выканаўцы законнымі і адмовіў рэдакцыі "Народнай волі" ў задавальненні яе патрабаванняў. Арышт з маёмасці рэдакцыі быў зняты яшчэ да разгляду скаргі ў сувязі з выплатай рэдакцыяй усіх судовых спагнанняў.

Праз тыдзень, ***20 жніўня,*** Пракуратура Беларусі завершыла следства па справе былога старшыні Белтэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова, на карысць якога судовы выканаўца спаганяў большую частку

грошай, і накіравала справу ў Калегію па крымінальных справах Вярхоўнага суду. 11 лютага 2005 г. Ягор Рыбакоў быў асуджаны да 11 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць адказныя пасады на працягу 5 гадоў.

## Пераслед гродзенскіх журналістаў

***30 верасня*** суд Ленінскага раёна г. Гродна пастанавіў спагнаць з галоўнага рэдактара газеты "Биржа информации" Алены Раўбецкай штраф у памеры 70 базавых велічыняў (1 млн. 300 тыс. рублёў, альбо 600 долараў ЗША). Гэткім стаўся вынік слуханняў адміністратыўнай справы, якую завяла супраць журналісткі пракуратура Ленінскага раёна Гродна. Суддзя Наталля Козел палічыла, што А. Раўбецкая распаўсюдзіла праз СМІ несапраўдныя звесткі, якія зневажаюць гонар і годнасць Прэзідэнта РБ (ч. 10 арт. 172 -1 КаАП).

Падставай для завядзення справы стаў артыкул "Предательство именем народа", надрукаваны на першай паласе газеты 9-га верасня (№36). Прэтэнзіі выклікаў наступны фрагмент публікацыі: *"Референдум (а без него третьего срока не получить), объявленный господином президентом - это вызов обществу... Нужно обладать не только отсутствием совести, но и "господским" пренебрежением к плебсу…"*. Суд палічыў, што артыкул распаўсюдзіў непраўдзівыя звесткі, якія "*не адлюстроўваюць законнай падставы прызначанага ў адпаведнасці з артыкулам 85 Канстытуцыі рэферэндума, называючы рэферэндум "выклікам грамадству" з указаннем на адсутнасць сумлення"*.

***1 лістапада*** суд Ленінскага раёна Гродна асудзіў на 7 сутак адміністратыўнага арышту кіраўніка гродзенскай філіі Грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Паўла Мажэйку. Яго звінавацілі ў парушэнні парадку арганізацыі сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, пікетавання і г. д (арт. 167 ч.1 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях). Парушэнне суд угледзеў у акцыі, якую пяцёра гродзенскіх журналістаў правялі 4 кастрычніка, пратэстуючы супраць узмацнення ціску на незалежную прэсу. Нагодай для правядзення акцыі стала прыцягненне да адказнасці рэдактара газеты "Биржа информации" Алены Раўбецкай, якой інкрымінавалі распаўсюд абразлівай для прэзідэнта інфармацыі.

Адразу пасля аб'яўлення прысуду ў залі суду журналіст аб'явіў галадоўку.

***3-га лістапада*** суд Ленінскага раёна Гродна (суддзя Вікторыя Кулакоўская) пастанавіў на той самай падставе спагнаць па 20 базавых велічыняў (220 долараў) з журналістаў Наталлі Макушынай і Анатоля Макушына, якія разам з П. Мажэйкам і яшчэ двума калегамі ўдзельнічалі ў акцыі пратэста супраць узмацнення ціску на журналістаў.

Прадстаўнікоў прэсы, якія прыйшлі ў суд з бэйджамі "Свабоду Мажэйку!", міліцыя не ўпускала ў залю паседжанняў, прымушаючы зняць надпісы.

Наталлю і Анатоля Макушыных міліцыя затрымала 29-га лістапада ў

залі Ленінскага раённага суда, які ў той дзень разглядаў адміністратыўную справу Паўла Мажэйкі.

## Суд палічыў законнай канфіскацыю газеты “День”

***26 траўня*** Адміністрацыйная камісія Ленінскага р-на г. Гродна аштрафавала М. Маркевіча за "распаўсюд выданняў, выробленых з парушэннем устаноўленага парадку, якія не маюць выпускных дадзеных і змест якіх можа нанесці шкоду дзяржаўнаму і грамадскаму ладу, правам і законным інтарэсам грамадзян" (ч. 3 арт. 172 КоАП) на 19 тыс. руб. (менш за 10 долараў) і пастанавіла сканфіскаваць 4800 асобнікаў №11 газеты "День" (гл. таксама “*Перашкоды ў распаўсюдзе прадукцыі СМІ*”). Доказам таго, што газета магла нанесці шкоду дзяржаўнаму і грамадскаму ладу, правам і законным інтарэсам грамадзян адміністратыўная камісія палічыла меркаванне супрацоўніка міліцыі. Ён назваў патэнцыйна небяспечнай публікацыю разважання кіраўніка прадпрымальніцкага страйкама Валерыя Леванеўскага пра тое, ці могуць беларусы бараніць свае правы шляхам актыўнага пратэсту.

М. Маркевіч і яго прадстаўнік сцвярджалі, што артыкул 172 КаАП не тычыцца дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі (адказнасць за парушэнне заканадаўства аб СМІ вызначаецца артыкулам 172-1), а вызначае адказнасць за парушэнне правілаў распаўсюду друкаванай прадукцыі кшталту ўлётак. Па іх словах, газета “День” была выдадзена згодна з патрабаваннямі заканадаўства, мела ўсе неабходныя выпускныя дадзеныя, сам М. Маркевіч распаўсюдам не займаўся, ды і наогул, наклад выдання быў затрыманы міліцыяй яшчэ да таго, як дайшоў да распаўсюджвальнікаў (г. зн. адсутнічаў сам факт распаўсюду). У момант затрымання накладу М. Маркевіч знаходзіўся зусім у іншым месцы. Да таго ж, паводле арт. 25 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі", канфіскацыя накладу ці часткі накладу прадукцыі СМІ можа адбыцца толькі на падставе рашэння суда, а не адміністратыўнай камісіі.

М. Маркевіч абскардзіў пастанову адміністратыўнай камісіі ў суд. 28 чэрвеня суд Ленінскага р-на г. Гродна (суддзя Ганна Чылека) пакінуў без зменаў пастанову раённай адміністрацыйнай камісіі аб канфіскацыі наклада газеты "День" і пакаранні штрафам галоўнага рэдактара газеты Міколы Маркевіча. Судовая калегія па грамадзянскім справам суда Гродненскай вобл., якая ў жніўні разгледзела касацыйную скаргу М.Маркевіча на судовае рашэнне ад 28 чэрвеня, пакінула рашэнне суда Ленінскага р-на г. Гродна ў сіле.

## Яўген Крыжаноўскі супраць "БДГ"

***2 лістапада*** суд Кастрычніцкага раёна г. Мінска разгледзеў зыск аб кампенсацыі маральных стратаў Я. Крыжаноўскага і вырашыў спагнаць на яго карысць тры мільёны рублёў (прыблізна 1380 долараў) з "Белорусской деловой газеты" і 500 тысяч рублёў (каля 230 долараў) з журналіста Сяргея Сацука.

Падставай для судовага разбіральніцтва стала публікацыя "Хорошо пошутили, или Смеется тот, кто смеется без последствий", якая з'явілася ў "БДГ" 5-га сакавіка 2004 г. У артыкуле С. Сацука ішла гаворка пра ўдзел фірмы "Хрыстафор-Клірынг", сярод заснавальнікаў якой быў і Яўген Крыжаноўскі, у дзейнасці адной з мінскіх "фінансавых пірамід", з-за якой панеслі фінансавыя страты шмат якія беларускія прадпрыемствы. Я. Крыжаноўскі ў красавіку 2004 г. падаў зыск аб абароне гонару і годнасці з нагоды гэтай жа публікацыі, і суд прызнаў распаўсюджаныя газетай звесткі непраўдзівымі. Пытанне аб кампенсацыі маральных стратаў Я. Крыжаноўскі ў той час не ўздымаў. Пасля таго, як "БДГ" апублікавала частку пастановы суда, датычную абвяржэння распаўсюджаных газетай звестак, Я. Крыжаноўскі зноў звярнуўся ў суд, патрабуючы на гэты раз матэрыяльнай кампенсацыі у памеры 100 мільёнаў рублёў з газеты і 20 мільёнаў - з журналіста.

## Суд апраўдвае Белтэлерадыёкампанію

***7 чэрвеня*** суд Першамайскага раёна г. Мінска адхіліў зыск старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэта Таццяны Процькі і яе мужа Дзмітрыя Козыра да Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь і тэлежурналіста Юрыя Пракопава.

Зыскоўцы патрабавалі кампенсацыі маральных стратаў за тое, што тэлевізійнікі парушылі таямніцу іх прыватнага жыцця і распаўсюдзілі звесткі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці. У судзе яны прадставілі шэраг дакументаў, даводзячы, што здымачная група БТ знаходзілася на тэрыторыі прыватнай гаспадаркі без дазволу яе ўладальнікаў. Акрамя гэтага, зыскоўцы падалі дакументальныя доказы пагаршэння стану ўласнага здароўя і здароўя сваіх блізкіх пасля выхаду ў эфір згаданай праграмы. Усе гэтыя дакументы былі далучаныя судом да справы, але ніяк не паўплывалі на яго рашэнне.

Падставай для зыску стаў сюжэт у праграме "В центре внимания", прадэманстраваны па Першым нацыянальным тэлеканале ўвечары 29 лютага і паўтораны раніцай 1 сакавіка. У матэрыяле Юрыя Пракопава вялася гаворка пра прыбыткі і маёмасць некаторых прадстаўнікоў беларускіх палітычных партый і грамадскіх арганізацый -- у тым ліку кіраўніцы БХК Таццяны Процькі і яе мужа, кіраўніка фермерскай гаспадаркі "Забалоцце" Смалявіцкага раёна Дзмітрыя Козыра. Гэтак, у сюжэце быў паказаны дом і аўтамабілі, якія нібыта належаць гэтай сям'і, а ў аўтарскім тэксце названая буйная сума грошай, нібыта эквівалентная месячнаму заробку старшыні БХК.

***12 ліпеня*** суд Першамайскага раёна г. Мінска адмовіўся ўзбуджаць грамадзянскую справу па зыску партыі БНФ аб абароне дзелавой рэпутацыі супраць Белтэлерадыёкампаніі і журналіста Юрыя Пракопава. Суд палічыў, што партыя БНФ як некамерцыйная юрыдычная асоба наогул не можа мець "дзелавой рэпутацыі". У вызначэнні суда гаворыцца, што *"гэтая спрэчка належыць да сферы палітычнай дыскусіі, якая ўплывае на фармаванне палітычных поглядаў у грамадзян і не падлягае разгляду ў судзе"*. Падставай для зыску стала праграма "В центре внимания", прадэманстраваная па БТ

25 красавіка, і, у прыватнасці, сюжэт Ю. Пракопава "Чорная быль". У ім тэлежурналіст заявіў, што старшыня партыі БНФ Вінцук Вячорка абяцае адмяніць усе ільготы пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы ў выпадку прыходу да ўлады. 9 жніўня Калегія па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суду пакінула вызначэнне суда Першамайскага раёна г. Мінска ад 12 ліпеня дзейным.

***17 жніўня*** суд Першамайскага раёна г. Мінска (суддзя Анатоль Аніскевіч) адхіліў зыск старшыні Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі да трох беларускіх тэлерадыёкампаній, якія прадэманстравалі ў траўні стужку «Дорога в никуда». Палітык патрабаваў, каб суд прызнаў распаўсюджаныя ў стужцы сведчанні не адпаведнымі рэчаіснасці, абавязаў БТ, ОНТ і СТВ абвергнуць іх і назваць імёны аўтараў гэтай стужкі, якія выступалі пад псеўданімамі.

Суд не высветліў прозвішчаў тых, хто працаваў над стужкай, за выключэннем генеральнага дырэктара СТВ Аляксандра Зімоўскага, які прызнаў сваё аўтарства ў судзе.

## Суд над Паўлам Шараметам не адбыўся

Суд над кіраўніком аддзела спецпраектаў расійскага Першага канала Паўлам Шараметам, прызначаны на ***20 кастрычніка,*** не адбыўся. Нечакана высветлілася, што Савецкае РУУС не накіроўвала справу Шарамета ў суд. П. Шарамет быў затрыманы ўвечары 17 кастрычніка па абвінавачанню ў хуліганскіх дзеяннях. На журналіста склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні, прадугледжаным арт. 156 КоАП (дробнае хуліганства). Міліцыянты пакінулі без увагі заяву П. Шарамета аб нападзе на яго, не ўзялі паказанняў у сведкаў інцыдэнту і затрымалі журналіста. Яго адвезлі ў спецпрыёмнік-размеркавальнік МУС на вул. Акрэсціна, дзе журналіст адчуў сябе дрэнна. Са спецпрыёмніка ён быў дастаўлены ў лякарню, дзе медыкі зафіксавалі чэрапна-мазгавую траўму. (гл таксама “*Замахі на журналістаў і медыі*”; “*Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ*”).

22 кастрычніка аддзел інфармацыі і грамадскіх сувязяў ГУУС Мінгарвыканкама распаўсюдзіў абвестку, што вытворчасць па справе П.Шарамета часова прыпыненая, а дакументы адпраўлены на дадатковую праверку.

## “Время” прыпынілі незаконна

***12 лістапада*** Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь прызнаў несапраўдным загад аб прыпыненні дзейнасці газеты “Время”.

Выпуск газеты быў прыпынены на 3 месяцы 24 жніўня загадам №146, падпісаным міністрам інфармацыі Уладзімірам Русакевічам. Нагодаю для прыпынення выдання было названа тое, што ВПУП “Выдавецкі дом “Время” не паведаміў Міністэрству

інфармацыі аб змене юрыдычнага адрасу.

Рэдакцыя абскардзіла загад міністра ў суд. У часе судовага разбіральніцтва высветлілася, што ініцыятыва прыцягнення да адказнасці рэдакцыі газеты “Время” зыходзіла ад Пракуратуры Рэспублікі Беларусь. Прадстаўнікі рэдакцыі прадставілі суду дакументы, якія пацвердзілі своечасовасць паведамлення Міністэрству інфармацыі пра змену месцазнаходжання газеты “Время”. Пасля двухдзённага разбіральніцтва суддзя Аркадзь Сусла цалкам задаволіў іскавыя патрабаванні, прызнаўшы несапраўдным загад міністра інфармацыі № 146 "Аб прыпыненні дзейнасці газеты "Время", і пастанавіў спагнаць з адказчыка судовыя выдаткі, якія панёс ісцец. Рашэнне набыло моц з моманту яго аб'яўлення на судовым паседжанні. Судовае рашэнне на карысць рэдакцыі было вынесена незадоўга да заканчэння тэрміну, на які выданне газеты "Время" было прыпынена. Нягледзячы на гэта, прадстаўнікі істца выказалі задавальненне вынікамі судовага разбіральніцтва, паколькі два прыпыненні дзейнасці сродка масавай інфармацыі напрацягу года патрабуюць абавязковай перарэгістрацыі гэтага СМІ.

## Рэдактар аштрафаваны за галадоўку

Ваўкавыскі раённы суд ***25 лістапада*** пастанавіў спагнаць з Андрэя Шантаровіча 50 базавых велічынь (1 млн. 200 тыс. беларускіх рублёў, альбо 550 долараў). Суддзя Юры Якімовіч палічыў галадоўку заснавальніка і галоўнага рэдактара "Местной газеты" несанкцыянаваным пікетам.

А. Шантаровіч абвесціў галадоўку 20-га кастрычніка на знак пратэсту супраць рашэння Міністэрства інфармацыі прыпыніць на месяц выданне яго газеты і трымаў яе 21 дзень у памяшканні карпункта "Местной газеты" ў Ваўкавыску.

Начальнік аддзела Ваўкавыскага РАУС Аляксандр Глебаў, які 17 лістапада склаў пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні А. Шантаровіча (арт. 167-1 “Парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання”), у судзе аргументаваў сваю пазіцыю тым, што па ўсім горадзе былі вывешаныя плакаты з інфармацыяй пра галадоўку. На яго думку, гэта надало акцыі публічнасці і ператварыла яе ў несанкцыянаваны пікет.

## Тры гады зняволення за перашкоду працы журналістаў

На 3 гады пазбаўлення волі за перашкоду законнай журналісцкай дзейнасці і перавышэнне службовых паўнамоцтваў быў асуджаны **29 снежня** дырэктар Бабруйскага рынка “Заходні” Ілля Фамянок. Нагодай для судовага разбіральніцтва стаў канфлікт 31 жніўня. Падчас падрыхтоўкі журналістамі сюжэту аб прыцы рынкаў І.Фамянок пашкодзіў камеру здымачнай групы тэлекампаніі “Магілёў” (тэлекампанія ўваходзіць у склад Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі

Беларусь). Гэты выпадак узгадваў А. Лукашэнка падчас сустрэчы з калектывам Белтэлерадыёкампаніі яшчэ да часу судовага разбіральніцтва (*гл. таксама* "*Замахі на журналістаў і медыі*"; *"Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі*").

# СПРАВА ДЗМІТРЫЯ ЗАВАДСКАГА

Журналіст Дзмітры Завадскі, аператар расійскага тэлеканала “ОРТ”, знік без вестак 7 ліпеня 2000 г. па дарозе з Мінска да аэрапорту “Мінск-2”. 14 сакавіка 2002 г. Мінскі абласны суд прызнаў вінаватай у выкраданні журналіста групу былога супрацоўніка спецпадраздзялення “Алмаз” Валерыя Ігнатовіча, асудзіўшы дваіх чалавек на пажыццёвае зняволенне, а яшчэ некалькіх – на розныя тэрміны пазбаўлення волі. Між тым, лёс журналіста застаўся нявысветленым. 27 лістапада 2003 г. суд Фрунзенскага раёна г. Мінска прыняў рашэнне аб прызнанні зніклага журналіста памерлым.

***10 снежня 2003 г.*** Пракуратура РБ аднавіла расследаванне па справе аб знікненні Завадскага. Не выключана, што аднаўленне справы было звязана з візітамі ў Мінск спецыяльнага дакладчыка паліткамітэта Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы Хрыстаса Пургурыдэса, які рыхтаваў справаздачу пра зніклых і ў лістападзе-снежні 2003 г. двойчы наведваў Мінск.

***31 сакавіка 2004 г.*** Пракуратура Рэспублікі Беларусь другі раз прыпыніла расследаванне справы аб знікненні Дзмітрыя Завадскага, спаслаўшыся на "необнаружение безвестно исчезнувшего лица".

***9 красавіка*** міжнародная арганізацыя "Рэпарцёры без межаў" і Грамадскае аб’яднанне “Беларуская асацыяцыя журналістаў” выступілі з супольнай заявай, у якой выказалі сваю заклапочанасць з нагоды спынення расследавання крымінальнай справы, заведзенай па факце знікнення тэлеаператара Дзмітрыя Завадскага.

***20 ліпеня*** на прэс-канферэнцыі для беларускіх і замежных журналістаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка заявіў, што валодае дакументамі, паводле якіх “справа Завадскага ператворыцца ў антысправу”.

***4 жніўня*** маці зніклага журналіста Вольга Завадская падала ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь заяву аб аднаўленні расследавання справы аб знікненні Дз. Завадскага ў сувязі з наноў адкрытымі абставінамі. Паводле заявы, са словаў А. Лукашэнка на прэс-канферэнцыі вынікае, што ён валодае фактычнай інфармацыяй і дакументамі, якія маюць дачыненне да справы аб знікненні Д. Завадскага, але дагэтуль не абнародаваныя і не вывучаныя следствам і судом. Вольга Завадская запатрабавала правесці пракурорскую праверку гэтых фактаў і, пры наяўнасці падставаў, узбудзіць вытворчасць па справе ў звязку з наноў адкрытымі абставінамі. Пракуратура ніяк не адрэагавала на зварот, і 17 верасня В. Завадская падала ў суд Цэнтральнага раёна Мінска скаргу на незаконныя дзеянні пракурорскіх работнікаў, патрабуючы абавязаць іх даць матываваны адказ.

***12 кастрычніка*** суддзя суда Цэнтральнага раёна г. Мінска С. В. Ганчар адмовіўся разглядаць скаргу В. Завадскай на дзеянні службовых асобаў Пракуратуры Рэспублікі Беларусь у сувязі з "непадведамаснасцю" справы. Пасля гэтага В. Завадская падала скаргу ў суд вышэйшай інстанцыі.

***25 лістапада*** калегія Мінскага гарадскога суда пад старшынствам суддзі Лугіной адхіліла скаргу Вольгі Завадскай.

***3 снежня*** В. Завадская атрымала ліст з Пракуратуры Рэспублікі Беларусь за подпісам начальніка ўпраўлення Ф. А. Шэдава, у якім сказана, што *"вывучэннем крымінальнай справы па абвінавачанні Ігнатовіча і Маліка ўстаноўлена, што ў ёй сабраны ўсе матэрыялы па ўказаным эпізодзе злачынства (...) Іншых матэрыялаў у органах пракуратуры і іншых дзяржаўных арганізацыях няма. Пры такіх абставінах няма падставаў для ўзбуджэння вытворчасці па наноў адкрытых абставінах…"*. З адказу пракуратуры не зразумела, ці былі запатрабаваныя і вывучаныя дакументы, аб існаванні якіх заявіў на прэс-канферэнцыі 20 ліпеня А. Лукашэнка і якія прасіла ў сваёй заяве вывучыць В.Завадская.

***10 снежня*** В. Завадская накіравала скаргу Генеральнаму пракурору П. Міклашэвічу на адмову Рэспубліканскай пракуратуры ўзбуджаць вытворчасць па наноў адкрытых абставінах у справе аб знікненні яе сына.

# СПІС БЕЛАРУСКІХ ПЕРЫЯДЫЧНЫХ ДРУКАВАНЫХ ВЫДАННЯЎ, ЗГАДАНЫХ Ў МАНІТОРЫНГУ

**“Адзінства”** -- грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Барысаўскі гарадскі выканаўчы камітэт

**“Алеся”** -- часопіс, заснавальнік – Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку (сёння – Міністэрства інфармацыі РБ)

**“Алло!”** -- недзяржаўная баранавіцкая рэкламна-інфармацыйная рэгіянальная газета

**“Асамблея”** -- незарегістраваны бюлецень незарэгістраванай Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый

**“Белорусская газета”** -- недзяржаўнае рэспубліканскае інфармацыйна-аналітычнае выданне

**“Белорусская деловая газета”** -- недзяржаўнае рэспубліканскае грамадска-палітычнае выданне

**“Белорусская нива”** -- грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

**“Белорусский рынок”** -- недзяржаўная аналітычная газета для дзелавых людзей

**“Биржа информации”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная гродзенская газета

**“Брестский курьер”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Борисовские новости”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Версия”** -- недзяржаўная газета, якая спецыялізуецца на забаўляльных матэр’ялах па крымінальнай тэматыцы

**“Вечерний Гродно”** -- грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Гродзенскі гарадскі выканаўчы камітэт, РІА “Вечерний Брест”, РГ “Вячэрні Гомель экспрэс”.

**“Вечерний Столин” --** незалежная газета, працяглы час не выходзіць

**“Витебский курьер”** -- незалежная грамадска-палітычная газета

**“Вожык”** -- гумарыстычны часопіс; заснавальнік – Савет Міністраў РБ

**“Вольны час. Свободное время”** -- выданне для вольнага часу (Гомель, Мозыр, Жлобін, Рэчыца). Працяглы час не выходзіць

**“Время”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Вясёлка”** -- дзіцячы часопіс; заснавальнік – Беларусі дзіцячы фонд, рэдакцыя часопіса “Вясёлка”

**“Ганцавіцкі час”** -- ганцавіцкае недзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне; заснавальнікі – ТАА “Выдавецкі дом “Интекс-пресс”, Уладзімір Янекувіч

**“Голас Касцюкоўшчыны”** -- раённая грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Касцюковіцкі раённы выканаўчы камітэт

**“Голас Пружан” --** рэгіянальная недзяржаўная грамадска-палітычная газета; пасведчанне аб рэгістрацыі выдання прызнана Міністэрствам інфармацыі страціўшым сілу ў 2003 г.

**“Гоман Барысаўшчыны”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная асветніцкая газета

**“Гомельская праўда”** -- грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Гомельскі абласны выканаўчы камітэт, Гомельскі абласны Савет дэпутатаў, рэдакцыя газеты “Гомельская праўда”

**“День”** – рэспубліканская і рэгіянальная грамадска-палітычная недзяржаўная газета

**“Детективная газета”** – недзяржаўная газета, якая спецыялізуецца на забаўляльных матэр’ялах па крымінальнай тэматыцы.

**“Жыццё Палесся”** – мозырская грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Мозырскі гарадскі выканаўчы камітэт

**“Заря”** – брэсцкая абласная грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Брэсцкі абласны Савет дэпутатаў, Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт, калектыў рэдакцыі “Заря”

**“Звязда”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Савет Рэспублікі, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, Савет Міністраў РБ

**“Згода”** – недзяржаўная рэспубліканская інфармацыйна-аналітычная газета

**“Знамя юности”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі, Дэпартамент па справах моладзі Міністэрства адукацыі РБ

**“Intex-press” –** баранавіцкая грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – тэлекампанія “Интекс”, ТАА “Выдавецкі дом “Интекс-пресс”

**“Кабельное телевидение”** – брэсцкая газета праграм тэлеперадач

**“Кіравец”** – раённая грамадска-палітычная газета (г. Кіраў, Магілёўская вобл.); заснавальнік – Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт

**“Комсомольская правда” в Белоруссии”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Криминальное обозрение”** – недзяржаўная газета, якая спецыялізуецца на матэр’ялах па крымінальнай тэматыцы

**“Ленінскі кліч”** – грамадская газета Крычаўскага раёна; заснавальнік – Крычаўскі раённы выканаўчы камітэт

**“Любой каприз” –** магілёўская недзяржаўная інфармацыйна-рэкламная газета

**“Ляхавіцкі веснік”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Ляхавіцкі раённы Савет дэпутатаў, Ляхавіцкі раённы выканаўчы камітэт

**“Ляхавіцкі час”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета; заснавальнікі -- ЗАТ “Выдавецкі дом “Интекс-пресс”, Уладзімір Янукевіч

**“Местная газета”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета (Ваўкавыск). Пасля спынення выхаду “Новой газеты Сморгони” выходзіць у Смаргоні

“The **Minsk Times International” –** дзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне

**“Новая газета Сморгони”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета (з 2005 г. пасведчанне аб рэгістрацыі анулявана)

**“Молодёжный проспект”** – недзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне; заснавальнікі – Рэспубліканская грамадская моладзевая арганізацыя “Грамадзянскі форум”, Уладзімір Навасяд

**“Народная воля”** – штодзённая рэспубліканская недзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Народная газета”** – дзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Наша доля”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Цэнтральнае праўленне Беларускага таварыства інвалідаў

**“Навінкі”** – недзяржаўная сатырычная газета

**“Народный предприниматель”** – недзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне

**“Неделя”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета. Выходзіла пасля спынення выдання газеты “Время”. Выпуск выдання быў прыпынены пасля першага ж выхаду

**“Новае Палессе”** – грамадска-палітычная газета Жыткавіцкага раёна; заснавальнікі – Жыткавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Жыткавіцкі раённы Савет дэпутатаў

**“Новы час”** – недзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне; заснавальнік – Мінская гарадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы (ТБМ) імя Францыска Скарыны.

**“Обозреватель”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнік – ТАА “Альянс-медиа”. Шэф-рэдактар – Сяргей Атрошчанка, ініцыятар закрыцця недзяржаўнай газеты “Свободные новости”. Застаўшыеся заснавальнікі выдаюць газету “СН+” – “Свободные новости плюс”

**“Предпринимательская газета”** – недзяржаўная газета для дзелавых людзей

